*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*




# Літаратура і мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 23 снежня 1988 г. № 51 (3461) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.

## «ЗЯМЛЯ НАВАГРУДСКАЯ, КРАЮ МОЙ РОДНЫ...»

Адам Міцкевіч і Беларусь...

Перад замглёным паглядам міжволі паўстаюць вабныя надпямонскія краявіды, старажытныя наваградскія муры, апетае геніяльным паэтам возера Свіцязь з маляўнічымі ваколіцамі чароўнага кутка нашай зямлі. І светла трывожаць, кранаюць сэрца поўныя замілавання Міцкевічавы словы, пісаныя па-польску, але са шчырай беларускай тугою па роднай старонцы:

Нёман, прытулак мой хатні!
Празрыстай вадою
Ты абмываў мне калісьці
малому далоні...

На ўрачыстасці, прысвечаныя 190-годдзю з дня нараджэння Адама Міцкевіча, на ягоную радзіму, у Навагрудак, прыехалі пісьменнікі і навукоўцы з Польшчы і Украіны, з Мінска і Гродзеншчыны. Госці агледзелі Дом-музей Адама Міцкевіча, наведалі Курган неўміручасці, насыпаны ў гонар геніяльнага польскага паэта, усклалі кветкі — даніну светлай пашаны да яго памяці.

У гарадскім Доме культуры адбыўся вялікі літаратурна-музычны вечар. Шчырым беларускім словам адкрыў яго першы сакратар Навагрудскага гаркома партыі Р. І. Унучка.

Дэлегацыі Саюза пісьменнікаў Беларусі былі паднесены хлеб-соль.

Сакратар праўлення СП БССР Васіль Зуёнак, які вёў літаратурную частку вечара, у сваім выступленні падкрэсліў непераходнае значэнне геніяльнай асобы Адама Міцкевіча для




Вечар вядзе Васіль ЗУЁНАК.

польскай, беларускай і ўсяе славянскае культуры, глыбокую народнасць, гуманізм і інтэрнацыянальны характар ягонай творчасці, напоўненай вялікай любоўю да простага люду, да паляка і да «ліцьвіна» — гэта значыць, беларуса.

Старшыня праўлення Беларускага фонду культуры пісьменнік Іван Чыгрынаў пад усеагульнае ўхваленне залы выказаў прапанову аб аднаўленні хутара Завоссе, дзе нарадзіўся А. Міцкевіч, аб неабходнасці рэканструяваць у бліжэйшы час памятныя мясціны, звязаныя з жыццём і творчым шляхам паэта.

А затым гучалі вершы, прысвечаныя вялікаму Адаму, пераклады ягоных твораў на беларускую мову. Іх чыталі адзін са старэйшых нашых перакладчыкаў і паэтаў Пятро Бітэль, Вольга Іпатава, Ніна Загорская, Юрка Голуб, госць з братняй Украіны, сакратар Валынскай абласной пісьменніцкай арганізацыі Пятро Мах, мясцовы паэт Самсон Пярловіч.

Цёплае слова сказаў у заключэнне загадчык сектара мастацкай літаратуры аддзела культуры ЦК КПБ А. І. Бутэвіч.

На ўрачыстым вечары прысутнічалі першы намеснік міністра культуры БССР У. А. Гілеп, прадстаўнікі Генеральнага консульства ПНР у Мінску — консул па культуры, навуцы і інфармацыі Зыгмунт Худзік, які выступіў з прамоваю, консул Станіслаў Арола, дырэктар Ежы Сульмірскі.

Адбыўся вялікі канцэрт. Прагучалі вершы, балады А. Міцкевіча на польскай мове, творы класічнай музыкі, беларускія народныя песні і танцы ў выкананні харавой капэлы Акадэміі навук БССР, лепшых самадзейных і фальклорных калектываў Гродзеншчыны.

П. ЛІПАЙ.

Фота А. КАЛЯДЫ.

## Мы з табой, Арменія!

Лаканічныя паведамленні друку нагадваюць паведамленні з фронту... Так, бо тое, што адбываецца сёння ў Арменіі, сапраўды можна назваць фронтам. Тылы яго надзейна забяспечаны — гэта дружба і братэрства савецкіх народаў-братоў, іх гатоўнасць падзяліць чужую біду. Пярэдні ж край — расчышчэнне завалаў, аднаўленне камунікацый і дарог, аказанне дапамогі пацярпеўшым, эвакуацыя раненых і дзяцей.

Шмат, вельмі шмат работы. Поруч з працаўнікамі іншых нацыянальнасцяў у Арменіі сёння гераічна працуюць і пасланцы братняй Беларусі. І па-ранейшаму паступаюць грошы на рахунак 700412. Рахунак, што стаў рахункам спачування і салідарнасці.

Больш за 9 тысяч рублёў на рахунак 700412 паступіла ад кінастудыі «Беларусьфільм». Збор сродкаў працягваецца, свой аднадзённы заробак пераводзіць супрацоўнікі гэтага калектыву.

Паступаюць у фонд ліквідацыі вынікаў стыхіі і грошы ад калектыву Беларускай дзяржаўнай філармоніі. Мяркуецца, што яе супрацоўнікі пералічаць да 4 тысяч рублёў. У філармоніі распрацаваны праграмы дабрачынных канцэртаў, прыбытак ад якіх будзе пераводзіцца на рахунак 700412 на працягу значнага часу.

10 тысяч рублёў паступіла на гэты рахунак з фонду сацыяльнага развіцця выдавецтва «Народная асвета». Акрамя таго, кожны супрацоўнік выдавецтва пералічыў свой дзённы заробак.

Горача адгукнуліся на бяду братняга народа мастакі рэспублікі. Беларускае аддзяленне Мастацкага фонду СССР адправіла на аднаўленне армянскіх гарадоў і вёсак 20 тысяч рублёў. Ад многіх членаў творчага саюза паступілі ўжо асабістыя ўзносы. У гэтыя дні ў мінскім Палацы мастацтваў і салоне-магазіне Мастацкага фонду БССР працуе спецыяльная выстаўка-продаж арыгінальных твораў. Выручаныя грошы — на рахунак 700412.

## ПЕРШЫ ВОПЫТ

**Творчыя саюзы рэспублікі распачалі кампанію па выбарах народных дэпутатаў СССР**

У сераду, 21 снежня, адбыўся чарговы пленум праўлення Саюза тэатральных дзеячаў БССР. Абмяркоўваліся на ім праблемы творчай моладзі сцэнічных калектываў рэспублікі. Пленум праходзіў бурна, у нязвыклай атмасферы—галоўным чынам, дзякуючы досыць арыгінальнаму «рэжыму працы», які прапанаваў сваім калегам дакладчык, старшыня камісіі СТД па рабоце з творчай моладдзю Валерый Маслюк... Зрэшты, у бліжэйшых нумарах «ЛіМа» будзе змешчана падрабязная справаздача аб тэатральным пленуме. Я ж спяшаюся па гарачых слядах расказаць, як адзін з рэспубліканскіх творчых саюзаў выконваў новую для сябе, надзвычай важную і адказную місію—вылучаў кандыдатаў у народныя дэпутаты СССР.

Як вядома, у адпаведнасці з новымі законамі аб змяненнях і дапаўненнях Канстытуцыі СССР і аб выбарах народных дэпутатаў СССР творчыя саюзы разам з іншымі грамадскімі арганізацыямі атрымалі права на непасрэднае прадстаўніцтва сваіх дэпутатаў у вышэйшым органе дзяржаўнай улады. На мінулым тыдні бюро праўлення СТД СССР, у якое ўваходзяць старшыні праўленняў СТД усіх саюзных рэспублік, вызначыла працэдуру ўдзелу тэатральных дзеячаў у выбарчай кампаніі, утварыла выбарчую камісію (у яе складзе сярод іншых і народная артыстка БССР Марыя Захарэвіч). Было вырашана, што кандыдатаў спачатку вылучаюць на сходах тэатральных калектываў і аддзяленняў СТД, пасля абмяркоўваюць на пленумах праўленняў СТД саюзных рэспублік. 9 студзеня 1989 г. пленум праўлення СТД СССР зацвердзіць агульны спіс кандыдатаў, якія распачнуць барацьбу за дэпутацкія мандаты (мяркуецца, што іх будзе 8—10). Выбары народных дэпутатаў СССР ад тэатральнага саюза краіны адбудуцца на Усесаюзнай канферэнцыі, дата правядзення якой пакуль што не названа.

Такім чынам, на парадак дня чарговага пленума СТД Беларусі трапіла «нечарговае» пытанне. Можна, вядома, пашкадаваць, што вылучэнне кандыдатаў у тэатрах і пярвічных арганізацыях саюза праходзіла ў вельмі сціслы тэрмін. Разам з тым, сходы паўсюль адбыліся своечасова, і на разгляд пленума быў прадстаўлены спіс з 44 прозвішчаў, якія і былі ўнесены ў бюлетэні для тайнага галасавання.

Далей усё ішло паводле звыклай працэдуры. Члены праўлення «паваражылі» над бюлетэнямі, апусцілі іх у урну. Праз пэўны час старшыня падліковай камісіі Геральд Асвяцінскі назваў кандыдатуры, якія набралі большасць галасоў (дарэчы, усе—больш палавіны): Аляксей Дудараў, Валянцін Елізар'еў, Марк Захараў, Кірыл Лаўроў, Эймунтас Някрошус, Барыс Пакроўскі, Мікалай Яроменка, Алег Яфрэмаў, Міхаіл Ульянаў.

Невялікі каментарый. Мяркую, што маю на яго права—і як удзельнік з правам голасу («па матывах галасавання»), і як журналіст (паводле службовых абавязкаў). Многіх чытачоў, напэўна, здзівіць той факт, што з дзевяці кандыдатур, вылучаных творчым саюзам рэспублікі, толькі чатыры — прадстаўнікі тэатральнага мастацтва Беларусі. Ці не залішне літаральна зразумелі ў нас параду бюро праўлення СТД СССР не прытрымлівацца «нацыянальна-тэрытарыяльнага» прынцыпу? Пытанне слушнае, хоць адназначна на яго наўрад ці адкажаш. З аднаго боку, і спіс з 44 прозвішчаў (найцікавейшы, лічу, дакумент), і вынікі галасавання дазваляюць высветліць, хто ёсць хто ў тэатральным свеце. З другога—вынікі гэтыя сведчаць, на жаль, пра нестабільнасць тэатральнай сітуацыі ў рэспубліцы. Апошняе, на маю думку, не спрыяе згуртаванасці, кансалідацыі нашага творчага саюза.

Што будзе далей? Паглядзім, паўдзельнічаем. Усё ж толькі пачынаецца...

А. ГАНЧАРОЎ.

# У ПАСТАЯННЫХ КАМІСІЯХ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА БССР

*На прайшоўшым першым пасяджэнні камісіі па нацыянальных пытаннях і міжнацыянальных адносінах Вярхоўнага Савета БССР абмеркаваны праблемы, звязаныя з павышэннем ролі беларускай мовы і культуры ў грамадскім жыцці.*

Адзначалася, што ў рэспубліцы распрацаваны мерапрыемствы, якія прадугледжваюць адкрыццё беларускамоўных дзіцячых садоў, школ, класаў. Плануецца расшырыць маштабы вывучэння роднай мовы ў вышэйшых навучальных установах, павялічыць тыражы выданняў на беларускай мове, узбагаціць творамі беларускіх аўтараў рэпертуары творчых прафесійных і самадзейных калектываў. Абмеркаваны шляхі паляпшэння падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі кадраў для выкладання беларускай мовы і літаратуры.

Падкрэслівалася, што чакаецца таксама *вялікая работа па павышэнню ўзроўню беларускай* культуры і мастацтва, захаванню помнікаў гісторыі. Асаблівая ўвага ўдзелена далейшаму ўдасканаленню патрыятычнага і інтэрнацыянальнага выхавання ўсіх пластоў насельніцтва, асабліва моладзі. Адначасова ўказвалася, што, апіраючыся на сілу пераканання і аўтарытэт закону, важна процідзейнічаць любым спробам перавесці натуральныя нацыянальныя пачуцці ў разбуральны напрамак нацыяналізму, імкненню некаторых асоб выкарыстоўваць расшырэнне дэмакратыі і публічнасці ў антыдэмакратычных мэтах.

Зацверджан план работы камісіі на першае паўгоддзе 1989 года.

На пасяджэнні выступіў намеснік старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР У. А. Мікуліч.

БЕЛТА.

# «ПЯТАЯ ПАРА ГОДА»

І зноў зіма, зноў Масква, канцэртная зала «Расія». Тое самае было тры гады назад: хваляванне за кулісамі, перапоўненая зала... «Пятая пара года» — так называліся аўтарскія вечары народнага артыста СССР Ігара Лучанка, што праходзілі ў Маскве. Нязвыклая назва? Але, прыгадаўшы імклівы рытм жыцця кампазітара і ўсё, што ім створана, разумееш, што сказана гэта менавіта пра ягоныя песні.

У канцэртах гучалі песні, якія даўно палюбілі слухачы («Вераніка», «Я хаджу, закаханы», «Майскі вальс», «Рабінавы гай»), і тыя, што толькі ўваходзяць у жыццё («Ціхі куток», «Забіваюць каханне», «Сівізна»). Зала цёпла прымала іх выканаўцаў Я. Еўдакімава, Я. Паплаўскую, Я. Ціхановіча, В. Талкунову, Т. Гвердцытэлі, І. Кабзона, ансамблі «Песняры», «Сябры». Нязменным удзельнікам праграмы быў Дзяржаўны канцэртны аркестр Беларусі пад кіраўніцтвам М. Фінберга. Канцэрт аздаблялі вершы беларускіх паэтаў (чытала З. Бандарэнка) і харэаграфічныя кампазіцыі ансамбля «Чараўніцы».

Пяць вечароў у Дзяржаўнай цэнтральнай канцэртнай зале поўніліся мелодыямі І. Лучанка. Гэта была і сапраўды асаблівая, песенная пара года...

Л. СЯРГЕЙЧЫК.

# МІНСК ПРЫМАЕ ЭСТАФЕТУ

Заканчваюцца Дні паказу дасягненняў народнай творчасці, прысвечаныя 70-годдзю ўтварэння БССР і Кампартыі Беларусі. Апошнімі фестывальную эстафету прынялі народныя майстры Мінска. У праграме Дзён — II гарадскі фестываль аматарскіх аб'яднанняў і клубаў *па інтарэсах, сустрэча* з клубамі самадзейнай песні, маладзёжныя вечары.

У палацах культуры горада праходзяць фальклорныя святы, у Выставачнай зале УНДІНТІ на праспекце Машэрава размешчана экспазіцыя твораў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. У заключныя дні фестывалю — 24 і 25 снежня — у Палацы культуры тэкстыльшчыкаў адбудзецца вялікае свята бальнай харэаграфіі «Мінскі баль-88», у якім, акрамя мінчан, прымуць удзел выканаўцы з Балгарыі, Масквы, Рыгі, Таліна, Кіева.

Заключны канцэрт лепшых мастацкіх калектываў горада адбудзецца 25 снежня ў Палацы культуры і тэхнікі Мінскага аўтазавода.

# ШЛЯХ БАРАЦЬБЫ І ПЕРАМОГ

*«Па волі народа»* — так называецца зборнік матэрыялаў, дакументаў, сабраных супрацоўнікамі Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КПБ, які выпусціла выдавецтва «Беларусь» да 70-годдзя БССР і Кампартыі Беларусі. Яны даюць мажлівасць прасачыць той шлях, які прайшоў беларускі народ, згуртоўваючыся вакол партыі бальшавікоў, змагаючыся за Савецкую ўладу.

Сярод 162 дакументаў нямала тых, якія на шырокі суд грамадскасці выносяцца ўпершыню. *Яны нядаўна выяўлены ў* партыйным архіве Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КПБ, а таксама ў адпаведных архівах Брэсцкага, Віцебскага, Магілёўскага абкомаў партыі. Сюды ж увайшлі і новыя дакументы з Цэнтральнага дзяржаўнага архіва Кастрычніцкай рэвалюцыі і сацыялістычнага будаўніцтва БССР.

Кніга *«Па волі народа»* — адно з новых выданняў, прадстаўленых на рэспубліканскай выстаўцы кніг, прысвечаных 70-годдзю ўтварэння Беларускай ССР і Кампартыі Беларусі. Выстаўка арганізавана Дзяржаўным камітэтам па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю Беларускай ССР і Рэспубліканскім праўленнем дабраахвотнага таварыства аматараў кнігі. Яна адкрылася ўчора ў Доме кнігі па праспекце Машэрава ў Мінску.

Усяго да знамянальнай даты ў рэспубліцы выйшла больш за сто новых кніг. Гэта раманы і аповесці, зборнікі вершаў і паэм, альбомы, публіцыстычныя выданні. Большасць з іх і можна ўбачыць на выстаўцы.

Усяго ў экспазіцыі 1000 кніг, выпушчаных выдавецтвамі рэспублікі ў асноўным за пасляваенны перыяд. Трапілі на выстаўку і унікальныя выданні. Яны датаваны першымі паслярэвалюцыйнымі гадамі і перадаюць саму атмасферу змагання за новы свет.

Выстаўка будзе працаваць да 6 студзеня 1989 года.

НАШ КАР.

# Беларускі спектакль у Нідэрландах

**Дванаццаць дзён працягвалася гастрольная паездка Дзяржаўнага тэатра лялек БССР на Нідэрландах. За гэты час калектыў наведаў чатырнаццаць гарадоў, дзе паказаў пятнаццаць разоў спектакль «Дзед і Жораў» па казцы Віталя Вольскага.**

*Зразумела, нельга было* чакаць, што ўдасца разблытаць за адзін вечар складаны клубок прававых праблем, якія назапасіліся *ў нас у выніку* дэфармацый і адступленняў ад сацыялізму на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў. Збянтэжыла, аднак, яўна неадэкватная рэакцыя некаторых прысутных на крытычныя, дыскусійныя выступленні. Нават антысталінскія, антыкультаўскія выказванні выклікалі ў асобных удзельнікаў нешта накшталт нервовага ціку. У нейкі момант пачала адчувацца яўная канфрантацыя паміж рознымі групамі людзей у зале. Гучалі абвінавачванні ледзь не ў «дысідэнцтве».

Трэба сказаць, што ў дыскусіі паставіла кропкі над «і» выступленне доктара філасофскіх навук Л. Ф. Яўменава. Ён нагадаў пра выступленне М. С. Гарбачова на Генеральнай *Асамблеі ААН і яго рашучыя* прапановы ў галіне правоў чалавека. Стварэнне прававой дзяржавы — гэта не імгненны акт, *а працэс, сказаў вучоны.* Пачатак гэтаму працэсу паклала XIX Усесаюзная партканферэнцыя. Мы ўсе яшчэ толькі вучымся дэмакратыі, элементарным прававым асновам. І навучыцца гэтаму можам толькі ўсе разам.

На пачатку дыскусіі доўга, як гэта водзіцца, не маглі наладзіць гукаапаратуру. То не было чуваць слоў аратара, то яны гучалі надта гучна, то нагул з калонак неслася нейкае сіпенне, шоргат і завыванне. І гэтая сітуацыя падалася ў той момант у нечым сімвалічнай. Мы ўсе хочам нешта сказаць, хочам, каб нас пачулі. Дык не будзем перашкаджаць у гэтым натуральным жаданні астатнім. Давайце вучыцца дэмакратыі.

**Віталь ТАРАС.**

*Да 70-годдзя БССР і Кампартыі Беларусі*

# ПАКАЗВАЮЦЬ УМЕЛЬЦЫ МАГІЛЁЎШЧЫНЫ

...Шчыра кажучы, *уменню разьбяра па дрэве Р. Іванчанкі* з Магілёва можна дзівіцца доўга, калі стаіш каля куфраў, выробленых яго рукамі. Якое трэба мець зайздроснае цярпенне, каб стварыць такі цуд!

Варыяцыі на тэмы простых вясковых сюжэтаў працягваюць работы І. Кірыенкава. Думцы горацкага разьбяра па дрэве характэрны дасціпны гумар, які чытаецца ў кожнай *драўлянай скульптуры, якая* выйшла з-пад рукі майстра.

З экспанатаў разьбяроў па дрэве таксама можна адзначыць шэраг работ В. Давыдзенкі з Магілёва, навучэнцаў СПТВ-15 г. Бабруйска, драўляныя шахматы бабруйчаніна К. Маскалёва.

Вялікі раздзел экспазіцыі быў аддадзены жывапісу самадзейных мастакоў Магілёўшчыны, дзе вылучаліся творы П. Бунасава, Г. Капусціна, Ю. Камісарава.

Убачылі мы пасцілкі з Глускага, Клічаўскага і Бабруйскага раёнаў, работы абласнога фотаклуба «Магілёў» і майстрыц *па пляценню з саломкі.*

Асобна на выстаўцы былі прадстаўлены старадаўнія абразы ў разьбярных рамах, драўляныя скульптуры святых, старадрукі — *своеасаблівая* спадчына народных майстроў Магілёўшчыны, якая дайшла да нас праз стагоддзі.

Л. ВЯЧАС.



І. КІРЫЕНКАЎ. «Вясёлыя бондары» (разьба па дрэве).



Вырабы з саломкі.

Фота Ул. КРУКА.

# ГЕРОЙ, ЯКОГА ЧАКАЕ СЦЭНА

**Наш карэспандэнт гутарыць з рэжысёрам народнага тэатра Краснапольскага РДК, заслужаным работнікам культуры БССР Валянцінам ЕРМАЛОВІЧАМ**

**— Валянцін Іванавіч, самадзейныя тэатры ўвагай друку, як правіла, не спешчаны...**

— Яно так, хоць мы суцяшаем сябе думкай, што робім справу, патрэбную людзям. Мяркуйце самі, нягледзячы на слабую прапаганду тэатральнага аматарства, жыхары вёсак пішуць у газету: «Дапамажыце прыехаць да нас народнаму тэатру, даўно чакаем...»

**— Некалькі слоў, калі ласка, пра ваш калектыў.**

— У нас працуе 60 чалавек. У год звычайна ставім чатыры спектаклі, у асноўным арыентуючыся на беларускую драматургію. У рэпертуары тэатра «Партызаны» і «Хто смяецца апошнім» К. Крапівы, «Таблетку пад язык» і «Трыбунал» А. Макаёнка, «Вечар», «Парог» і «Радавыя» А. Дударава, «Раскіданае гняздо» і «Паўлінка» Я. Купалы (дарэчы, Купалаву камедыю я ставіў ужо 5 разоў). Такія п'есы, як «Адкуль грэх» А. Петрашкевіча, «Гаўрошы Брэсцкай крэпасці» А. Махнача, «Твой заўтрашні дзень» П. Васілеўскага, мы паставілі першымі.

**— Мінае 1988-ы... Чым ён быў знамянальны для Краснапольскага тэатра?**

— Гэты год выдаўся шчаслівым для нас. У сакавіку мы адзначылі сваё 70-годдзе: правялі ў раёне тыдзень тэатра, паказаўшы 5 спектакляў. У маі ў Гродне на фестывалі самадзейных тэатраў «Рампа дружбы» наш калектыў атрымаў прыз за лепшую мужчынскую ролю, а пасля фестывалю мы *былі ўзнагароджаны Ганаровай* граматай Вярхоўнага Савета БССР...

**— Валянцін Іванавіч, нагадаем тут, што фестывальным прызам за лепшую мужчынскую ролю адзначана ваша выкананне ролі Мульціка ў спектаклі «Вечар» А. Дударава. А пасля «Рампы дружбы» вам было прысвоена ганаровае званне заслужанага работніка культуры БССР...**

— Так, я ж казаў, што гэты год быў багаты на падзеі.

**— Цяпер некаторыя самадзейныя тэатральныя калектывы *пераходзяць на гасразлік.* Як вы ставіцеся да гэтых працэсаў?**

— Кожны паступае так, як *лічыць патрэбным.* Усім акцёрам заплаціць нельга, таму што няма столькі ставак. А хіба ж можна адным плаціць, а другім — не? Магчымасць «надзяліць» стаўкамі мінімальную колькасць акцёраў да добрага ў калектыве не прывядзе: такое ў тэатры пасее недавер і нязгоду.

**— З якімі яшчэ праблемамі вам даводзіцца сутыкацца?**

— Галоўная з іх — кадравая. Мінскі інстытут культуры рыхтуе спецыялістаў для народных тэатраў, але дзіву дасіся, як там набіраюць людзей і хто туды трапляе. Пасля інстытута, як паказвае практыка, такія выпускнікі ідуць на любую работу, часцей за ўсё метадычную, але не ў народныя тэатры.

**— Валянцін Іванавіч, многім запомнілася ваша яркае выступленне на з'ездзе СТД БССР, дзе гучала шчырая заклапочанасць лёсам нацыянальнай культуры, у тым ліку і тэатральнай. Што вы маглі б сёння дадаць у працяг таго выступлення?**

— На жаль, мала што змянілася. У рэпертуары прафесійных драматычных тэатраў рэспублікі па-ранейшаму вельмі рэдка сустракаюцца творы беларускіх класікаў. У тэатрах, чамусьці, ніяк рукі не даходзяць да беларускай літаратурнай спадчыны. На маю думку, *п'еса «Антон» М. Гарэцкага* — непераўзыдзеная трагедыя ў нашай літаратуры, але хто яе ўвасобіць? А некалі ж *Максім Гарэцкі марыў убачыць* беларуса на сцэне такім, якім ён быў, які ён ёсць і якім ён павінен быць. Марым пакуль што і мы...

**КОРАТКА АБ НАБАЛЕЛЫМ**

**А. КУКШЫНСКІ, дырэктар Магілёўскага абласнога навукова-метадычнага цэнтра:**

— Варта было б Мінскаму інстытуту культуры паклапаціцца пра падрыхтоўку спецыялістаў па народных промыслах. Сёння ў вобласці працуюць толькі два знаўцы такога плана. І мы з гэтым змірыліся, маўляў, няма ў раёне ганчара або разьбяра па дрэве — нічога страшнага, абы былі калектывы мастацкай самадзейнасці, якія неабходна час ад часу выводзіць на сцэну. Катастрафічна *не хапае матэрыялаў для* ўмельцаў, тут трэба тэрмінова шукаць нейкае выйсце.

Наш доўг — развіваць фальклорнае мастацтва. На жаль, вельмі цяжка знайсці прафесіянала, які б займаўся гэтым. З маладых спецыялістаў практычна ніхто не ўмее арганізаваць нават танцавальны фальклорны гурток.

Клуб — гэта асноўнае месца, дзе савецкі чалавек, які жыве ў вёсцы, праводзіць свой вольны час. Шмат гадоў гучаць заклікі, прымаюцца пастановы, скіраваныя на паляпшэнне работы клубных устаноў. Але вы паглядзіце, якімі тэхнічнымі сродкамі аснашчаны клубы, што за мэбля «ўпрыгожвае» іх інтэр'ер! Ці ж не дзіўна, што *мала ў каго з'яўляецца жаданне* правесці свой вольны час у такой няўтульнасці...

**В. ПАПОЎ, мастацкі кіраўнік харэаграфічнага ансамбля «Рунь» ДК Магілёўскага вытворчага аб'яднання шаўковых тканін:**

— Наш калектыў — вялікі, у дарослым харэаграфічным ансамблі *45 чалавек, у рэзерве* — дзіцячым харэаграфічным ансамблі «Зярнятка» займаецца 110 чалавек. Калектыву не хапае адзення і абутку. Вытворчыя майстэрні СТД БССР могуць пашыць не надта дасканалае адзенне, цэх тэатра оперы і балета БССР загружаны па горла заказамі для свайго калектыву. Вось і прыходзіцца ў *пошуках адзення выпраўляцца* ў Маскву, Рыгу, Краснадарскі край.

*Да 70-годдзя БССР і Кампартыі Беларусі*

**Пра Дзмітрыя Фёдаравіча Жылуновіча (Цішку Гартнага), выдатнага рэвалюцыйнага дзеяча, які стаяў ля вытокаў беларускай савецкай дзяржаўнасці, «Літаратура і мастацтва» неаднойчы пісала (А. Клачко, «Пела бура табе песні»; А. Звонак, «Дзве сустрэчы» — 30 кастрычніка 1987 г.; «Трэцяя спроба», рэцэнзія А. Сідарэвіча на аповесць Э. Ялугіна «Пасля нябыту» — 25 сакавіка 1988 г.; «У партыі аднавіць», інтэрв'ю старшыні камісіі парткантролю пры ЦК КПБ В. Галавана — 14 кастрычніка 1988 г.)**

**Артыкул В. Круталевіча «Мужнасць рэвалюцыянера», які мы прапануем увазе чытача, дапаўняе чалавечы і палітычны партрэт Д. Ф. Жылуновіча новымі цікавымі дэталямі.**

**В. КРУТАЛЕВІЧ,**
**доктар юрыдычных навук, прафесар**

# МУЖНАСЦЬ РЭВАЛЮЦЫЯНЕРА

У векапомныя рэвалюцыйныя гады, у час сацыялістычных пераўтварэнняў імя гэтага чалавека было шырока вядома на Беларусі. Палітычны і грамадскі дзеяч, акадэмік АН БССР, таленавіты пісьменнік, ён на пачатку стварэння БССР быў першым старшынёй часовага рабоча-сялянскага ўрада рэспублікі.

Здавалася, яму быў наканаваны шчаслівы лёс. Наканаваны... У 1931 годзе Дзмітрыя Фёдаравіча выключаюць з партыі, у друку супраць яго пачынаецца паклёпніцкая кампанія. У якіх толькі грахах не абвінавачвалі Жылуновіча! Яго называюць ворагам народа, які пралез у партыю, здраднікам, беларускім нацыяналістам, і да ўсяго гэтага... польскім шпіёнам.

16 лістапада 1936 года Жылуновіча арыштоўваюць, каб ужо фізічнымі катаваннямі прымусіць прызнацца ў «актыўным удзеле ў контррэвалюцыйнай фашысцкай арганізацыі», якая быццам бы дзейнічае ў Мінску. Праз некалькі месяцаў ён памёр у бальніцы ў Магілёве.

Якія ж «дзеянні» Д. Ф. Жылуновіча перакрэслілі ўсю яго работу на адказных пасадах? Звернемся да пастановы Прэзідыума і Парткамісіі ЦК КП(б)Б ад 16 студзеня 1931 года. У ёй стандартныя па тым часе абвінавачванні ў нацыянал-дэмакратызме, правядзенні нацыянал-апартуністычнай лініі, прапагандзе нацыяналістычных ідэй, сувязі з антысавецкімі элементамі і да т. п. З такіх жа пазіцый была ахарактарызавана дзейнасць Жылуновіча ў 1917—1918 гадах, яго роля ў стварэнні БССР.

Яго абвінавачвалі, што ён уступіў у партыю бальшавікоў «з дробна-буржуазных і нацыяналістычных арганізацый», калі на самай справе ён уступіў у партыю, займаючы пасаду сакратара Беларускага нацыянальнага камісарыята пры Наркамаце нацыянальнасцей і рэдактара першай савецкай беларускай газеты «Дзянніца», якая выдавалася спачатку ў Петраградзе, а потым у Маскве.

Гэта было добра вядома тым, хто збіраў адпаведнае дасье. Але справа ў тым, што ў 30-я гады і пазней борздкія выкрывальнікі ворагаў народа называлі нацыяналістычным гняздом і створаны па ленінскім дэкрэце Беларускі нацыянальны камісарыят. Нацыяналістычнай была аб'яўлена і газета «Дзянніца». Дарэчы, сапраўдныя, а не выдуманыя нацыяналісты, якія імкнуліся з дапамогай Германіі стварыць марыянетачную беларускую рэспубліку, называлі «Дзянніцу» бальшавіцкай газетай, якая выступае ў стылі савецкай «Праўды», а Д. Жылуновіча і А. Чарвякова кляймілі, як здраднікаў «беларускай справы».

«Дзянніца», якую рэдагаваў Д. Жылуновіч, адыграла вялікую ролю ў прапагандзе ідэй Савецкай улады сярод беларускіх бежанцаў, у растлумачэнні нацыянальнай палітыкі Камуністычнай партыі, выкрыцці беларускай нацыяналістычнай контррэвалюцыі. Зарукай перамогі новага ладу ў Беларусі газета лічыла непарыўную сувязь беларускага і рускага народаў.

Адным словам, стаўшы рэдактарам «Дзянніцы», Д. Жылуновіч зрабіў свой адказны выбар на карысць сацыялістычнай рэвалюцыі, Савецкай улады, пралетарыяту. Былы рабочы, Д. Жылуновіч не пайшоў з тымі, хто з-за сваіх класавых перакананняў не зразумеў задач сацыялістычнай рэвалюцыі і апынуўся ў лагеры ворагаў Савецкай улады.

Хваля нацыянальна-вызваленчага руху, што паднялася пасля звяржэння самаўладдзя, уцягнула ў сваю плынь і Д. Жылуновіча. Ён стаў адным з лідэраў Беларускай сацыялістычнай грамады (БСГ), арганізацыі, якая трымалася ідэй аўтаноміі Беларусі ў складзе Расіі. Размежаванне ў асяроддзі грамадоўцаў пад уплывам супрацьборства палітычных сіл прывяло да стварэння левага крыла, якое пасля перамогі Кастрычніцкага ўзброенага паўстання стала перад дылемай прызнання ці непрызнання ўлады Саветаў. У ходзе палітычнай эвалюцыі мяняліся погляды на ўзаемасувязь нацыянальнага і класавага, на сацыяльную аснову нацыянальнай дзяржаўнасці. Акты III Усерасійскага з'езда Саветаў (студзень 1918 года) аб аб'яўленні Расійскай Рэспублікі федэрацыяй, адкрывалі перспектыву стварэння беларускай нацыянальнай дзяржаўнасці на базе Савецкай улады. У дакументах III Усерасійскага з'езда Саветаў гаворка ішла ўжо не толькі аб праве нацыі былой Расійскай імперыі на самавызначэнне, а і пра мэтазгоднасць, аб'ектыўную неабходнасць рэалізацыі гэтага права, пра самыя формы нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва.

На III Усерасійскім з'ездзе Саветаў Д. Жылуновіч яшчэ палемізуе з прадстаўнікамі выканкома Саветаў Заходняй вобласці аб разгоне ў снежні 1918 года так званага Беларускага з'езда ў Мінску, які не прызнаў стварэння ў Беларусі органаў народнай улады. Дарэчы, і на думку А. Мясніковa таксама магчымым было і іншае рашэнне: удзел у з'ездзе прадстаўнікоў Саўнаркома Заходняй вобласці з тым, каб павесці за сабой яго левую частку, якая стаяла за саюз Беларусі і Расіі, прызнавала Кастрычніцкі пераварот. У такой сітуацыі перад з'ездам можна было паставіць пытанне аб прызнанні ўлады Саветаў у Заходняй вобласці і самавызначэнні Беларусі, а затым ужо, у залежнасці ад рэакцыі дэлегатаў з'езда, ужыць і крайнюю меру — распусціць яго.

Як вядома, У. І. Ленін, Савецкі ўрад падтрымлівалі ідэю самавызначэння Беларусі, якая ўжо ў 1917 годзе магла пераняць прыклад Украіны, дзе 12 снежня 1917 года была абвешчана Украінская Савецкая Рэспубліка.

Хутка пасля III Усерасійскага з'езда Саветаў, 31 студзеня 1918 года У. І. Ленін падпісаў дэкрэт аб стварэнні пры Наркамаце нацыянальнасцей Камісарыята па справах беларусаў.

Захоп Германіяй у лютым—сакавіку 1917 года новых тэрыторый Беларусі да Дняпра, акупацыя Украіны, Прыбалтыкі, Закаўказзя карэнным чынам змяніла сітуацыю. Цэнтрам Заходняй вобласці стаў Смаленск. Тэрыторыю яе склалі Смаленская губерня і неакупіраваныя часткі Магілёўскай і Віцебскай губерняў.

Перад абласным выканаўчым Камітэтам паўсталі адказныя задачы ў галіне абароны, гаспадарчага, сацыяльнага і культурнага будаўніцтва, забеспячэнне гарадскога насельніцтва харчовымі таварамі. Вялікай увагі патрабавала да сябе і сфера нацыянальных адносін. Але тут з самага пачатку выявіліся рашучыя разыходжанні з Белнацкомам.

І пасля ўзяцця дзяржаўнай улады пэўная частка савецкіх і партыйных работнікаў у цэнтры і на месцах выступала супраць права нацыі на самавызначэнне, спасылаючыся на тое, што гэты прынцып супярэчыць мэтам сусветнай рэвалюцыі, якая змяла на сваім шляху нацыянальныя перагародкі. Нацыянальная дзяржава — гэта, быццам бы, пройдзены этап сусветнай гісторыі. Вышэйшая мэта — стварэнне сусветнай рэспублікі Саветаў.

Іншыя прызнавалі права нацыі на самавызначэнне, але яго рэалізацыю прымалі ва ўрэзаным выглядзе. Гэтым грашыў сам нарком па справах нацыянальнасцей Сталін, які ў 1920 годзе выступіў з праграмным артыкулам у «Праўдзе» «Аб адміністратыўным падзеле краіны на аснове аўтаноміі». Гэтыя яго погляды асабліва далі сябе адчуць у 1922 годзе ў перыяд абвяшчэння СССР.

Што тычыцца поглядаў кіраўніцтва Заходняй вобласці, дык яно лічыла, што, па-першае, беларусы не ўяўляюць сабой самастойнай нацыі. Гэтыя погляды ігнаравалі рэальную рэчаіснасць — наяўнасць нацыянальных агульнасцей, якім было наканавана стаць сацыялістычнымі нацыямі. Аддзяленні Белнацкома ў Смаленску і Віцебску былі закрыты, не знайшла падтрымкі ідэя выдання ў Смаленску газеты на беларускай мове. Між тым, Белнацком, «Дзянніца», беларускія камуністычныя секцыі, утвораныя сярод бежанцаў, улічваючы права нацыі на самавызначэнне, прававыя акты Савецкай улады, лічылі магчымым і неабходным стварэнне беларускай савецкай дзяржаўнасці. Разыходжанне поглядаў у гэтым пытанні было прычынай вельмі напружаных адносін паміж абласным Саветам у Смаленску і Белнацкомам, што знаходзіла адбітак у друку.

У лістападзе 1918 года наступіў канец нямецкай акупацыі, пачалося вызваленне Чырвонай Арміяй Беларусі і іншых раёнаў, захопленых Германіяй. У тыле нямецкіх войск у Беларусі вызваленчы рух перарос у народнае паўстанне. Паўсюдна ствараліся рэвалюцыйныя органы ўлады — Саветы. Гэта было сапраўды палітычнае самавызначэнне працоўных Беларусі.

Жыццё патрабавала гнуткай праграмы дзеянняў у нацыянальным пытанні. Абвяшчаліся незалежнымі савецкія рэспублікі ў Літве, Латвіі, Эстоніі. Была адноўлена Украінская Савецкая Рэспубліка. Але і на новым этапе абласны Савет у Смаленску выступаў супраць самавызначэння беларускага народа. Газета «Западная Коммуна» ў нумары ад 21 снежня 1918 года пісала: «Трэба спытаць, навошта гэта гульня ў савецкія рэспублікі, што яна можа даць станоўчага ў барацьбе пралетарыяў за ўладу? Для нас жа відавочна, што Савецкая ўлада ставіць сваёй задачай не стварэнне новых дзяржаўных граніц, а знішчэнне старых».

«Дзянніца» са свайго боку заявіла, што настаў час стварэння на базе Заходняй вобласці Беларускай савецкай дзяржаўнасці. Канферэнцыя беларускіх камуністычных секцый, якая адбылася 21—23 снежня 1918 года, прымае рашэнне аб неабходнасці стварэння беларускага савецкага ўрада. Пытанне аб Беларусі стала прадметам разгляду ў ЦК партыі. 25 снежня 1918 года па прамым провадзе Сталін па даручэнні ЦК партыі паведамляе ў Смаленск А. Мяснікову: «ЦК партыі па многіх меркаваннях, пра якія зараз гаварыць не выпадае, пагадзіўся з беларускімі таварышамі ўтварыць Беларускі савецкі ўрад. Пытанне гэта вырашана і больш яго абмяркоўваць не даводзіцца».

ЦК партыі лічыў, што ўрад рэспублікі павінен быць створаны з прадстаўнікоў Заходняй вобласці і беларускіх камуністычных секцый. Гэтым самым была станоўча ацэнена пазіцыя беларускіх камуністычных секцый, «Белнацкома», «Дзянніцы» ў пытанні самавызначэння Беларусі. Трэба меркаваць, што кандыдатура Д. Жылуновіча на пост кіраўніка ўрада рэспублікі была таксама ўхвалена ЦК партыі. Д. Жылуновіч — аўтар гістарычнага дакумента Маніфеста Часовага рабоча-сялянскага ўрада аб абвяшчэнні БССР.

Такім чынам, як бачым, абвінавачанні Д. Жылуновіча ў нацыяналізме не маюць пад сабой падставы.

У больш канкрэтным плане яму ставілася ў віну «супраціўленне бальшавіцкім мерапрыемствам» пры стварэнні ўрада. Пры крайне напружаных адносінах паміж Д. Жылуновічам — з аднаго боку, і А. Мясніковым — з другога, спрэчкі аб персанальным складзе ўрада рэспублікі былі непазбежныя. Натуральна, што Д. Жылуновіч імкнуўся ўключыць ва ўрад як мага больш «белнацкомаўцаў».

Захаваліся дакументальныя сведчанні, якія дазваляюць меркаваць аб адносінах У. І. Леніна да «Белнацкома», беларускіх камуністычных секцый і, у прыватнасці, да Д. Жылуновіча. Ільічу была вядома сітуацыя, якая склалася напярэдадні абвяшчэння БССР, а таксама пазіцыя ў гэтым пытанні А. Мяснікова і В. Кнорына. 29 снежня 1918 года, за дзень да адкрыцця VI Паўночна-Заходняй канферэнцыі, на якой павінна было вырашацца пытанне аб утварэнні БССР і Кампартыі Беларусі, А. Мяснікоў атрымаў з Масквы тэлеграму наступнага зместу: «Сёння выязджаюць у Смаленск беларусы. Вязуць з сабой Маніфест. Просьба ЦК партыі і Леніна прыняць іх як малодшых братоў, можа, яшчэ нявопытных, але гатовых аддаць сваё жыццё партыйнай, савецкай рабоце».

І яшчэ адзін штрых да ацэнкі Д. Жылуновіча. Як вынікае з тэлеграмы Я. М. Свярдлова ў Вільню ад 8 лютага 1919 года ў сувязі з падрыхтоўчымі мерапрыемствамі да зліцця Беларускай і Літоўскай рэспублік у адну дзяржаўную адзінку, меркавалася, што Д. Жылуновіч зойме пост намесніка старшыні ўрада аб'яднанай рэспублікі (старшыня В. Міцкевіч-Капсукас). «Мяснікова нікуды не пераводзьце», — даваў дырэктыву старшыня УЦВК, — мы яго перавядзём, пакуль яшчэ не магу ўказаць куды». Пазіцыя А. Мяснікова ў нацыянальным пытанні яўна ішла насуперак ходу дзяржаўнага будаўніцтва, які разгарнуўся ў вызваленых ад нямецкай акупацыі нацыянальных раёнах.

У пастанове аб выключэнні Жылуновіча з партыі рабіўся акцэнт на яго «процідзеянне» бальшавіцкаму кіраўніцтву. Але ж гэтае кіраўніцтва само не было пазбаўлена ад грубых памылак, якія выявіліся ў ігнараванні нацыянальных асаблівасцей, супрацьдзеянні нацыянальна-дзяржаўнаму будаўніцтву ў Беларусі. Нават пасля абвяшчэння БССР гэты сапраўды гістарычны акт у жыцці народа тлумачыўся як з'ява, абумоўленая чыста тактычнымі меркаваннямі, кан'юнктурай моманту, міжнароднай абстаноўкай.

**(Працяг на стар. 13).**



**Урачысты вечар, прысвечаны 70-годдзю з дня прыняцця Дэкрэта аб распаўсюджванні і экспедзіраванні перыядычнага друку, адбыўся ў тэатры імя Янкі Купалы. З прамовай выступіла начальнік Беларускага рэспубліканскага аб'яднання «Саюздрук» Г. І. Панфіловіч. Адзначыўшы важнасць гэтага гістарычнага дакумента, яна падкрэсліла, што сёлета ў рэспубліцы кожная сям'я атрымлівае 4-5 перыядычных выданняў, штогадовы разавы тыраж падпіскі і розніцы складае звыш 19 мільёнаў экземпляраў газет і часопісаў.**

Г. І. Панфіловіч уручае грамату начальніку экспедыцыйнага аддзела аб'яднання М. Дубоўскаму.

Фота Ул. КРУКА.

# ПЕРАД БУДУЧЫНЯЙ НАШАЙ...

## З пленума праўлення СП БССР

**Як мы паведамлялі, 8 снежня адбыўся чарговы пленум праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі, прысвечаны стану і праблемам маладой літаратуры. З дакладам «Сучасны літаратурны працэс і малады пісьменнік» выступіў Г. Далідовіч. Садаклады зрабілі Т. Грамадчанка і Т. Чабан. З трыбуны пленума прагучала больш за дваццаць выступленняў. Ніжэй друкуем у скарачэнні матэрыялы пленума (садаклады будуць надрукаваны, па дамоўленасці з аўтарамі, пазней, як асобныя артыкулы).**

СТАРТ нашай сённяшняй маладой змены пачаўся ў знамянальны час рэвалюцыйнай перабудовы, аднаўлення ленінскіх норм ва ўсіх сферах грамадскага, эканамічнага і культурнага жыцця краіны, сказаў, адкрываючы пленум, **Максім Танк.** Гэта ў многім праясніла перспектывы нашага развіцця, але і ўсклала нямала абавязкаў на плечы літаратуры. Перадусім гэта нармалізацыя становішча з беларускай мовай у рэспубліцы. І найбольш дзейсным было б, на думку М. Танка, каб беларуская мова заняла свой пачэсны дзяржаўны пасад. Прамоўца падкрэсліў, што невыпадкова спыніўся на пытанні мовы, бо для таго, каб стаць пісьменнікам, у першую чаргу неабходна мова, з яе пачынаюцца дарогі да праўды, любові, прыгажосці — дарогі да людскіх сэрцаў. Працытаваўшы выказванне вядомага польскага пісьменніка Тадэвуша Бароўскага: «Няма **прыгажосці,** калі на ёй ляжыць крыўда, няма **праўды,** каторая гэту крыўду абыходзіць, няма **дабра,** калі яно з крыўдай пагаджаецца», М. Танк зазначыў, што пісьменніку, акрамя таленту, неабходна і біяграфія, якая гаварыла б аб сувязі яго з жыццём. І, відаць, не трэба спяшацца ставіць новыя помнікі і зносіць старыя, спяшацца каранаваць і асуджаць, бо гісторыя літаратуры і мастацтва гаворыць, што асуджаныя часта жывуць даўжэй, як іх суддзі. Скідалі ж калісьці з парахода сучаснасці і Пушкіна, і Дастаеўскага, і Талстога. Разам з тым, гаворачы аб выхаванні моладзі, прадаўжаў народны паэт, мы часта забываем, што гэта звязана і з перавыхаваннем нас саміх, не ўлічваем патрабаванні часу. А нам неабходна, каб не перарывалася сувязь паміж пакаленнямі, каб даражылі нашай нялёгкай, але слаўнай спадчынай, падкрэсліў М. Танк.

З дакладам аб укладзе маладых творцаў у сучасны літаратурны працэс выступіў **Г. Далідовіч.** Сваё выступленне дакладчык распачаў вядомымі купалаўскімі радкамі:

**Стаім мы перад будучыняй нашай**
**І ўсё варожым, сочым ейны ход...**
**Ці ўскрэснем мы душою, упаўшы, звяўшы,**
**Каб выйсці ў свет, як нейкі здольны род...**

І ў адпаведнасці з гэтым «трывожным сігналам у будучыню» дакладчык акрэсліў задачы пленума. Усім нам, старэйшым і маладзейшым, сказаў ён, сёння трэба ўдумліва асэнсаваць нашу супярэчлівую рэчаіснасць, згуртаваць сілы і ясней акрэсліць нашы сумесныя задачы па аздараўленні нашага грамадства, па адраджэнні беларускай мовы і далейшым развіцці нашай культуры, а гэтым самым унесці і сваю долю ў справу выратавання беларускага народа як народа, вызначыць болей прадуманыя і справядлівыя прапорцыі патрыятычнага і інтэрнацыянальнага, агледзець і ацаніць наш актыўны рэзерв.

Запыніўшы ўвагу на складаным і плённым шляху, які прайшла беларуская савецкая літаратура і пісьменнікі старэйшага пакалення, дакладчык перайшоў да разгляду творчасці маладых.

Здаецца, цяпер у нас не адзін, а два атрады літаратурнай моладзі, адзначыў Г. Далідовіч. У першым сабраліся тыя, хто ўжо наблізіўся альбо пераступіў 35-гадовую мяжу, мае адну, дзве, а то і тры кнігі, член Саюза пісьменнікаў. У другі атрад збіраюцца тыя, хто мінуў ужо адзнаку ў 25 гадоў, надрукаваў некалькі паэтычных ці празаічных падборак, падрыхтаваў сваю першую кніжку ці ўжо нават і абнародаваў яе. Гэтыя два літаратурныя касякі — маладыя і самыя маладыя — маюць шмат падабенства, маюць і свае адметнасці.

Гаворачы пра грамадзянскую актыўнасць і творчасць маладых, дакладчык запыніў увагу на тых абставінах, пры якіх моладзь уступала ў літаратуру. У свой час па-маладому балюча адчуваючы цяжар застою, яна пакутавала, доўга прыстасоўвалася да існуючых умоў і, само па сабе зразумела, патраціла шмат марна дарагога часу, не стала як след на ногі. Відаць, і ў гэтым частка прычын таго, чаму ў многіх нашых маладых і самых маладых позні літаратурны выхад, празмернае таптанне на той дзялянцы, якую ўжо добра-такі распрацавалі папярэднікі, перасцярога і не ў меру для сваіх гадоў абачлівасць, шмат дэкларацый і малавата ўвасабленняў іх. Тым не менш мы маем ужо сфарміраванае пакаленне маладых у асобе Уладзіслава Рубанава, Міколы Мятліцкага, Уладзіміра Арлова, Алеся Пісьмянкова, Уладзіміра Ягоўдзіка, Леаніда Галубовіча, Хрысціны Лялько, Уладзіміра Марука, Алеся Каждуба, Леаніда Дранько-Майсюка, Валянціны Аколавай, Ірыны Жарнасек, Алеся Жыгунова, Ірыны Багдановіч, Уладзіміра Мазго, Зміцерка Марозава, Паўла Шруба, Міхася Барэйшы і іншых. Пажадаем яму новых поспехаў, а ўвагу сканцэнтруем на маладзейшым пакаленні, якое ведаем менш і якому ёсць усе шанцы рэалізаваць свае творчыя магчымасці. За апошні год нашы маладыя змусілі загаварыць пра сябе ў самых розных слаях нашага грамадства — ад студэнцкіх аўдыторый да міліцыі. Паверыўшы лозунгам перабудовы, яны пайшлі ёй насустрач. Калі раней асуджалі моладзь за інфантылізм, то ўжо цяпер папікаюць за экстрэмізм.

«Талака», «Паходня», а таксама і «Тутэйшыя», дзе сабраліся самыя маладыя літаратары, — гэтыя і іншыя нефармальныя суполкі смела схапіліся з усім закасцянелым. Бой атрымаўся няроўны. На маладзёжны рух рэзка выявіліся два погляды — афіцыйны і неафіцыйны. Афіцыйная думка, думка сфарміраванага і змацаванага ўладай апарату лічыць: Беларусь — стабільны эканамічны рэгіён, вялікіх скрыўленняў сацыялізму, маралі ў нас не было, мы па-сапраўднаму інтэрнацыяналізаваныя, добра выконваем планы, можам яшчэ болей даць дзяржаве бульбы, мяса, малака, трактароў і машын — карацей, усё ў нас на месцы, усе мы таксама на месцы, то шмат мяняць чагосьці нам не трэба. Хіба толькі, можа, актывізаваць фізкультурна-масавы рух. У той жа час шырыцца ў шырокіх слаях грамадскасці іншая думка: стабільнасць наша падтрымліваецца ўжо і за кошт здароўя нашай зямлі, людзей, неўзабаве можа абярнуцца вялікай бядой, кіраўнічы апарат дэнацыяналізаваны, беларуская мова, не абароненая дзяржаўным актам, на мяжы пагібелі.

Вось у якіх няпростых умовах прыходзіцца нам сёння жыць і тварыць, працягваў дакладчык. Нашы маладыя калегі, як гаварылася, шмат часу, энергіі аддаюць грамадскай дзейнасці, але таксама знаходзяць час і для творчасці.

**— З чаго пачаць?..**
**Пачну з Радзімы.**
**Так абавязаны пачаць.**
**— Але ў яе ты не адзіны,**
**Навошта пра любоў крычаць?**
**. . . . . . . .**
**— Што ж, пачынай.**
**Сам выбраў долю —**
**й нядоля знойдзецца сама.**
**Перад табою поле бою —**
**тут не адзін паэт сканаў.**

Так, на першы погляд, дэкларацыйна, а на справе выпакутавана пачынае сваю першую паэтычную кніжку «Агмень» Анатоль Сыс — дваццацідзевяцігадовы малады чалавек, выпускнік гісторыка-філалагічнага факультэта Гомельскага універсітэта, па натуры рэзкі, у жыцці і творчасці ранімы, адзін з прыкметных паэтаў свайго пакалення, выяўляючы адну з характэрных рыс творчасці сваіх равеснікаў — калі можна так сказаць, мастацкі гістарызм.

Мастацкі гістарызм па-свойму — у каго знешне спакойны, у каго ўзрыўны, па-бытавому ці ў спробе алегарычна-філасофскай канцэптуальнасці — трансфармуецца, праецыруецца ў наш дзень у вершах Э. Акуліна, Л. Рублеўскай, А. Жамойціна, С. Сокалава-Воюша, П. Дзмітрука, Л. Баршчэўскага, А. Мінкіна і іншых. А малады паэт Юрась Пацюпа спрабуе звярнуцца да фальклору і спажыць у мадэрнізаваным выглядзе яго паўзабытыя формы на сучасным матэрыяле, робячы свядомыя акцэнты на інтэлектуальны пачатак.

Але мы не мелі б рацыі, каб не ўбачылі ў творчасці самых маладых паэтаў і іншыя накірункі, абсягі, што выявіліся ўжо досыць прыкметна.

Вось нядаўні выпускнік інстытута культуры Анатоль Дэбіш пасля наведвання Асвенціма піша: «І мне прысняцца чаравікі, льняных сукенак палатно. І цень халодны, без'языкі пастукае ў маё акно». А Янусь Малец піша: «Мы не ў ціхі век жывём, век наш пераломны. Мы паміж дабром і злом, як па нітачцы ідзём тонкай, недыхтоўнай».

Эдуард Акулін намагаецца па-свойму асэнсаваць такую характэрную з'яву нашага стагоддзя, як магутнае наступленне навукова-тэхнічнага прагрэсу і побач з ім рэгрэс духоўнасці, без якой і навукова-тэхнічны прагрэс становіцца бездухоўным.

Па-свойму лёс міру, людскога жыцця асэнсоўвае Васіль Сахарчук, бачачы, «Як птушкі, стагоддзі на дрэве паселі. Арлы з груганамі драпежна за голубам сочаць. Шакалы чакаюць здабычы. Ільсняную поўсць іх варушыць нейтронны вятрыска». А побач з гэтым Станіслаў Валодзька нібы па-бытавому, але і ў той жа час неяк незвычайна пранікаецца спагадай, любоўю да простага працавітага чалавека, на якім калі не ўсё, то амаль усё трымаецца ў свеце.

Ад неразумнай чалавечай дзейнасці спрабуе адгаварыць Адам Глобус у вершы «Меліярацыя»:

**Дыназаўры-бульдозеры**
**высмакчуць нафту густую;**
**Здрыгануцца каўшы,**
**экскаватары залямантуюць.**
**Спруцянеюць ад зайздрасці**
**ведзьмы, прачуўшы пра дзіва:**
**Паляшучка на долю ліхую**
**дачку нарадзіла.**

Прыкладна пра тое ж гаворыць і Віктар Шніп, былы рабочы, аўтар дзвюх кніг паэзіі: «Столькі лесу насаджалі, што няма паленца дроў». Ці: «Асфальтам сціснулі зямлю, што ўжо не вырвацца на волю». Або пра лёс нашых асірацелых без людзей, асабліва без дзяцей, так званых неперспектыўных вёсак:

**Хата анямелая, сівая,**
**З шэраю, бусліннай, бы вянком,**
**Вокнамі задумна пазірае,**
**Склаўшы рукі на дзвярах замком.**

Сваёй сцяжынай ідуць у паэзію іншыя маладыя паэты. Па маіх назіраннях, адны з іх, як Таццяна Зіненка, Славамір Адамовіч, Павел Бурдыка, Міхась Скобла, Алена Танана, Алесь Бадак, Юрась Жалезка, Галіна Булыка, Жанна Пахадня, Сяргей Амяльчук, Ігар Пракаповіч, Сяргей Сыс і іншыя, пішуць у асноўным у традыцыйнай манеры, а, напрыклад, Галіна Дубянецкая, Алесь Аркуш, Таццяна Сапач, Лера Сом, Ігар Бабкоў, Хведар Кашкурэвіч і іншыя, сярод якіх шмат так званых дзяцей горада, аддаюць перавагу розным накірункам авангардызму. Сярод тых маладых паэтаў, хто піша па-руску, увагу на сябе звярнуў Артур Кляніцкі. А ўжо стукаюцца ў дзверы новыя парасткі, тыя, хто летась ці сёлета закончыў сярэднюю школу ці яшчэ вучыцца ў ёй, як Юльяна Бармута, Алена Якаўлева, Генрых Кутас і іншыя.

Што датычыць тых нашых самых маладых, якія пішуць творы для дзяцей, публіцыстыку, п'есы, прызнаюся, асабіста я на гэты конт, — гаварыў Г. Далідовіч, — у разгубленасці. Па-першае, іх аўтарскі актыў невялічкі, а па-другое, тое, што часам трапляе на старонкі перыядычных выданняў, не дае асаблівых падстаў лічыць, што ёсць ужо з'ява.

Некалькі слоў пра маладых крытыкаў. Яны ёсць, але, на вялікі жаль, ці яны не зусім актыўныя, ці некаторыя з іх залішне паддаліся групаўшчыне, часамі неаб'ектыўныя, нецярпімыя да розных стыляў і накірункаў. Можна, думаю, чакаць значна большага ад Сяргея Дубаўца, які, скажам, хораша пісаў пра культуру мовы ў артыкуле «Інструмент складаны, тонкі», ад Сяргея Кавалёва — аўтара ўдумлівага, тактоўнага слова пра творчасць Анатоля Сербантовіча, ад Язэпа Янушкевіча, які клапатліва падрыхтаваў выданне твораў Дуніна-Марцінкевіча, ад Галіны Тычкі, Ігара Жука, кожны з якіх умее напісаць і рэцэнзію, і артыкул, але чамусьці, паўтараю, не ў меру выкарыстоўвае свае магчымасці.

Што датычыць нашых маладзейшых празаікаў, то атрад іх таксама не дужа шматлікі, і дэбютуюць яны даволі пазнавата. За рэдкім выключэннем, у 30, а то і ў 35—40 гадоў. З тых, каму набліжаецца 30 гадоў, да слова, асобную кніжку мае толькі Алесь Наварыч.

З тых равеснікаў Алеся Наварыча, хто падаў голас ці некалькі гадоў назад, ці ў самы апошні час, дакладчык адзначыў Уладзіміра Калкоўскага, Андрэя Федарэнку, Галіну Ланеўскую, Віктара Праўдзіна, Сяргея Тарасава, Максіма Клімковіча, Віктара Чаропку. Час ад часу прыходзяць сюды на дапамогу маладыя паэты Адам Глобус, Уладзімір Сцяпан, Уладзімір Сіўчыкаў, Міраслаў Шайбак, крытыкі Сяргей Дубавец і Сяргей Кавалёў, а цяпер вось, на семінары, што праходзіць у «Іслачы», мы ўбачылі, што неўзабаве могуць прыйсці ў прозу цікавыя аўтары з Брэста і Гродна — Валянціна Кукса і Сяргей Астраўцоў.

Ідуць няпростыя працэсы ў маладой паэзіі, ідуць няпростыя працэсы і ў маладой прозе. Тут таксама пачынаюць абазначацца дзве тэндэнцыі: традыцыйная, альбо вясковая проза і новая, альбо гарадская проза.

Г. Далідовіч падрабязна запыніўся на апавяданнях А. Федарэнкі, У. Калкоўскага, В. Праўдзіна, С. Астраўцова і кніжцы А. Наварыча «Рабкова ноч», якога назваў адным з самых таленавітых з таго пакалення, пра якое ішла гаворка. Гэта ўсё прадстаўнікі так званай традыцыйнай прозы. Але, як гаварылася, нашы маладыя паэты, празаікі прыйшлі да высновы, што нарэшце варта як след далучыць да працэсу стварэння беларускай культуры і наш горад, — працягваў Г. Далідовіч.— Адам Глобус у «Капелюшы пажарнага колеру», Уладзімір Сцяпан у «Чаканні цягніка», Уладзімір Сіўчыкаў «У святле і цемры», а таксама ў асобных апавяданнях Галіна Ланеўская паспрабавалі акунуцца ў гарадскую стыхію, найперш у яе інтэлектуальнае, мастакоўскае і артыстычнае, асяроддзе. Хто чытаў гэтыя, а таксама і іншыя творы іншых маладых аўтараў, то заўважыў: ёсць у іх убачаныя цікавыя рыскі, пункцірам абазначаныя героі-гараджане, але яшчэ яркай карціны, яркіх вобразаў няма. Відаць, варта акунуцца ва ўсе сферы жыцця горада, па-другое, трэба болей шукаць, як да рацыяналізму, інфармацыйнасці альбо пэўных пратакольных хранікальных запісаў дадаць эмацыянальны пачатак, жывапіс, псіхалагізм — тыя рысы, якімі была і ёсць моцная вясковая проза.

Як ужо гаварылі, час, сітуацыя цяпер нялёгкія, але, з другога боку, і спрыяльныя для выяўлення сваіх грамадзянскіх і творчых магчымасцей. У тым ліку і для маладых і самых маладых. Як вядома, у нас, дзякуючы намаганням дзеячаў культуры і пры падтрымцы партыі і ўрада, пачаў выходзіць новы часопіс «Крыніца» на беларускай і рускай мовах, з'явілася «Бібліятэка часопіса «Маладосць», пашыраны магчымасці для выдання калектыўных і асобных кніг у выдавецтвах «Мастацкая літаратура» і «Юнацтва», кожны наш часопіс, «ЛіМ» заўсёды гатовы вітаць таленавіты твор маладога аўтара. У гэтай сувязі лічу, што «Тутэйшыя» не зусім

(Працяг на стар. 6—7).

нізму, а вяршыня нацыянальна-грамадскай думкі пачатку XX ст. — нацыянальная дэмакратыя — ахрышчана «нацдэмаўшчынай», былі тэарэтычна падрыхтаваны яшчэ ў першай палове 20-х гадоў.

Каб стварыць гісторыю не толькі навуковую, але і папулярную, чытэльную, трэба пазбаўляцца ад дэперсаналізацыі, безаблічнасці яе. Лёс пісьменніка, яго жыццё і смерць субстанцыянальна звязаны з яго творчасцю, таму трэба паказваць гісторыю літаратуры праз раскрыццё духоўнага свету, лёсу пісьменнікаў.

Вельмі вострая праблема крыніцазнаўства — знікаюць не толькі рукапісы, але і перыядычны друк. Да прыкладу, нават поўнага камплекта «Нашай Нівы» няма нідзе, апроч Ленінграда. Патрэбна, на думку У. Конана, факсімільнае выданне «Нашай Нівы» і грунтоўнае яе даследаванне.

Ці гатовы мы да новага напісання гісторыі літаратуры? — паставіў пытанне доктар філалагічных навук А. Мальдзіс. Не, бо доўгі час у нас не ў пашане была аснова гісторыі — яго вялікасць факт. Важныя былі толькі канцэпцыі, агульныя разважанні, але ж яны не могуць грунтавацца на пустым месцы. Работа над «Бібліяграфічным слоўнікам» паказала, як мала мы ведаем пра сваіх пісьменнікаў, часам не ведаем нават імён, толькі псеўданімы. Слоўнік — важная ступенька для напісання гісторыі, для крыніцазнаўства.

Патрэбна дакладнае высвятленне лёсаў рэпрэсіраваных, стварэнне даведніка рэпрэсіраваных пісьменнікаў. У Маскве працуе камісія па рэабілітацыі пісьменнікаў, і мы — адзіная рэспубліка, якая не дала звестак.

У аснове канцэпцыі новай гісторыі літаратуры, уключыўся ў размову доктар філалагічных навук В. Івашын, павінна ляжаць праблема пераемнасці і развіцця. Не варта крытыкаваць 20—30-я гады з пазіцый нашага часу. Трэба асэнсаваць, чаму літаратура была сацыяльнай, класавай, не ўлічвала гуманістычных ідэй. Сталінская дэфармацыя — не аснова для перыядызацыі літаратуры, у аснову павінен быць пакладзен эстэтычны прынцып, прынцып, які б цэласна раскрываў працэс развіцця літаратуры.

Кандыдат філалагічных навук І. Жук падтрымаў думку А. Сямёнавай аб тым, што, акрамя «эталоннай», акадэмічнай гісторыі, павінны ствараццa нарысы гісторыі, адным аўтарам або калектывам, і прапанаваў аб'явіць конкурс для напісання гісторыі літаратуры. Ён унёс прапанову звярнуцца ў Міністэрства народнай адукацыі — увесці чытанне курса лекцый «Гісторыя беларускай літаратуры XX ст.», стварыць дапаможнікі для ВНУ. Гэта папярэджвала б вульгарызатарскія скажэнні творчасці пісьменнікаў. Так, гісторык І. Коўкель, чытаючы ў Гродне лекцыі ў інстытуце ўдасканалення настаўнікаў, 400 вершаў Купалы аб'явіў нацыяналістычнымі, В. Быкава называе «дальнабойнай артылерыяй беларускага нацыяналізму» і г. д.

Конкурс на напісанне гісторыі літаратуры, запярэчыў А. Жуку В. Ярац, справа добрая, але нерэальная, для яе нестае літаратуразнаўчых сіл. Пры напісанні гісторыі, зазначыў ён, трэба менш захапляцца пераказам, ацэнкамі, а больш увагі ўдзяляць генезісу, структурнаму, жанраваму, мастацкаму багаццю літаратуры.

У абмеркаванні прынялі ўдзел таксама А. Петрашкевіч, які даў інфармацыю аб стварэнні Энцыклапедыі незаконна рэпрэсіраваных грамадзян БССР, Л. Савік, І. Чыгрын і Ю. Канэ. Вынікі абмеркавання падвёў дырэктар Інстытута літаратуры В. Каваленка, які выказаў падзяку за цікавыя думкі і прапановы.

**Наш спецкар.**
**Т. ЧАБАН.**

ЛЯ КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ

# Дом прасторны і светлы

Добра помню гады, калі Эдуард Скобелеў публікаваў свае першыя кнігі. Цяпер гэта аўтар больш дваццаці кніг паэзіі і прозы, перакладаў, мноства публіцыстычных і літаратурна-крытычных артыкулаў. Кнігі Эдуарда Скобелева, як кажуць, не залежваюцца ні ў магазінах, ні ў бібліятэках.

Э. Скобелеў усёй душой прыняў перабудову, прысвяціў дзесяткі артыкулаў розным аспектам абнаўлення жыцця савецкага грамадства. Тэме абнаўлення прысвечана яго аповесць «Гладыятар», якая пакуль што, на жаль, не прачытана сур'ёзным даследчыкам.

Хацеў бы пасля гэтай прэамбулы сказаць, наколькі дазваляе газетная паласа, пра апошнюю работу Э. Скобелева — паэтычную кнігу «Мой дом».

Вызначальны пачатак кнігі — маральная пазіцыя аўтара, яго адказнасць перад словам і тым самым — перад чытачом і часам.

Але гэта адказнасць не фанатыка, які гатовы спаліць сябе ў агні ўласнай ідэі, а адказнасць мудраца, які запрашае кожнага чалавека да саадаследавання і самапазнання свету і самастойнага набыцця яго праўды.

**Шагни навстречу людям,**
**доверяя,**
**У всех проблемы те же, та же**
**жизнь,**
**И так же трудно молодость**
**другая**
**Другому сердцу шепчет:**
**«Отворись!»**

Адштурхоўваючыся ад свайго асабістага вопыту, аўтар сцвярджае, што праўду жыцця немагчыма засвоіць, падзяляючы жыццё на адвольныя часткі, не бачачы пастаянна таго вызначальнага, што звязвае ўсё ў адзіны «безвыходны» працэс. І сярод вызначальных велічыняў Эдуард Скобелеў асабліва вылучае Радзіму, сям'ю, дом. Ён шчыра верыць у магчымасці кожнага чалавека:

**Каждый из нас — человечество,**
**сжатое в почку.**
**Каждый, дерзай —**
**обернешься зеленым**
**листочком!**

У вершах Эдуарда Скобелева рассыпаны зярняты той горкай, а часам і трагічнай праўды, не пражыўшы якую, не «перахварэўшы» ёю, нельга набыць той чалавечнасці, якая ўмее ўспрыняць галоўнае ў чалавеку і аддаць яму належнае («Чаканне», «Манах», «Памяць»).

Улоўліваючы токі гэтай чалавечнасці ў сваім часе, паэт нязмушана прагназіруе будучыню.

**А время требует подвижника**
**без удач, удач и должностей,**
**который бы за правду высшую**
**пожертвовал судьбою всей!**

**А время требует старателя,**
**неукротимого бойца,**
**не демагога и стяжателя**
**без совести и без лица!..**

Кніга пакарае адкрытасцю, тым, што паэт не хавае ніякіх душэўных перажыванняў ад свайго чытача, поўнасцю давяраючы яму.

У кнізе асабліва выразна прасочваецца непарыўная духоўная повязь паэта са сваёй бацькаўшчынай. «Вот мои предки — пахари, бойцы, не сломленные горем мудрецы», — падкрэслівае паэт. Ён бярэцца за пяро менавіта дзеля таго, каб расказаць пра родную зямлю і гісторыю народа, які «одолжил нам свой нагорный глас». І, трэба прызнаць, што яго расказ атрымаўся змястоўным і ёмістым.

Моцны бок Эдуарда Скобелева — арыгінальная, глыбокая думка, якая сведчыць пра арыгінальныя і глыбокія пачуцці. Але не менш цікавы паэт як тонкі і назіральны лірык.

**Так пыль стирают с тусклого**
**трюмо,**
**чтобы увидеть не лицо, а**
**старость,**
**не платье, но ушедшую**
**любовь,**
**не блеклый взгляд, но**
**страшную потерю,**
**не комнату, но отшумевший**
**век...**

Даволі цікавая, свежая па задуме і грунтоўная па філасофскай насычанасці паэма «Праметэй», якая заключае кнігу. Паэма напісана, верагодна, даўно, бо цэнтральныя яе сцэны друкаваліся яшчэ ў рамане «Маятнік надзеі» (1978 г.). Хаця — гэта і не дзіўна. Паэт вельмі нетаропкі ў публікацыі сваіх работ, хоць яго плённасць стварае адваротнае ўражанне. Мне вядома, напрыклад, што ў Эдуарда Скобелева ёсць да дзесятка закончаных рукапісаў, якія ён многія гады не прапаноўвае выдаўцам, — факт, пагадзіцеся, рэдкі ў цяперашняй літаратурнай практыцы.

У прыгаданай паэме «Праметэй» спрачаюцца дзве праўды: праўда звычайнага, будзённага жыцця і праўда вечнасці, якую адстойвае Зеўс. Зеўс, перамагаючы, прайграе спрэчку, таму што яго праўда пазбаўлена стваральных пачаткаў.

Мы прывыклі да «тым не менш» у крытычных работах. І я мог бы папракнуць Эдуарда Скобелева ў залішняй зашыфраванасці асобных радкоў ці недагаворак, але лічу гэта асаблівасцямі стылю паэта: ён заахвочвае чытача да самастойнага аналізу.

Мы не заўважаем, як хутка змяняецца час, таму што самі змяняемся разам з ім. Але «тайна чалавека», праўда яго жыцця, схаваная пад напластаваннямі сацыяльнага і жыццёвага вопыту, заўсёды хвалюе. Мне думаецца, менавіта тут трэба шукаць «загадку» вершаў Эдуарда Скобелева: яны абуджаюць свядомасць, яны заклікаюць да сумленнасці.

**С. ЛАКІШЫК,**
**кандыдат філалагічных навук.**

Э. Скобелеў. Мой дом. Вершы. На рускай мове. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1988.

пеху, на які мы разлічваем. І мне будзе найбольш тады шкада маладых. Я баюся, каб не настала дэпрэсія, каб не настала зноў нявер'е, бо яно можа прыйсці вельмі надоўга, на цэлыя пакаленні... Мяне моцна бянтэжыць тая акалічнасць, што мы не ўмеем адзін аднаго вучыць. Увогуле ў літаратуры — вучоба рэч даволі далікатная. Яна не кожнаму па сіле. У літаратуры настаўнікам з'яўляецца ўся літаратура. Ці ж гэта першае пакаленне супрацьпастаўляе сябе папярэднім? Некалі і нас дужа займала гэтае пытанне. Але адно бясспрэчна — хацелася б, каб гэтае бясспрэчнае зразумелі цяперашнія маладыя — яна, тая наша літаратура, з асаблівай, упартай і нейкай цяжкай сілай гаварыла пра самае глыбокае ў чалавеку. Якраз вось гэтае і склала галоўны пафас часу. Мы шукалі тады праўду. Цяпер яна, здаецца, сама выйшла насустрач...

Аб праблеме «некантактнасці» пакаленняў гаварыў у сваёй прамове празаік, прадстаўнік Маскоўскай пісьменніцкай арганізацыі **А. Папцоў.** На яго думку, гэта вельмі важная праблема, бо прыход у літаратуру маладых успрымаюць з цяжкасцю не старэйшыя, а часцей пакаленне, якое знаходзіцца побач. Таму вельмі важна, каб маладыя прыходзілі ў літаратуру са сваёй крытыкай, падкрэсліў прамоўца.

Пачынаючы паэт **А. Аркуш** гаварыў пра сёлетнюю нараду маладых у «Іслачы», адзначыўшы, што многія таленавітыя творцы чамусьці не трапілі на яе. Ён таксама прывёў і іншы прыклад, які, на яго думку, сведчыць аб адносінах да маладых літаратараў: выдадзеная ў 1985 годзе кніжка Алега Мінкіна «Сурма» стала з'явай, а ў члены Саюза пісьменнікаў паэт не прыняты і сёння. Згадаў А. Аркуш і лёс А. Бембеля — ссівелага «маладога» паэта, творы якога дагэтуль не друкуюцца ў нас.

На маладой літаратуры для дзяцей і юнацтва спыніўся **А. Вольскі.** Апроч усяго іншага, ён зазначыў, што на семінар у «Іслачы» не трапіў ні адзін прадстаўнік маладой дзіцячай літаратуры, што гэты факт адлюстроўвае ў нейкай ступені сённяшні стан прыгожага пісьменства для дзяцей.

Пра маладых пісьменнікаў-фантастаў гаварыў **Э. Ялугін.** На працягу апошніх пяці гадоў было апублікавана звыш 230 твораў маладых пісьменнікаў. З іх на беларускай мове — 70. Сярод аўтараў, якія падаюць надзею, С. Трусаў, Н. Новаш, Б. Зяленскі. Аднак многія з маладых, адзначыў прамоўца, не ведаюць беларускай мовы настолькі, каб напісаць паўнацэнны твор, а руская мова ў іх рафініраваная, уніфікаваная. Добра, што нашу фантастыку падтрымлівае, працягваў Э. Ялугін, выдавецтва «Полымя», часопісы «Нёман», «Парус», «Крыніца». Можна было б зрабіць вельмі цікавы штогоднік «Прыгоды і фантастыка», які можа ператварыцца з часам у альманах. Гэта было б добрым трамплінам для маладых фантастаў.

Пра неабходнасць падтрымкі і ўвагі з боку СП да маладых літаратараў, якія пішуць на рускай мове, гаварыў у сваім выступленні **А. Майсееў.**

**К. Шэрман** пазнаёміў прысутных з дзейнасцю клуба маладога перакладчыка «Вавілон». З 15 чалавек, якія складаюць творчае ядро клуба, друкуюцца ўжо 10—12 маладых творцаў. Бюро секцыі перакладу рэкамендавала некалькіх «вавілонцаў» да паступлення ў Літаратурны інстытут. К. Шэрман крытыкаваў Мінскі інстытут замежных моў, кіраўніцтва якога адмовілася ад падрыхтоўкі нацыянальных кадраў і сур'ёзнага выкладання беларускай мовы, ігнаруе папрокі і «Литературной газеты», і рэспубліканскага тэлебачання.

Пра цяжкасці маладога чалавека на шляху ў літаратуру гаварыў **А. Асташонак.** Не заўсёды на гэтым шляху губляюцца толькі эфемерныя таленты і кволыя душы. Ёсць людзі з надзвычай ранімай душой, з самабытным бачаннем свету, здольныя на неардынарныя ўчынкі. Згадаў А. Асташонак і пра рэспубліканскую нараду маладых творцаў. Пасля кожнай нарады, лічыць ён, варта выдаваць кніжку паэзіі і прозы.

Канкрэтныя прапановы, якія маглі б, на думку прамоўцы, рэальна паспрыяць сучаснаму літаратурнаму працэсу, выказаў **А. Лойка.** У агульнакультурнай атмасферы нашага часу з аднаго боку назіраецца рэнесансная ўвага да філалогіі як навукі навук, а з другога — пэўны заняпад культуведаў, кнігі. Драбнее не толькі прага ўсезнаўства, але ўвогуле вузее кола творчай моладзі. У цэлым не бяда, што творчае асяроддзе ў нас не пераважна філалагічнае, што маладая інтэлігенцыя — і тэхнакратная. Але ў тым, што творчая моладзь не так ахвотна ідзе сёння на філалогію, бачыцца і пэўнае падзенне прэстыжу філалагічнага факультэта. На думку А. Лойкі, для далейшага развіцця культуры рэспублікі неабходна пераўтварыць філфак БДУ імя У. І. Леніна ў адзіны факультэт беларусістыкі, на якім побач з аддзяленнямі рускай, класічных, славянскіх і рамана-германскіх моў былі б творчае аддзяленне і аддзяленне прыкладной філалогіі, што рыхтавалі б патрэбных рэспубліцы спецыялістаў.

На пленуме выступіў і прадстаўнік Ленінградскай пісьменніцкай арганізацыі **Я. Кутузаў.** Нідзе, акрамя нашай краіны, няма літаратурнага інстытута, вышэйшых літаратурных курсаў, гаварыў ён. Але ці не шкоду яны прыносяць? Калі я, да прыкладу, студэнт, то абавязкова буду падладжвацца пад свайго кіраўніка. А ўсім жа навучальным працэсам кіруюць адны сталічныя літаратары. Ці не робіцца наша літаратура сярэднемаскоўскай? У Расіі заўсёды была правінцыйная літаратура, і яна была вялікай літаратурай. А што мы пакінем сваім нашчадкам?

Пра неабходнасць сацыяльнай актыўнасці маладых аўтараў, пра тыя няпростыя надзённыя задачы, якія стаяць перад імі, гаварыў загадчык сектара мастацкай літаратуры аддзела культуры ЦК КПБ **А. Бутэвіч.** Ён, у прыватнасці, заклікаў пачаткоўцаў выступаць у галіне публіцыстыкі. Наша публіцыстыка пакуль што не набрала належнага разгону. А праблем шмат: і па адраджэнню роднай мовы, і па наданню ёй шырокіх паўнамоцтваў — у кожнай сялянскай і гарадской кватэры, і па вывучэнню «белых плямаў» у нашай гісторыі і культуры. Спыніўшыся на пытанні аб далейшым лёсе беларускай мовы, А. Бутэвіч зазначыў, што сітуацыя мяняецца. Абвешчана стварэнне доўгатэрміновай праграмы «Родная мова». Давайце разам выпрацуем такую праграму, каб яна магла вырашыць моўную праблему, пачынаючы з дзіцячага сада да вышэйшай навучальнай установы, і будзем сумесна ажыццяўляць яе. Прамоўца спыніўся на мікраклімаце ў творчым асяроддзі, заклікаў да ўзаемаразумення і супрацоўніцтва дзеля карысці роднай літаратуры. А яшчэ ён адзначыў, што прынята рашэнне: там, дзе ёсць дастатковая колькасць матэрыялу, абласныя газеты маюць права выдаваць свае альманахі. Прамоўца паведаміў таксама, што з наступнага года беларуская мова ў рускамоўных школах будзе вывучацца з першага класа.

Даўно настаў час па прыкладзе Украіны мець у рэспубліцы сваё маладзёжнае выдавецтва, паставіў пытанне сакратар ЦК ЛКСМБ **М. Падгайны.** І пажадана са сваёй паліграфічнай базай. Сюды маглі б увайсці ўсе маладзёжныя перыядычныя выданні. М. Падгайны сказаў, што камсамол падтрымлівае ідэю стварэння ў рэспубліцы новага часопіса «Спадчына», плануе ўжо ў бліжэйшы час наладзіць творчыя паездкі як па краіне, так і за мяжу.

З адказамі на пытанні, што прагучалі з трыбуны і тычыліся дзейнасці СП, выступіў першы сакратар праўлення **Н. Гілевіч.**

На пленуме прысутнічаў і выступіў інструктар Аддзела культуры ЦК КПСС **А. Філін.**

●

На пленуме было разгледжана і арганізацыйнае пытанне. Вырашана ўвесці ў склад прэзідыума праўлення СП БССР С. Грахоўскага і Г. Далідовіча.

**Наш кар.**

# Толькі мёртвыя не вяртаюцца

*ПРАЛОГ*

**Іван ЧЫГРЫНАЎ**



Знаёмыя пытаюцца, чаму гэтак раптоўна ад раманаў перайшоў я да драм, дакладней, што стала прычынай жанравай змены. Тут іх некалькі, гэтых прычын. Па-першае, я ўжо займаўся інсцэнізацыяй сваіх твораў. У Купалаўскім тэатры шмат гадоў ішоў спектакль «Плач перапёлкі». У Брэсцкім — «Апраўданне крыві». У тэатры-студыі кінаакцёра паспяхова працягваецца спектакль па п'есе «Дзівак з Ганчарнай вуліцы», што зроблена па апавяданнях. Створана п'еса таксама па рамане «Свае і чужыя». Валерый Раеўскі паставіў па ёй радыёспектакль. Так што, драматургіі я вучыўся, можна сказаць, настойліва і не адзін год. Па-другое, Ігар Дабралюбаў сёлета пачынае здымкі шматсерыйнага тэлевізійна-мастацкага фільма па трох маіх раманах, а мне давялося леташнюю восень і сёлетнюю вясну пісаць сцэнарый. Зноў, бачыце, драматургія. Ужо кінадраматургія. Такім чынам, да арыгінальнай драматургіі падвяла мяне сама практыка мастацкай творчасці. У выніку была напісана першая драма «Следчая справа Вашчылы», надрукаваная ў адзінаццатым нумары часопіса «Полымя»; рэдакцыя часопіса «Маладосць» узяла да друку другую драму — «Звон» — не малітва». Яна таксама гістарычная: пра княгіню Рагнеду, Уладзіміра Кіеўскага і Усяслава Полацкага. Трэцяя драма — «Чалавек з мядзведжым тварам» друкуецца ў часопісе «Полымя», здаецца ў першым нумары 1989 года. Гэта сучасны твор, хоць гэтак, відаць, дарэмна казаць. Гістарычныя творы таксама сучасныя, бо навошта было б іх тады пісаць, калі б яны не прыносілі карысці сучаснаму чалавеку? А цяпер вось на рабочым стале новая драма, якая мае назву «Толькі мёртвыя не вяртаюцца». Раней, усяго месяц які, яна мела ў мяне назву «Ішлі стары ды старая». Але цяпер назва ў яе іншая. Гэта драма пра чарнобыльскую трагедыю, пра зямлю, якая «захварэла» ў выніку той трагедыі... Не напісаць такой драмы я не мог — і мой Вялікі Бор, мая родная вёска засыпана чарнобыльскай радыяцыяй, і колішнія светлыя воды Бесядзі таксама замуціліся ад яе...

Ну а што ж раманы? Сапраўды, я меўся здаць гэтым годам у выдавецтва «Мастацкая літаратура» чацвёрты твор з ваеннага цыкла раманаў: «Кожны знаходзіць сябе». Але вымушаны быў павініцца перад чытачом, што не скончыў яго. Раптам адчуў, як у час нашай вялікай перабудовы, а найперш — галоснасці, сталі дзіўна паводзіць сябе на старонках рамана мае старыя і звыклыя героі, верамейкаўцы і ўсе іншыя. Можаце ўявіць сабе, што Зазыба пачаў... крычаць!.. Акурат міжволі адбывалася на вачах маіх гіпертрафізацыя, калі можна сказаць так, і іншых дзейных асоб. І мяне гэта напалохала. Таму давялося свядома аднесці раман трохі надалей.

І гэта вось і з'явілася галоўнай прычынай актыўнага далучэння да новага жанру. Але няхай. Было б толькі на карысць літаратуры!..

Прапаную ўвазе чытачоў «ЛіМа» пралог драмы «Толькі мёртвыя не вяртаюцца».

**АЎТАР.**

**ДЗЕЙНЫЯ АСОБЫ ДЛЯ ПРАЛОГА**

**ДЗЕД ЛУКАШ**
**БАБА МАТРУНА**
**ПЕРШЫ МІЛІЦЫЯНЕР**
**ДРУГІ МІЛІЦЫЯНЕР**

**На сцэне з левага боку — вясковая хата. Знадворку яе, на прасценку, што паміж вокнамі, стаіць, уторкнутая ў зямлю касільнам, каса. Навокал усё здзічэла, парасло дзядамі, іншай дурной травой. Па двары блукае кошка, адзіная жывая істота. Пасярэдзіне сцэны — агароджа з дроту. Па правы бок ад яе — дарога, па якой брыдзе дзед Лукаш і баба Матруна. Дзед у ботах, у суконным гарнітуры, у капелюшы. Баба таксама надзета збольшага па-гарадскому.**

ЛУКАШ. Ну от, здаецца, датупалі. **(Абапіраецца на дубец. Да старой.)** Хіба не пазнаеш, вунь наша вёска?

МАТРУНА. Ага, сяло... **(Раптам укленчвае, жагнае сябе.)**

ЛУКАШ. Але ж і плот узвялі! **(Бярэцца за плот, хістае.)**

МАТРУНА. Навошта ета яны?

ЛУКАШ. А то не здагадваешся, дурніца? Каб людзей не пусціць! Але няхай, у вайну не такія загароды пераадольвалі. Немцы ставілі іх перад сваім пярэдні краем, як нераты. А то яшчэ і ток прапускалі.

МАТРУНА. То ў вайну. А навошта цяпер перагароджваць добрую дарогу?

ЛУКАШ. Навошта, навошта?!.. **(Азіраецца.)** Дарога зарастае ўжо. А лес? Бачыш, які пажоўклы?

МАТРУНА. Ага, пажоўклы... Ажно страшна. Быццам атручаны.

ЛУКАШ. А ён і ёсць атручаны. Эхма! **(Чухае патыліцу.)** Ад газу такое бывае.

МАТРУНА. Дзе ты яго бачыў, той газ?

ЛУКАШ. У першую імперыялістычную, казалі, немцы пускалі, дык якраз во так дрэвы жаўцелі.

МАТРУНА. Ета калі было!..

ЛУКАШ. Ну так, у ету вайну ні немцы, ні мы газы не пускалі. Кажуць, дамоўленасць такая была.

МАТРУНА. А цяпер во дык і гэ-рай.

ЛУКАШ. Можа, перакусім, а тады ўжо рашаць будзем — фарсіраваць ету перашкоду, ці не. **(Ківае галавой на дрот.)** Нешта як пагледзеў я на еты пажоўклы лес, дык і ахвота прападаць стала ў мяне ісці далей.

МАТРУНА. А птушкі, чуеш, пяюць! Казалі, птушкі прапалі тут. А яны і тут пяюць. Лес пажоўк, а птушкі жывуць. Значыць, і чалавеку недзе жыць можна ў етай...

ЛУКАШ. Радыяцыя, маць яе так!..

МАТРУНА. Ага, радзівацыі, халера яе.

ЛУКАШ. Дык яна, кажуць, такая, што ніякай халеры не баіцца. Навекі тут апала.

МАТРУНА. Пісалі ж у старых кніжках, што некалі ўпадзе на зямлю палын-зорка, каб усё атруціць на зямлі. Дык яно так і выйшла, як у біблії. Яно ж адно — што белы палын, што чорны.

ЛУКАШ. Ага, Чарнабыль, маць яго так!..

МАТРУНА. Што ета ты раптам лаяцца пачаў?..

ЛУКАШ. Станеш тут лаяцца, халера!.. Ну то будзем перакусваць ці як?

МАТРУНА. Лепей бы ў сваёй хаце...

ЛУКАШ. Твая праўда. Ета яно заўсёды лепей так, калі ўжо дома. **(Зноў бярэцца за агароджу з дроту.)** От бы кусачкі сюды!

МАТРУНА. Што?

ЛУКАШ. Кусачкі, кажу. Ну каб дрот гэты... А можа, ад слупа аддзерці? **(Падыходзіць да агароджы ў тым месцы, дзе дрот прымацаваны да слупа. Моцна торгае абедзвюма рукамі.)** Эйш, халера!.. Ета табе не калгасная работа. Няйначай, тут Чырвоная Армія напрацавала. **(Пастаяў, пачухаў галаву пад капелюшом..)** Ета ж каб знаць, што перашкода на дарозе будзе, то ў горадзе ў магазін трэба было зайсці, кусачкі купіць.

МАТРУНА. А мы зараз пад плот.

ЛУКАШ. Нізка павесілі.

МАТРУНА. Хіба ўжо нельга падкапацца?

ЛУКАШ. Як ета? Лапаты ж няма?

МАТРУНА. А рукамі! **(Падбягае збоч дарогі да агароджы, пачынае грабаць зямлю.)**

**Чуецца, як аднекуль пад'язджае аўтамашына. Да агароджы неўзабаве падыходзяць міліцыянеры.**

ПЕРШЫ МІЛІЦЫЯНЕР. Што вы тут робіце?

ЛУКАШ. Дык...

МАТРУНА **(паказвае рукой)**. Вунь наша вёска...

ПЕРШЫ МІЛІЦЫЯНЕР. Ну і што?

ЛУКАШ. Дык...

ДРУГІ МІЛІЦЫЯНЕР. Адкуль вы?

ЛУКАШ. Дык...

ДРУГІ МІЛІЦЫЯНЕР. Няйначай, з неба зваліліся? Можа, гэта вы прыляцелі сюды на «талерцы»?

ЛУКАШ **(ужо незадаволена)**. На якой «талерцы»?

ПЕРШЫ МІЛІЦЫЯНЕР **(смяецца)**. На непазнаным аб'екце. Хіба не чулі, што такія цяпер таксама ў нас лётаюць?

МАТРУНА **(падступаецца да міліцыянера)**. Ты, мілок, вось што... Ты, мілок... Нашы талеркі засталіся ў хаце, як ад'язджалі адсюль.

ПЕРШЫ МІЛІЦЫЯНЕР **(яшчэ больш смяецца)**. З вамі сумна не стане!

ДРУГІ МІЛІЦЫЯНЕР. Вы што, рээвакуанты?

МАТРУНА. Што ты, мілок, вярзеш? Якія мы акупанты? Хіба мы немцы табе?

**Міліцыянеры ўжо несхавана ржуць...**

ЛУКАШ (тым часам да Матруны). Ты пачакай, дай мне пагаварыць з імі.

ПЕРШЫ МІЛІЦЫЯНЕР. Ну, ну!..

ЛУКАШ **(паказвае на хату)**. Ета наша вёска. Мы там жылі. А тады нас, пасля выбуху ў Чарнабылі, калі здарылася аварыя, вывезлі адсюль. Жылі пакуль у горадзе, цяпер вось вяртаемся. Дык пры чым тут эвакуанты ці акупанты?

ДРУГІ МІЛІЦЫЯНЕР. Дзе вы жылі?

ЛУКАШ. У горадзе.

ДРУГІ МІЛІЦЫЯНЕР. Гарадоў многа.

ЛУКАШ. Ну і няхай.

ДРУГІ МІЛІЦЫЯНЕР. У Гомелі?

ЛУКАШ. Не.

ДРУГІ МІЛІЦЫЯНЕР. У Магілёве?

ЛУКАШ. Не.

ДРУГІ МІЛІЦЫЯНЕР. Няйначай, у Маскве?

ЛУКАШ. Чаму ў Маскве? Спярша пажылі ў Мінску ў сына, пасля з'ездзілі да дачкі ў Бранскую вобласць.

ДРУГІ МІЛІЦЫЯНЕР. І чаму не засталіся там?

ЛУКАШ. Там цяпер аднолькава — як тут, так і там. Паўсюды забруджана ад Чарнабыля радыяцыяй.

ПЕРШЫ МІЛІЦЫЯНЕР. Так ды не так. Там жа, нябось, такой загароджы няма?

ЛУКАШ. Здаецца, няма.

ПЕРШЫ МІЛІЦЫЯНЕР. А тут, бачыш, ёсць. Так што, давайце, тупайце назад, даражэнькія. Тут не толькі жыць, тут і стаяць небяспечна. Гэта трыццацікіламетровая зона. Чулі пра такую?

МАТРУНА. Ты, мілок, вось што!.. Ты не палохай нас зонай. Мы пажылі без зоны. Гэта табе не вайна. Гэта тады палохалі зонамі. Пажывём цяпер і ў зоне. Нам ужо не багата засталося таго жыцця. Ета вы, маладыя, вам, можа, і трэба асцерагацца, а нам... **(Махае рукой.)** Нам — не раджаць. Мы ўжо, мілок, сабе нараджалі.

ДРУГІ МІЛІЦЫЯНЕР. Гэта і відаць! Нездарма ж ад сваіх дзяцей уцякаеце сюды, у пекла.

МАТРУНА. Ну, ета, мілок, не табе меркаваць. Яшчэ невядома, якія твае будуць. А сваім дзецям мы самі суддзі.

ПЕРШЫ МІЛІЦЫЯНЕР. Ты гэта ў горадзе навучылася такой гаварлівасці, ці тут ужо была такая?

ЛУКАШ. Ну, вы, грамадзяне міліцыянеры, на яе не дужа зважайце. Давайце размаўляць паміж сабой, памуску.

ПЕРШЫ МІЛІЦЫЯНЕР. Вось гэта голас!

ЛУКАШ. Дык я і хацеў... Жылі мы дасюль у горадзе, а цяпер вяртаемся назад. Вось наша вёска. А вось газета. **(Дастае з кішэні газету.)** «Звязда», наша, беларуская, ад трэцяга жніўня. Таму чытайце. Напісана: «Людзі вярнуліся ў вёску». **(Сам чытае.)** «Гэтага дня людзі чакалі з вялікім нецярпеннем. Чакалі, як змучаныя ў засуху палі чакаюць спорнага дажджу... Чакалі моманту, калі скажуць: «Таварышы вяскоўцы! Жывіце спакойна. Небяспека ліквідавана». І такі дзень настаў»... Так што...

ПЕРШЫ МІЛІЦЫЯНЕР **(бярэ газету, глядзіць)**. Ну, вярнуліся. А куды вярнуліся?

ЛУКАШ. У вёску, там жа напісана. Калі б небяспека была для чалавека, як вы кажаце, то, няйначай, не пісалі б.

МАТРУНА. Ага, вунь і птушкі пяюць...

ПЕРШЫ МІЛІЦЫЯНЕР. Нейкія дзівакі пішуць, а вы...

ЛУКАШ. Ну, нельга ж так!.. Савецкая газета... Нябось, савецкія людзі ў ёй працуюць!..

ПЕРШЫ МІЛІЦЫЯНЕР. Газетныя правакатары, іначай іх назваць нават мне, міліцыянеру, цяжка. А вы!.. Пра вас дык і не ведаю што сказаць. Вось ужо колькі часу слухаю і не разумею — ці ты ўсё гэта гаворыш сур'ёзна ці прытвараешся, ці ты дрымучы паляшук ці ты звычайны дэмагог?

ЛУКАШ **(моршчыцца)**. Які я дэмагог?! **(Уздыхае)**. Проста хачу трапіць у вёску сваю. Чым па свеце бадзяцца, то лепей на сваёй прызбе гады дажываць.

ДРУГІ МІЛІЦЫЯНЕР. Яна ўжо не твая, гэтая прызба. Табе дзяржава за яе заплаціла?

ЛУКАШ. Ну, за хату нам заплацілі. Але ж стаіць!..

ДРУГІ МІЛІЦЫЯНЕР. Бо нельга паліць і яе. Уся радыяцыя шугае ў гору. І закапаць таксама нельга. А вы!..

ПЕРШЫ МІЛІЦЫЯНЕР. У цябе планкі на грудзях ад ваенных арданоў ды медаляў. Значыць, ваяваў?

ЛУКАШ. Ну, спярша на вайне быў, у сорак першым, пасля ў партызанах, а тады з сорак трэцяга зноў на вайне.

ПЕРШЫ МІЛІЦЫЯНЕР. Словам, ваяваў. Адсюль — ведаць павінен, што такое вораг.

ЛУКАШ. Вядома.

ДРУГІ МІЛІЦЫЯНЕР **(жартам)**. Асабліва, мусіць, запомніў, што такое вораг, з партызанаў. Як у той прыказцы: забілі немца — не забілі, а груку многа нарабілі.

ПЕРШЫ МІЛІЦЫЯНЕР. Мы не пра тое.

МАТРУНА. Вось і я кажу, мілок, не пра тое!..

ПЕРШЫ МІЛІЦЫЯНЕР. Памаўчы, цётка! **(Да старога.)** Тады вораг быў зразумелы — немец...

ЛУКАШ. І паліцай!..

ПЕРШЫ МІЛІЦЫЯНЕР. Няхай. Я гэта к таму, што вораг тады быў бачны. Дапусцім, дакладваюць — наперадзе ўзвод нямецкай пяхоты!

ДРУГІ МІЛІЦЫЯНЕР **(паціскае плячамі)**. Што ты ім тлумачыш?!.

ПЕРШЫ МІЛІЦЫЯНЕР **(да яго)**. Пачакай. **(Зноў да старога Лукаша.)** А цяпер які вораг? Нябачны. Радыяцыя. Вось мы стаім зараз з табой, а радыяцыя нячутна і нябачна распаўзаецца пад нагамі.

ЛУКАШ. Ну, распаўзаецца!..

ПЕРШЫ МІЛІЦЫЯНЕР. Пад зямлёй. Разам з вадой.

ЛУКАШ. А хіба яе ў такім разе агароджай з дроту затрымаеш? Ета людзям можна перагарадзіць дарогу, а радыяцыі...

ПЕРШЫ МІЛІЦЫЯНЕР. Вось, пачынаеш кумекаць. А прэшся ў забаронную зону. Ды яшчэ бабу з сабой вядзеш!

ЛУКАШ. А якая розніца? Сам жа кажаш, што радыяцыя пад зямлёй

разам з вадой ушыркі распаўзаецца. Значыць, ад яе не ўратуешся. Хоць дзе цяпер спыніся, а яна цябе знойдзе, дагоніць. Ета ж дзе еты Чарнабыль, а паехалі мы з Матрунай у Бранскую вобласць да дачкі, дык і там радыяцыя. Так што...

ДРУГІ МІЛІЦЫЯНЕР. Адкуль там радыяцыя?

ЛУКАШ. Кажуць, воблака над той тэрыторыяй расстралялі, якое на Маскву плыло. Ружа вятроў. Хіба не чуў? Дык якраз з Чарнабыля, напрасткі на Маскву праз Браншчыну, Краснаполле, Касцюковічы...

ДРУГІ МІЛІЦЫЯНЕР. А прычым тут Касцюковічы, Краснаполле? Яны ж не ў Бранскай вобласці. Гэта ж тут, у Беларусі.

ЛУКАШ. Ну так. Але ж якая розніца? І там, у іх, зямля хворая ад Чарнабыля, і тут, у нас.

ДРУГІ МІЛІЦЫЯНЕР **(глядзіць усё роўна як у здзіўленні на старога, тады адварочваецца).** Канчайце, а то ехаць трэба. Людзі ў машыне чакаюць. Мілірэнтгены хапаюць.

МАТРУНА **(ледзь не кідаючыся на яго).** Ты, мілок, будзь чалавекам! Дай пагаварыць! Бачыш, як людзі ўмеюць разважаць? А ты!..

ДРУГІ МІЛІЦЫЯНЕР. Чым даўжэй стаім, тым болей падвяргаемся небяспецы. Нам таксама здароўе шанаваць трэба.

МАТРУНА. То і едзьце сабе на здароўе, куды ехалі.

ДРУГІ МІЛІЦЫЯНЕР. Цямнота!..

ЛУКАШ. Але абражаць людзей таксама не трэба. Цяпер не такі час, каб трываць.

ПЕРШЫ МІЛІЦЫЯНЕР. Значыць, ты газету ўзяў з сабой замест пропуска, так?

ЛУКАШ. Раз людзям можна вяртацца ў свае вёскі, чаму нам нельга?

ПЕРШЫ МІЛІЦЫЯНЕР. Тут зона, разумееш? Тут ніводнай душы на цэлыя кіламетры вакол!

МАТРУНА. А нам казалі, што адна баба нібыта жыве.

ПЕРШЫ МІЛІЦЫЯНЕР. Дзе гэта вам казалі?

МАТРУНА. Дык людзі ж нешта ведаюць!

ЛУКАШ. Ага, людзі ведаюць.

ПЕРШЫ МІЛІЦЫЯНЕР. Часта на сваю галаву.

МАТРУНА. Няхай сабе, але ж ведаюць.

ДРУГІ МІЛІЦЫЯНЕР. Нашы таварышы, пакуль той вашай бабе хлеб вазілі ў зону, каб з голаду не сканала, лішаёў набраліся, як тыя бяздомныя кошкі. Цяпер вы хочаце нарабіць нам клопату?

ЛУКАШ. Мы, сынок... Ета ўжо наш клопат пасля будзе...

ДРУГІ МІЛІЦЫЯНЕР. То-та што пасля!

ЛУКАШ. Але мы, сынок, не будзем і знаку падаваць, калі ў вёску пусціце.

ПЕРШЫ МІЛІЦЫЯНЕР. Кажаце, у вас і дзеці ёсць?

МАТРУНА. Ёсцека і дзеці.

ПЕРШЫ МІЛІЦЫЯНЕР. І яны ведаюць, што вы сюды падаліся?

ЛУКАШ. Дык яны ж таксама газеты чытаюць.

ПЕРШЫ МІЛІЦЫЯНЕР **(уздыхнуў).** Бачу, з вамі гаварыць, што ў ступе ваду таўчы. Але пусціць вас у зону мы не можам. Заедзем у бліжэйшы сельсавет, няхай там разбяруцца. Дарэчы, у іх пустых хат хапае. Нават новых, што цяпер збудавалі. Дык прасіцеся жыць, калі не можаце іначай, калі без сваёй вёскі не ўяўляеце сабе свету, а вашы ад вас адракліся.

ЛУКАШ. Нам, сынок, туды трэба. **(Паказвае на вёску.)** Бо толькі мёртвыя дамоў не вяртаюцца.

ПЕРШЫ МІЛІЦЫЯНЕР **(паглядзеўшы загадкава на другога).** Якраз наадварот. Мёртвым... што? Яны ўжо і так мёртвыя. **(Да Лукаша.)** А жывым нельга, бацька.Там жыць небяспечна.

ЛУКАШ. А тут, паблізу? **(Паказвае ў адваротны бок.)** Сам жа кажаш, жывуць людзі.

ПЕРШЫ МІЛІЦЫЯНЕР. Каб мая воля, то я б і іх вывез адсюль.

ЛУКАШ. А чаму вас, міліцыю, тады трымаюць тут, калі нельга людзям жыць?

ПЕРШЫ МІЛІЦЫЯНЕР. Мы вахтавым метадам. Адны з нас прыязджаюць, другія ад'язджаюць. Нахапаем мілірэнтгенаў і ўцякаем. Служба, бацька.

ЛУКАШ. Яно так... Але ж можна і на такой службе ўрэшце звесці вочы? Ну, не бачылі нас і ўсё тут! Бывае ж такое.

ДРУГІ МІЛІЦЫЯНЕР. Ці не намякаеш ты на ўзятку?

ЛУКАШ **(з прыкрасцю).** Не лезь!.. **(Да першага міліцыянера).** Бывае ж такое?

ПЕРШЫ МІЛІЦЫЯНЕР. Усё бывае, бацька. Але тым не менш — у зону нельга. Не хачу ў начы прачынацца ды думаць, што вас тут паступова радыяцыя жарэ. Сумленне не дазваляе. Чалавечае сумленне, разумееш?

ЛУКАШ. Ды як не разумець?..

ПЕРШЫ МІЛІЦЫЯНЕР. А ў газетах можна што хочаш напісаць. Нават несусвеціцу. Нават глупства. Асабліва цяпер.

ДРУГІ МІЛІЦЫЯНЕР **(да першага).** Паедзем, а то нябожчыца ў труне ад радыяцыі перавернецца.

ЛУКАШ **(насцярожана).** Як ета?

ПЕРШЫ МІЛІЦЫЯНЕР. Мы ў зону едзем...

ЛУКАШ. Ну вось, самі едзеце, а нас...

ПЕРШЫ МІЛІЦЫЯНЕР. Чуў жа, нябожчыцу вязем. Адзін грамадзянін маці сваю прывёз сюды, на радзіму, хаваць. У яго дазвол ёсць, а ў нас — прадпісанне. Так што, не можам узяць цяпер вас з сабой. Будзем вяртацца з зоны, тады забярэм вас, адвязем у сельсавет.

ЛУКАШ. Навошта ў сельсавет?

МАТРУНА. Ага, навошта?

ПЕРШЫ МІЛІЦЫЯНЕР. Тады на чыгуначную станцыю.

МАТРУНА. І на станцыю не трэба!

ЛУКАШ. Ага, не трэба!..

МАТРУНА. Нам у сваю вёску край трэба!..

ЛУКАШ.Ага, у вёску!..

ДРУГІ МІЛІЦЫЯНЕР. Вы мне ўжо абрыдлі! **(Да першага міліцыянера).** Давай пасадзім на труну ў кузаў ды пакатаем па зоне, калі гэтак хочуць?

ПЕРШЫ МІЛІЦЫЯНЕР. Не кажы абы-што.

МАТРУНА. Ага, абы-што!

ДРУГІ МІЛІЦЫЯНЕР. А я б толькі так і зрабіў. Няхай бы паглядзелі на тутэйшы атол Мурароў.

ПЕРШЫ МІЛІЦЫЯНЕР. Знайшоў, каго палохаць. Нічога ты ім не пакажаш, а тым больш — не дакажаш.

ДРУГІ МІЛІЦЫЯНЕР. Тады я пайшоў. Даганяй. **(Ідзе назад па дарозе.)**

ПЕРШЫ МІЛІЦЫЯНЕР. Вось што, мае даражэнькія ахвотнікі ў рабінзоны. Вы ўсё-такі пачакайце нас тут, на гэтым месцы. Трэба ж урэшце даць вашай справе нейкае рады. А далей **(паказвае на агароджу)** — ні кроку, зразумелі?

ЛУКАШ. Ды ўжо ж...

**Першы міліцыянер таксама адыходзіць. Даганяе другога міліцыянера.**

ДРУГІ МІЛІЦЫЯНЕР. Усё неяк перайначылася. Кажуць, толькі мёртвыя не вяртаюцца.

ПЕРШЫ МІЛІЦЫЯНЕР. Куды?

ДРУГІ МІЛІЦЫЯНЕР. Гэта ўвогуле. Дапусцім, дамоў ці яшчэ куды. Але ж бачыш — вяртаюцца сюды і мёртвыя і жывыя.

ПЕРШЫ МІЛІЦЫЯНЕР. Жывыя, мусіць, хутчэй за ўсё таму, што недзе ім яшчэ горай жывецца.

**Не паспяваюць яны схавацца за пагоркам, як старая Матруна зноў кідаецца да агароджы, пачынае, быццам мышка, хуценька капаць рукамі лаз пад дротам. Лукаш нейкі час назірае за яе паспешлівымі рухамі.**

ЛУКАШ. Можа, мы ета і праўда дарэмна, га Матруна?

**Не дачакаўшыся адказу, Лукаш сыходзіць з дарогі, бярэ востры абломак дошкі, ступае з ім да агароджы.**

ЛУКАШ **(да жонкі).** Давай-тка, а то... **(Капае, а тады прыўзнімае ніжнюю столку агароджы).** Ну, цяпер лезь!..

Матруна шмыгнула ў дзірку.

ЛУКАШ. Патрымай дрот! **(Таксама лезе пад агароджу).** А цяпер, старая, хадзем на свой двор, дарма што даўно прададзены ўжо, куплены ў нас, можна сказаць, дзяржавай за немалыя грошы, а грошы тыя паспелі разляцецца..!

**Здзічэлая кошка, убачыўшы колішніх гаспадароў, моцна фыркае, амаль пазмяінаму шыпіць. Лукаш адразу бярэ ў рукі касу, спрабуе вялікім пальцам правай рукі лязо на вастрыню. Матруна тым часам сядае на ганак, кліча кошку — «Кыс-кыс-кыс», а тады пачынае ўголас плакаць, падбіраючы свае словы, падобныя на галашэнне: «А людзечкі, што ж ета вы нарабілі тут?..»**

**На сцэне паступова гасне святло.**

## *З паэтычнай пошты*

**Васіль ЖУКОВІЧ**

### *О, знікні ты, сумнення цень!*

Яшчэ ўсё іншы раз не верыцца,
што ўдасца абудзіць народ,
што і абуджаны не вернецца
у спячку ўжо на сотні год.

Сядзяць ва ўладзе (хто іх кратае?!)
палітыканы і чыны,
што і пад сцягам дэмакратыі
умеюць свой разбой чыніць.

Ім аніякае галоснасці
не трэба — ім вярні застой,
дыхнуць ім дай паветрам коснасці, —
і знойдзецца ў іх лідэр свой.

Спакойненькага ўзнімуць лідэра,
а ты яго не выбірай —
прагаласуй заместа выбараў
і будзе зноў эліце рай.

І зоймуцца хлуслівай крытыкай:
маўляў, пара назад ісці,
бо Гарбачоў сваёй палітыкай
усю краіну распусціў.

І пад гарачыя авацыі
і чыйсьці гнеў, святы дакор
сваёй сляпой знямелай нацыі
яны падпішуць прыгавор.

01.11.88

### *Незвычайны сон*

Прыснілася, нібыта ў нейкай зале
ішоў адкрыты незвычайны суд,
дзе быў падсудны Джугашвілі (Сталін),
суддзя — народ,
звычайны самы люд.

Народ ішоў бясконцаю калонай,
дакор і гнеў кідаў у твар таму,
хто адпраўляў на глум і смерць мільёны,
цаніў рэжым крывавы і турму.

Абуджаныя існаю свабодай,
судзілі людзі вырадка таго,
шукаючы хто «ворагаў народа»,
быў самым жорсткім ворагам яго.

1986—87

●

Чую пра новую фазу
нашай перабудовы.
Зноўку прыгожую фразу
нехта сказаць гатовы.

1987

**Паўлюк ПРАНУЗА**

### *Поле жыцця*

Жыццё пражыць — не поле перайсці.
Спазнаеш цішу. Буру. Навальніцу.
Я помню поле страшнае ў жыцці.
Пад Курскам поле — у агні пшаніцу.

Яго не ўсе па мінах перайшлі
Мае сябры, салдаты-аднагодкі.
Адчайныя, з гранатамі паўзлі
На «тыгры», дзоты пад прамой наводкай.

Іх маладосць скасіла градам куль,
Знявечылі гарачыя асколкі.
Над іх магілай сонца, як патруль,
На іх магіле — ад вянкоў вясёлкі.

Цяпер ідзеш сцяжынкай палявой,
Пад жаўрукамі ніва каласіцца.
З-пад вышыні, абпаленай вайной,
Струменіць, б'е блакітная крыніца.

### *Дабрыня*

Не, яна самохаць не даецца.
Пэўна, трэба нарадзіцца з ёй.
Непадкупна, як у грудзях, сэрца,
Не прыкрыеш ранняй сівізной.

### *Уцечка сумлення*

Знявечана пушча —
Прыроды стварэнне.
Цябе не кранае?
Уцечка сумлення.

Бульдозер падрэзаў
У яблынь карэнне.
Табе не балюча?
Уцечка сумлення.

Забруджаны рэкі,
Змяніла цячэнне.
А дзе ж гаспадар?
Уцечка сумлення.

Жыты і пшаніцы
Прагнуць збавення
Ад хімікаў.
Уцечка сумлення.

Хай сонца усміхаецца
Травам і рэчкам.
На воблік бяздушша
Накінем вуздэчку.

### *Пасля прагляду кінафільма «Халоднае лета 1953 года»*

Заходзіць сонца. Даль цямнее —
Плыве паромам лёгкім ноч.
Ля клуба — дыспут, асамблея,
Хоць фільм закончаны даўно.

Дзядзькі смакуюць цыгарэты,
У кожнага душа баліць
Ад страшнай думкі, што планету
Злы атам можа спапяліць.

Гавораць аб жыцці, знаёмых,
Аб чысціні крыніц, ракі,
Успамінаюць трыццаць сёмы,
І Калыму, і Салаўкі.

Пад рунню, над лугамі зоркі.
І выплыў месяц на папас.
Падводзіць вынікі гаворкі
Калгасны дыпламат — Панас:

— Мы ваявалі. Будавалі.
Былі застылыя гады.
А ў нашых душах, болем Сталін
Страшней Чарнобыльскай бяды.

**Віктар ХАЎРАТОВІЧ**

●

Яшчэ ручай, яшчэ крыніца
Яе ратуюць між кустоў.
— І недзе нават утапіцца, —
Жартуе хтосьці з мужыкоў.

А плынь цішэй, ніжэй карэння,
Вадой агаленых карчоў.
І ўжо выразней узрушэнне
У каламуці печкуроў.

На правым беразе, высокім,
Травой зарослым да вады,
Стаю ў трывозе, адзінока,
Як за два крокі ад бяды.

●

Усё адступіцца паволі —
І зло, і смутак, як туман.
Душа, стамлёная да болю,
Забудзе горыч і спадман.

І перажытае ўсё ў скрусе
Уступіць сонечнаму дню.
Тваёй усмешцы я ўсміхнуся
І зноўку радасць даганю.

●

Адлівае вясновым суквеццем
Сырадой, што наліты ў гарлач.
Мне даўно не ўсё роўна на свеце —
Смех дзіцячы ці ўдовіны плач.

Усё прымаю — і цішу, і вецер,
Прапускаю праз сэрца сваё...
Мне даўно не ўсё роўна на свеце —
Твая радасць ці гора тваё.

Што ў вакно маё заўтра пасвеціць —
Сонца, усмешка ці белы туман?..
Мне даўно не ўсё роўна на свеце —
Чалавечы давер ці спадман.

*З пошты аддзела музыкі*

# А дзе ж узяць такую песню?

30 кастрычніка ў прасторным клубе г. Смаргоні — канцэрт артыстаў Белдзяржфілармоніі з удзелам Я. Еўдакімава. Яго мы ўпершыню ўбачылі (як артысты кінулі слова са сцэны — «жыўём») на гэтым канцэрце. Вобраз Еўдакімава як узыходзячага артыста для шырокага кола тэлегледачоў удала стварылі тэлеаператары Беларускага тэлебачання. З імем гэтага чалавека, артыста, думалася, цудоўная песня нашай старонкі будзе і далей крочыць праз граніцы нашай рэспублікі і дзяржавы.

Адно на экране, а па-за экранам?..

Нудна цягнецца час. Ізмаіл Капланаў даволі доўга паказваў японскія скрыначкі, з якіх ён будзе выціскаць мелодыю. Прадставілі артыстку, якая сваім рэпертуарам (мог бы быць і лепшы) лупіла па перапонках вушэй слухачоў і дэманстравала свае калені. Але гэта рабілася, магчыма, каб параўнаць з **тым**, які яшчэ будзе выступаць.

Канферансье велічна прадставіла: «Народны артыст Беларускай ССР Яраслаў Еўдакімаў!» Плыве адна песня, другая, трэцяя... Зачытвае Яраслаў першую запіску гледачоў: «Прыязджайце часцей да нас, мы вас любім...», а свайму напарніку Ізмаілу неяк з'едліва сказаў: «Чакайце, заўтра прыедзем!», а мікрафон тым часам гэту фразу выкідвае ў залу. Далей гучаць рускія песні, чамусьці не называюцца кампазітары, паэты. Другая і апошняя запіска гледачоў: чаму ён не выконвае беларускіх песень, іх жа і прыйшлі паслухаць, і мы ў тым ліку. Гучыць адказ Еўдакімава: «Сёння ў Беларусі няма кампазітара, каб я мог узяць яго песню ў свой рэпертуар. Я даражу сваёй рэпутацыяй як спявак. Мне сорамна іх выконваць. І вы не прыйдзеце на мой канцэрт, калі я буду іх спяваць. А тыя беларускія песні, што я раней выконваў, — гэта пройдзены этап, гэта незваротнае мінулае». (Мы не ўпэўненыя ў дакладнасці гэтай цытаты: хіба што аўтары ліста стэнаграфавалі словы артыста або запісвалі на магнітафон? — **Рэд.**).

Можа, не трэба было гэтак —больш як перад паўтысячнай аўдыторыяй?..

Шмат разоў прагучала фраза: «Выступае народны артыст Беларускай ССР». І хочацца спытаць, што ён дае сёння свайму народу, які яму стварыў умовы для росту і выпесціў яго... Ці можна так ганіць беларускіх кампазітараў, што нібыта ніводзін з іх не можа напісаць такую песню, каб падышла для рэпертуару народнага артыста?

**Б. ХІНЕВІЧ, Л. АЛЯШЭВІЧ і іншыя настаўнікі СШ № 4—усяго шэсць подпісаў.**

г. Смаргонь.

**АД РЭДАКЦЫІ. Хаця мы падалі гэты ліст у скарочаным выглядзе, няцяжка зразумець, чым абурыліся настаўнікі са Смаргоні. Здавалася б, каментарыі не патрэбныя, але... Але дасюль такіх водгукаў на канцэрты Я. Еўдакімава, тым больш ад ягоных прыхільнікаў, чытаць не даводзілася. І на Беларускае радыё, дзе ён працуе, і ў «ЛіМ» прыходзяць пісьмы-падзякі, пісьмы - споведзі ад самых розных людзей, нават з-за межаў Беларусі, для якіх песні ў выкананні Я. Еўдакімава, пачутыя ці ў канцэртнай зале, ці ў эфіры, зрабіліся часцінкаю жыцця. Таму перад тым, як публікаваць нарыканні смаргонскіх настаўнікаў, мы пазванілі Я. Еўдакімаву.**

**Ён расказаў, што на канцэрце 30 кастрычніка адчуваўся добры настрой залы, цёплы прыём. Музычны кіраўнік І. Капланаў з самымі шчырымі, асветніцкімі намерамі паказваў слухачам унікальны японскі сінтэзатар, які замяняе цэлы інструментальны ансамбль і «жыўцом» суправаджае канцэрт. Гэта было асабліва актуальна пасля выхаду «Праэктара перабудовы», у якім крытыкаваліся выпадкі неапраўданага скарыстання артыстамі фанаграм. Звычайна, заўважыў Я. Еўдакімаў, наведвальнікі канцэртаў з цікавасцю ўспрымаюць расказ пра сінтэзатар.**

**Што датычыць рэпертуару, дык у Я. Еўдакімава ён стабільны: тое, што гучыць у эфіры, выконваецца ім і са сцэны, і 30-га ён спяваў, як заўсёды, пераважна песні беларускіх кампазітараў І. Лучанка, Э. Зарыцкага... Чаму тэксты большасці *з іх рускамоўныя* — пытанне, вядома, не да спевака. З мноства песень, якія пішуць сёння беларускія кампазітары (і беларускамоўных, і рускамоўных), яму вельмі рэдка ўдаецца знайсці «сваю». І гэта не віна спевака, а ягоная праблема. Тое, што «кладзецца» на творчую індывідуальнасць аднаго выканаўцы, зусім неабавязкова супадзе з унутранай тэмай, з мастацкім густам, з асаблівасцямі тэмпераменту, нарэшце, з узростам, з вакальнымі магчымасцямі іншага. Шмат у чым вызначае аблічча песні аранжыроўка, ды ў гэтай справе нашы кампазітары, так бы мовіць, не надта спрактыкаваныя.**

**Так што строгая патрабавальнасць — абавязак, а не прыхамаць народнага артыста. А вось творчая непераборлівасць была б яму і сапраўды не да твару.**

**(Між іншым, яго здзівілі радкі пісьма пра тое, што фраза «выступае народны артыст Беларускай ССР» прагучала шмат разоў: «У канцэртах мяне аб'яўляюць проста: «Яраслаў Еўдакімаў»).**

**Наконт таго, «што ён дае сёння свайму народу», мусім заўважыць, нагадаць: у Маскве, у Кабуле, Рэйк'явіку, у Берліне і г. д. яму апладзіравалі як пасланцу Беларусі, які пяе І. Лучанка, Л. Захлеўнага, Э. Зарыцкага, а яшчэ песні ўкраінскія, рускія. Ва ўсесаюзных тэлеперадачах і радыёпраграмах ён прадстаўляе Беларусь. Па ўсёй краіне разышлася пласцінка народнага артыста БССР. Ён папулярны сярод слухачоў самой Беларусі...**

**У сувязі з выступленнем у Смаргоні Я. Еўдакімаў успомніў расказ музычнага кіраўніка пра візіт за кулісы настаўнікаў сярэдняй школы. *Яны хацелі пагаварыць з* Я. Еўдакімавым, але той адпачываў пасля выступлення. Тады яны перадалі сваю просьбу музычнаму кіраўніку: ці не можа спявак прыехаць у Смаргонь на адкрыццё пятай школы. Пачуўшы ў адказ, што артыст у тыя дні будзе заняты, у яго запланаваныя выступленні, настаўнікі пакрыўдзіліся... *Калі б ім не спадабаўся* канцэрт, ці запрашалі б да сябе на сустрэчу?**

**Цікава, што са Смаргоні прыйшоў і зусім іншы ліст, які Я. Еўдакімаў прапанаваў нам пачытаць. З дазволу артыста мы гэты ліст друкуем:**

«Паважаны Яраслаў Аляксандравіч! Піша Вам бібліятэкар з гор. Смаргоні. Амаль месяц мінуў пасля Вашых канцэртаў у нашым горадзе, але мы ўсё яшчэ пад уражаннем. Чытачы нашай бібліятэкі памятаюць і ранейшую сустрэчу з Вамі, наладжаную таварыствам кнігалюбаў. Мы шчаслівыя, што маем магчымасць дакрануцца да вялікага таленту, да майстра—выканаўцы любімых у народзе песень. Вялікі Вам за гэта дзякуй! Запомнілася нам і маладая выканаўца рамансаў Арлоўская, і акампаніятар-віртуоз Капланаў, і асабліва вядучая канцэрта Андрыянава. Зычым Вам і Вашаму калектыву далейшых творчых поспехаў. Спадзяёмся на сустрэчу з Вамі ў новым годзе. З нецярплівасцю чакаем Вашых канцэртаў у нашым горадзе.

**По даручэнні чытачоў бібліятэкі ГУДЗІНА О. Д.».**

Васіль ХОМЧАНКА

# АРМВАЕНЮРЫСТ

У ТРЫЦЦАТЫЯ - саракавыя гады яны былі шырока вядомыя як верныя і адданыя саратнікі «бацькі ўсіх народаў» — Сталіна. Першыя змагары з «ворагамі народа» — Ягода, Яжоў, Берыя, Вышынскі і Ульрых. Трое з іх расстраляны, двое апошніх памерлі сваёй смерцю і пахаваны з ганаровымі ўшанаваннямі. Вышынскага пахавалі нават у Крамлёўскай сцяне. З памянёных пяцярых катаў я ведаў аднаго асабіста— Ульрыха. Пра яго і хачу расказаць.

Сваю альма-матэр кожны ўспамінае са шчымлівым пачуццём. Гады вучобы—гэта час маладосці, час надзей, сяброўства, час адкрыццяў, навуковага пазнання. Час, які фарміруе характар і светапогляд. Вядома, не ўсё і не заўсёды бывае добрае ў той альма-матэр, хапае і горычы, няўдач. Але ж наша памяць надзелена адметнай якасцю: забываць горкае і зберагаць добрае.

Маёй альма-матэр была Ваенна - юрыдычная акадэмія ў Маскве. Размяшчалася яна на Смаленскім бульвары, 19. Там я вучыўся з сорак сёмага па пяцьдзесят першы год. Гады нялёгкія, і не толькі па прычыне пасляваенных нястач. Зноў пачыналі набіраць разгон сталінскія рэпрэсіі, зноў людзей пачаў ахопліваць страх перад дэспатызмам, боязь не тое сказаць, не так зрабіць. Ажывіліся даносчыкі, ішла на ўздым хваля арыштаў. Сотні тысяч няшчасных людзей, што адпакутавалі ў лагерах па дзесяць і больш гадоў, згодна сталінска-берыеўскаму загаду зноў былі вернуты ў турмы і этапамі загнаны ў ссылку з прысудам: навечна.

Злавесна прагрымела так званая ленінградская справа, па якой былі расстраляны вядомыя партыйныя і савецкія дзеячы на чале з такімі сумленнымі камуністамі, як М. А. Вазнясенскі, А. А. Кузняцоў, П. С. Папкоў, М. І. Радзіёнаў, Я. Ф. Капусцін і іншыя.

Пачаўся тэрор і ў ідэалогіі, культуры, навуцы. Грамілі генетыкаў, мовазнаўцаў, пісьменнікаў — такіх, як Ганна Ахматава, Міхаіл Зошчанка, дзеячаў музычнай культуры. Верны паслугач Сталіна Жданаў назваў іх дзейнасць варожай і чужой народу.

Адной з самых ганебных праяў таго часу стала барацьба з «бязродным касмапалітызмам». Каго толькі не залічалі ў касмапаліты! Усё рускае пачало раптам узнімацца да завоблачна шавіністычных вышыняў. Усё, што не рускае, — лічылася варожым , небяспечным.

Не страціла сілы і пастанова ЦВК СССР ад 1 снежня 1934 года, уласнаручна напісаная Сталіным у дзень забойства С. М. Кірава. Згодна з гэтай пастановай устанаўліваўся нязнаны дагэтуль цывілізаванаму грамадству «рэгламент»: тэрмін следства—да дзесяці сутак, уручэнне абвінаваўчага заключэння — за суткі да суда, суд без удзелу пракурора і адваката, адмена касацыі і нават просьбы аб памілаванні, прыгавор да расстрэлу прыводзіцца ў выкананне ў той жа дзень.

За дзесяць дзён, адведзеных на следства, следчыя-інквізітары стараліся зламаць любога, і ламалі. Чаму не старацца, калі «вялікі правадыр» сам публічна выказаўся за прымяненне фізічных уздзеянняў да падследных.

Дарэчы, нават такі спрошчаны парадак расправы здаўся катам марудным, не эфектыўным. Па прапанове Кагановіча быў уведзены пазасудовы разгляд спраў з прымяненнем расстрэлу, а Молатаў, улічваючы вялікую колькасць «ворагаў народа», увогуле прапанаваў «судзіць» і расстрэльваць па спісках. Такая практыка, прынятая ў трыццатых гадах, жыла і ў канцы саракавых, і ў пачатку пяцідзесятых.

Такі вось быў час, калі я вучыўся ў сваёй акадэміі.

СЛУХАЧАМІ акадэміі былі афіцэры — пераважна франтавікі, людзі маладыя, смелыя, з рамантычнымі марамі аб сваім прызванні і перакананнямі. Яны думалі, што, заняўшы ў будучым пасады следчых, пракурораў, суддзяў, будуць сумленна служыць правасуддзю. Мы, канечне, чулі, што робіцца ў сталінскіх засценках і лагерах, але рашуча адгароджвалі юрыспрудэнцыю ад таго страшэннага беззаконня, што ўчынялі эмгэбісты.

Нашым самым любімым прафесарам быў Міхаіл Саламонавіч Страговіч, які чытаў курс крымінальнага працэсу і логікі. Па яго падручніках мы вывучалі гэтыя навукі. У яго кансультаваліся многія суддзі, следчыя (за выключэннем, вядома, следчых эмгэбістаў) — па розных юрыдычных казусах. Гэтыя казусы ён потым ставіў на вырашэнне і перад намі, слухачамі, на лекцыях і семінарах. Мы вельмі паважалі свайго прафесара і лічылі за гонар здаваць экзамены яму, хоць М. С. Страговіч і не быў паблажлівы. Я здаваў яму логіку і атрымаў, заблытаўшыся на лагічным квадраце, тройку, аднак зусім не пакрыўдзіўся за такую адзнаку. У Міхаіла Саламонавіча было шмат прыхільнікаў сярод вучоных, асабліва сярод маладых.

Але ў прафесара Страговіча былі і непрыяцелі, і даволі сур'ёзныя. Яго падручнік «Крымінальны працэс» і іншыя навуковыя працы падвяргаліся крытыцы за тое, што аўтар нібы падыходзіць да прынцыпаў правасуддзя з някласавых пазіцый, хваліць дэмакратызм працэсуальных законаў буржуазных краін і, такім чынам, праяўляе нізкапаклонства перад буржуазным правам. Галоўным яго апанентам быў акадэмік А. Я. Вышынскі, многія пазіцыі якога Страговіч не прызнаваў.

Прафесар Страговіч вучыў нас строгаму выкананню норм закона. Дробязей, гаварыў ён, у судатворчасці не бывае, любая дробязь можа з'явіцца прычынай неправасуднага прыгавора. «У сапраўдным законе, — вучыў ён нас, асабліва падкрэсліваючы слова **сапраўдным**, — не можа быць значнага і нязначнага пункту. Закон ёсць закон і суддзя ёсць суддзя, якому часам трэба станавіцца вышэй закону». Мы разумелі, якія законы ён меў на ўвазе і што азначала ў той час стаць вышэй закону. Гэта азначала, што дзеля справядлівасці трэба часам абысці ці парушыць афіцыйна існуючую несправядлівасць.

Дарэчы, у той час забойцаў, зладзеяў, бандытаў, хуліганаў судзілі пры строгім захаванні працэсуальных норм, з удзелам бакоў, з выклікам сведак. Скаргі гэтых асуджаных на прыгаворы разглядаліся вышэйшымі судовымі інстанцыямі.

У адносінах жа да «ворагаў народа» існавала зусім іншае «правасуддзе». Іх можна было і не судзіць, заганяючы без суда ў лагеры, а то і расстрэльваць. Як іх судзілі, гаворыць такі прыклад.

Нарком НКУС Яжоў піша Сталіну:

«Пасылаю на зацвярджэнне спісы асоб, якія падлягаюць суду ваеннай калегіі.

1. Спіс № 1 (агульны).
2. Спіс № 2 (былыя работнікі НКУС).
3. Спіс № 3 (былыя ваеннаслужачыя).
4. Спіс № 4 (жонкі ворагаў народа).

Прашу санкцыі асудзіць усіх па першай катэгорыі. Яжоў».

Спіс зацвердзіў Сталін і разам з ім паставілі свае подпісы Варашылаў, Кагановіч, Малянкоў.

Першая катэгорыя — расстрэл. Значыць, усіх, хто быў у тых спісах, расстралялі. Фактычна без следства і суда.

Падобных спісаў у 1937—38 гадах Сталін падпісаў 393 на дзесяткі тысяч невінаватых.

Паступалі да Сталіна на зацвярджэнне і так званыя «альбомныя» справы, дзе на кожнай старонцы пасля анкетных дадзеных «ворагаў народа» ў некалькі радкоў была апісана «сутнасць справы» — шпіянаж, дыверсія, здрада Радзіме, тэрор... Унізе тры подпісы: Вышынскі, Ульрых, Яжоў. Сталіну толькі заставалася паставіць у левым ражку старонкі лічбу I—расстрэл, ці II—дзесяць гадоў. Ён ставіў толькі I.

Далей гэтыя справы паступалі да армваенюрыста Ульрыха, які быў тады старшынёй ваеннай калегіі Вярхоўнага суда СССР.

ГЭТАК ажыццяўлялі так званае «правасуддзе» практыкі. А хто ж гэтыя расправы абгрунтоўваў тэарэтычна? Тагачасны пракурор СССР акадэмік права А. Я. Вышынскі, галоўны «апанент» нашага прафесара М. С. Страговіча. Праведзеныя Вышынскім фальсіфікаваныя судовыя працэсы паказалі свету прыклад дзікага беззаконня. Яго «працы», такія, як «Тэорыя судовых доказаў у савецкім праве», павінны былі быць абавязковымі настольнымі кнігамі для ўсіх прававедаў. Вышынскі лічыў пастанову ЦВК ад 1 снежня 1934 года неабходнай для «эфектыўнай барацьбы з ворагамі народа». У законах усяго свету прызнанне сваёй віны яшчэ не можа лічыцца доказам, калі яно аб'ектыўна не пацверджана іншымі матэрыяламі справы. Вышынскі згаджаўся з гэтым прынцыпам, але рабіў адну агаворку, папраўку: за выключэннем прызнання віны за контррэвалюцыйную дзейнасць. Вось так. Каты-энкэвэдзісты выбівалі ў чалавека прызнанне, прымушалі падпісаць пратакол, пасля чаго аддавалі няшчасных на расправу ў так званы суд або «тройкам». Гэты «судовы» парадак пераўзыходзіў па жорсткасці нават суд інквізіцыі, дзе, каб засудзіць чалавека, патрабавалася не менш двух сведак.

Была яшчэ «тэорыя» Вышынскага аб злачыннай групе. Згодна з яго тэарэтычнымі сцвярджэннямі, кожны член групы павінен адказваць не толькі за тыя дзеянні, якія ён сам учыніў асабіста, а ўвогуле за дзеянні любога члена групы, нават калі той іх ажыццявіў без ведама ўсёй групы і ўвогуле насуперак іншым членам. Такая «тэорыя» дала права энкэвэдзістам аб'ядноўваць у «тэрарыстычныя» групы нават незнаёмых паміж сабою людзей.

Амаль усім арыштаваным «контррэвалюцыйным» групам прад'яўляліся абвінавачванні ў тэрарыстычных дзеяннях. Трэба было стварыць уражанне, што ў краіне існуе разгалінаваная тэрарыстычная арганізацыя, да якой належаць усе, хто трапіў у рукі энкэвэдзістаў.

Як вядома, пры арышце галавы сям'і арыштоўвалі і іх жонак, бацькоў, дарослых дзяцей. У спісах, што пасылалі Сталіну, былі і члены сем'яў арыштаваных. Для іх і назва была прыдумана — члены сям'і здраднікаў радзімы (ЧСЗР). Іх напаткаў трагічны лёс — расстрэлы, шматгадовыя катаргі ў сталінскіх лагерах.

А. Вышынскі, апраўдваючы такія бесчалавечныя дзеянні, даказваў, што, маўляў, дарослы член сям'і ворага не мог не ведаць аб варожай дзейнасці бацькі, маці, і таму павінен быць пакараны, як памагаты.

У сувязі з гэтым не магу не расказаць аб адной навуковай нарадзе юрыстаў, на якой я прысутнічаў і дзе ішла дыскусія аб саўдзельніках злачынства, памагатых і ўкрывальніках злачынцаў. На гэтай нарадзе выступіў прафесар М. С. Страговіч. Ён смела даказваў (і гэта ў той час!), што члены сям'і злачынцы за ўкрывальніцтва і недаянясенне на свайго блізкага ўвогуле не павінны несці крымінальнай адказнасці, і што трэба замацаваць гэта ў законе. Такі закон, тлумачыў ён, дзейнічаў у Расіі з 1864 па 1917-ы і, на жаль, скасаваны нашымі заканадаўчымі органамі.

І вось, калі М. С. Страговіч скончыў, выступіў генерал-палкоўнік юстыцыі Ульрых.

«Ого, — ускліснуў ён, — чаго прафесар захацеў—не чапаць «чэсэзэіраў»! Не, хай усе бяруць прыклад з Паўліка Марозава. Той не пабаяўся данесці органам пра варожыя дзеянні свайго бацькі...»

Што ж, такое выступленне Ульрыха не магло нікога здзівіць, ведалі, колькі ён асабіста адправіў людзей на смерць.

А цяпер больш падрабязна пра Ульрыха — таксама аднаго з выкладчыкаў нашай акадэміі.

ХТО Ж ЁН ТАКІ, чыё прозвішча стаіць пад тысячамі і тысячамі смяротных прыгавораў? Каля дваццаці гадоў узначальваў Ульрых — армваенюрыст, а потым генерал-палкоўнік юстыцыі — ваенную калегію Вярхоўнага суда СССР. У гады самага высокага прыліву сталінскага тэрору ён разглядаў у дзень па некалькі дзесяткаў спраў. На кожную справу адводзіў не больш 15—20 мінут. На практыцы гэта выглядала наступным чынам. Заводзяць падсуднага, Ульрых, пацікавіўшыся прозвішчам, пытаецца: ці прызнае той сябе вінаватым. Падсудны, у якога катаваннямі выбілі прызнанне і які ўскладаў усю надзею на суд, на савецкі суд, гаворыць, што не прызнае сябе вінаватым і адмаўляецца ад паказанняў, дадзеных на следстве. Ульрых: «Але ж вы на следстве прызнаваліся». — «Там мяне катавалі, білі, не давалі па трое сутак спаць», — гаворыць падсудны. Ульрых: «Ну вось, вы яшчэ і паклёпнічаеце на нашы органы бяспекі». Падсуднага выводзяць, папярэдне абвясціўшы прысуд, часцей за ўсё смяротны.

У 1967—68 гадах я двойчы камандзіраваўся ў Ваенную калегію і бачыў многія справы, разгледжаныя Ульрыхам. У тым ліку і судовую справу наркома юстыцыі СССР Крыленкі. Суд над ім працягваўся ўсяго дваццаць хвілін, а пратакол судовага пасяджэння змясціўся ў дзевятнаццаці радках. Прыгавор — расстрэл. За некалькі хвілін быў асуджаны і акадэмік-генетык М. І. Вавілаў. Прыгаворы, каб заняць больш месца, пісаліся размашыста, буйнымі літарамі, але ўсё роўна ўмяшчаліся на адной старонцы. Вось рэзалюцыйная частка прыгавора:

«Ваенная калегія прыгаварыла (прозвішча) да вышэйшай меры пакарання — расстрэлу з канфіскацыяй усёй маёмасці. Прыгавор канчатковы і на аснове Пастановы ЦВК СССР ад 1 снежня 1934 года падлягае неадкладнаму выкананню».

Калі гаварыць пра ўстановачную частку прыгавора, дык яна выглядала менавіта так: «Падсудны праводзіў шпіёнска - дыверсійную дзейнасць, рыхтаваў тэрарыстычныя акты супраць кіраўнікоў партыі і ўрада, з'яўляўся агентам буржуазнай краіны».

Багата, вельмі багата напісаў тых прыгавораў Ульрых. А яшчэ трэба дадаць, што ён уваходзіў у склад троек, якія ўжо цэлымі спісамі адпраўлялі людзей на расстрэл і ў лагеры. Пад кожным такім спісам таксама красуецца подпіс Ульрыха.

Ён старшыняваў на ўсіх адкрытых працэсах: Зіноўева і Каменева, Бухарына, Рыкава і іншых. Ён першым паставіў свой подпіс пад прыгаворам военачальнікам Тухачэўскаму, Якіру, Убарэвічу, членам палітбюро Касіёру, Постышаву, Эйхе, генеральнаму сакратару ЦК камсамола Косараву, дзеячам Кастрычніцкай рэвалюцыі Дыбенку і Антонаву - Аўсеенку. Асудзіў ён на расстрэл і свайго былога начальніка, старшыню ваеннай калегіі ў дваццатых гадах В. Трыфанава, бацьку вядомага пісьменніка Юрыя Трыфанава. Асудзіўшы ў складзе спецыяльнай судовай прысутнасці Тухачэўскага і іншых вайскоўцаў, праз нядоўгі час Ульрых асудзіў да расстрэлу і чатырох членаў гэтай прысутнасці маршалаў Ягорава, Блюхера, камандармаў Бялова, Алксніса...

Ульрых адпраўляў на расстрэл не толькі вядомых у краіне дзеячаў, а і блізкіх сваіх саслужыўцаў, суседзяў, з якімі некалькі дзён назад разам абедаў, піў, спяваў.

Па яго прыгаворах было расстраляна шмат вядомых дзеячаў культуры і літаратуры, такіх, як Міхаіл Кальцоў, Ісак Бабель, Арцём Вясёлы, Павел Васільеў, Усевалад Мейерхольд і іншыя.

Што думаў ён, калі іх судзіў, ці было яму цяжка? Ведаў жа, добра ведаў, што судзіць невінаватых. Асабіста я ўпэўнены, што было яму і не цяжка, і не сорамна, і спалася добра, і не шкамутаў страх яго душу. Жыў ён спакойна, вольны час весела праводзіў у тэатры або на канцэрце, слухаў там музыку, заўзята апладзіраваў. А ў гэты час у засценках Ляфортаўскай і Бутырскай турмаў выконвалі яго смяротныя прыгаворы. Кажуць, Ульрых не прапускаў ніводнай тэатральнай прэм'еры. Сачыў і за навінкамі літаратуры, што не перашкаджала яму пасылаць на расстрэл пісьменнікаў, чые кнігі ён чытаў, аддаваў катам артыстаў, якім пляскаў у ладкі.

Верным халуём і катам у Сталіна служыў ён ажно да канца саракавых гадоў. Яго, як некаторых іншых паслугачоў, не арыштавалі, не расстралялі, нават не звольнілі з арміі на пенсію, паслалі ў нашу акадэмію начальнікам курсаў. Пасада для генерал-палкоўніка юстыцыі даволі нізкая, але ён згадзіўся на яе і акуратна кожны дзень з'яўляўся на службу. Вось тады я і пазнаёміўся з ім.

РОСТУ ён быў невысокага, з кароткімі пышнымі вусікамі, вялікай лысінай, з глыбока пасаджанымі вачамі. Твар—чырвоны, нібы чалавек з парылкі выйшаў. У сваім кабінеце Ульрых сядзеў мала. У час перапынкаў выходзіў у калідор, дзе вакол яго адразу ж збіраліся курсанты. Толькі і было чуваць:

«Васіль Васільевіч, а гэтага вы таксама судзілі?»

«А каго з пісьменнікаў судзілі?»

«А як на судзе паводзіў сябе Крыленка?»

Ён адказваў спакойна, роўным голасам пералічваючы прозвішчы сваіх ахвяр.

З тых размоў мы даведаліся, што Ульрых па паходжанні латыш, нарадзіўся ў Рызе ў сям'і інтэлігентаў. Маці — пісьменніца, музыкант, добра малявала. Вучыла і сына музыцы і паэзіі. Сын у маладосці і сам пісаў вершы, іграў на піяніна, але не стаў ні музыкантам, ні паэтам, а стаў Ульрыхам-катам.

Апошнія дзесяткі гадоў ён не меў кватэры, жыў у гасцініцы «Метраполь», займаючы двухпакаёвы нумар. І кватэру не прасіў, не нажываў маёмасці, абыходзіўся гасцінічнай мэбляй, сталовымі прыборамі і посудам. Чаму яму падабалася жыць у гасцініцы? Відаць, таму, што адчуваў сябе на гэтай зямлі і на сваёй пасадзе часовым чалавекам, гатовым скончыць свой шлях у любы час. Дзяцей у яго, кажуць, не было, шчырых сяброў і блізкіх родзічаў—таксама. Не заводзіў ён цеснай дружбы ні з кім. Нікому не давяраў. У гэтым сэнсе ён, Ульрых, быў падобны на Сталіна, хоць па характары і знешніх паводзінах палярна ад яго адрозніваўся. Не ў прыклад свайму патрону, Ульрых здаваўся жыццярадасным, вясёлым, даступным, любіў слухаць і расказваць анекдоты. Нават на судовых пасяджэннях не крычаў, не злаваўся, часам жартаваў. Свае вусікі ён старанна дагледаў, увесь час пагладжваў іх. Адзін знаёмы афіцэр, які некалі прысутнічаў на працэсе над Бухарыным, расказваў, што Ульрых за судзейскім сталом раз-пораз даставаў расчоску з кішэні гімнасцёркі і пачэсваў свае вусікі.

Пазайздросціш такому спакою і вытрымцы!

Ягоная даступнасць — кожнаму слухачу акадэміі, які заходзіў да яго ў кабінет з нейкай просьбай, ён падаваў руку першы — выклікала да яго давер і нават сімпатыю: генерал-палкоўнік, а такі просты. І не верылася, што гэты прасцяк-добразычлівец мог адправіць чалавека на смерць, ведаючы, што той невінаваты.

Аднойчы пасля заняткаў я дагнаў Ульрыха на двары акадэміі і напрасіўся паднесці яго нечым туга напакаваны партфель. Ульрых мне яго з ахвотай даў. Ён спытаў, з якіх я іду лекцый і, пачуўшы, што з лекцыі прафесара М. С. Страговіча, вымавіў: «А, гэты працэсуаліст... Дзьме ён у вашы вушы тэорыі правільныя. Толькі як гэтыя тэорыі будуць сыходзіцца з практыкай?»

Нёс я тады партфель Ульрыха да станцыі «Смаленская». Па дарозе я ўсё ж сёетое выпытаў у яго пра суд над Тухачэўскім і іншымі. Спытаў, як здарылася, што маршалы Блюхер, Ягораў, камандармы Бялоў і Алксніс, якія ўваходзілі ў склад Спецыяльнай судовай прысутнасці і падпісалі прыгавор Тухачэўскаму і іншым, былі потым самі асуджаны да расстрэлу. Ці верылі гэтыя члены прысутнасці ў віну падсудных? І я пачуў адказ, думаю, шчыры, якога я не чакаў пачуць.

«А якая розніца, верылі яны ў віну Тухачэўскага, Якіра і іншых? Ім быў загад асудзіць. Усе члены судовай прысутнасці, у тым ліку і Будзённы, справу Тухачэўскага нават і не гарталі». — «А вы самі чыталі гэту справу?» — «Чытаў, ну і што? За нас было ўсё вырашана да суда. Сталін, Варашылаў далі загад асудзіць іх па першай катэгорыі».

Што ж, як і ўсе суды таго часу, і гэты суд над васьмю палкаводцамі быў спектаклем, крывавым спектаклем, які, праўда, працягваўся не дваццаць хвілін, а больш за паўдня, з загадзя вядомай развязкай. Ульрых якраз і падыходзіў да ролі вядучага такіх спектакляў. Ён быў вельмі старанным выканаўцам.

Ён быў надзейнай часткай таго карнага механізму, які запусціў галоўны машыніст тэрору — Сталін. Не псуючы сабе настрою, нерваў, Ульрых падпісваў і падпісваў прыгаворы, спісы, «альбомныя» справы, плюшчыў жыцці і лёсы тысяч і тысяч людзей. Я не думаю, што ён у той час быў спакойны за свой лёс — тады кожны не адчуваў сябе спакойна і, можа, чакаў стуку ў дзверы, як чакалі яго мільёны. Але ноччу да яго так і не пастукалі. Яму ўдалося ўцалець і перайсці на ціхую пасаду. Значыць, Сталін не западозрыў яго ў нявернасці, цаніў яго. Сталіну, а часцей адначасова і Молатаву, Ульрых рэгулярна разам з Вышынскім дакладваў аб працэсах і штомесячна прадстаўляў «зводку» аб колькасці людзей, прыгавораных за «шпіянаж», «тэрарыстычную дзейнасць». Сталін чытаў «зводкі», распісваўся на іх чырвоным алоўкам, і яму здавалася, што ўсё яшчэ мала судзяць, мала расстрэльваюць. Сухарукі параноік патрабаваў усё больш ахвяр.

Што яшчэ дадаць пра Ульрыха?

Не магу не прыгадаць такі выпадак. Са мной у групе займаўся старшы лейтэнант Анатоль К., мой сябар. Нейкі час мы разам кватаравалі ў адной маскоўскай бабулі. Аднойчы, калі я зайшоў на кватэру да Анатоля, то ўбачыў свайго сябра такім, якім ніколі не бачыў, — п'яным. Ён сядзеў за сталом перад напалову выпітай бутэлькай гарэлкі, падпёршы кулакамі галаву, расхрыстаны, ускудлачаны. «Што з табой?» — напалохаўся я. «Я ведаю цяпер, хто яго забіў», — адказаў ён і назваў прозвішча некалі добра вядомага ваенмора. «Яго судзіў Ульрых».— «І што табе да гэтага ваенмора?» — здзівіўся я. «Ён мой бацька».—«Дык у цябе ж іншае прозвішча?» — «Маці дала мне прозвішча другога свайго мужа». Да гэтага Анатоль і маці жылі верай, што муж і бацька іх жывы, знаходзіцца недзе ў лагеры, бо ім было пісьмо з НКУС, дзе ўказвалася, што ён асуджаны на дзесяць гадоў лагераў без права перапіскі. Яны і верылі гэтаму, чакалі б яшчэ столькі, калі б Анатоль не даведаўся ад самога Ульрыха пра сапраўдны лёс бацькі. У той дзень, нешта робячы ў кабінеце Ульрыха, Анатоль і спытаў у яго, ці не даводзілася яму судзіць ваенмораў. Ульрых адразу ж адказаў, што помніць, як была асуджана да расстрэлу цэлая група ваенных маракоў, і сярод іх назваў прозвішча Анатолевага бацькі.

«Слухай, — сказаў ён мне, як бы пытаючы парады, калі мы дапілі тую бутэльку, — я заб'ю гэтага ката. Зайду да яго ў «Метраполь» і прыдушу».

Вядома, гэта была пустая пагроза.

ЗА ЧАС сустрэч і размоў з Ульрыхам ніхто з нас ніколі не бачыў яго ў смутку, ніколі не чуў і ноткі шкадавання аб зробленым. Ну хоць бы калі яго ахапіў адчай, жаданне пакаяцца. Так і дажыў ён спакойнікам гаваруном, чырванашчокім дзядком да канца. Памёр у ложку, як пісалі раней, «почил в бозе».

Было паважнае пахаванне: з ганаровай вартай, прамовамі, вінтовачнымі залпамі над магілай. І помнік з добрага каменя стаіць на магіле. Толькі ці пакладзе хто да яго кветкі?

# КУДЫ ПАДЗЕЛІСЯ РУЧАІНЫ?

**Зайшоўшы надоечы ў кнігарню, звярнуў увагу на кнігу Ю. Андрэева «Советская литература», толькі што выпушчаную выдавецтвам «Просвещение». Запыніла позірк і назва кнігі, і прозвішча аўтара.**

**Таму, хто ўважліва сочыць за станам сучаснага савецкага літаратуразнаўства, імя Ю. Андрэева нямала гаворыць. Ён адзін з найбольш аўтарытэтных даследчыкаў сучаснага творчага працэсу, часта ў гаворцы сваёй выходзіць на абсягі шматнацыянальнай савецкай літаратуры. Гэтая яго кніга адрасуецца вучням дзесятага класа. Выдавецкая анатацыя досыць дакладна характарызуе змест выдання: «Літаратуразнаўца і пісьменнік, доктар філалагічных навук Ю. А. Андрэеў стварыў гэтую кнігу для старшакласнікаў, якія падрыхтаваны да сур'ёзнага засваення тэорыі і гісторыі савецкай літаратуры. Першая і чацвёртая (заключная) часткі кнігі — у асноўным тэарэтычныя, другая і трэцяя часткі — гісторыка-літаратурныя, у іх утрымліваецца аналіз паэтапнага развіцця нашай літаратуры ад пачатку XX стагоддзя да самых апошніх гадоў, з арыенціроўкай на творчасць віднейшых пісьменнікаў і асвятленнем найбольш важных працэсаў, што адбываліся на працягу дзесяцігоддзя».**

**Зрэшты, падумалася, кніга будзе патрэбна не толькі школьніку, бо ў ёй лаканічна, на нейкіх дваццаці выдавецкіх аркушах, падаецца, па сутнасці, уся гісторыя савецкай літаратуры. І няхай не будзе ў кнізе поўнай вычарпальнасці, затое прыдасца багаты фактычны матэрыял.**

**З такімі думкамі я і купіў кнігу Ю. Андрэева. У патрэбнасці яе не сумняваўся і тады, калі знаёміўся з першымі раздзеламі: «Паняцце аб спецыфіцы літаратуры», «Паняцце аб сацыялістычным рэалізме і аб партыйнасці літаратуры». Праўда, крыху насцярожыла, што аўтар не надта абапіраецца ў сваіх разважаннях на апошнія выказванні па гэтых пытаннях, хоць, заўважу, рукапіс падпісаны да друку 02.09.88. Насцярожанасці пабольшала, калі звярнуўся да другой часткі кнігі, у якую ўвайшлі раздзелы «Руская літаратура пачатку XX стагоддзя. Сусветнае значэнне творчасці М. Горкага», «Тры вялікія паэты рэвалюцыі. Аляксандр Блок, Уладзімір Маякоўскі. Сяргей Ясенін». Нічога не маю супраць слынных майстроў рускай савецкай літаратуры, але ж дапаможнік называецца — «Савецкая літаратура». Значыць, не толькі руская, а і ўкраінская, беларуская, узбекская, кіргізская... Калі ж Ю. Андрэеў пачне пра іх гаварыць?**

**Толькі ў раздзеле «Літаратура аб Вялікай Айчыннай вайне» на старонцы 191-ай ці не ўпершыню сустрэў, у шэрагу іншых, імёны А. Адамовіча і В. Быкава. Васілю Уладзіміравічу «пашанцавала» і на наступнай старонцы, дзе называюцца яго аповесці «Трэцяя ракета», «Сотнікаў», «Дажыць да світання», «Знак бяды»... На гэтай жа, 192-ой старонцы, згаданы і А. Адамовіч, як аўтар аповесцяў «Вайна пад стрэхамі», «Сыны ідуць у бой». І — хоць бы слова пра кнігу «Я з вогненнай вёскі...», унікальны дакументальны твор, напісаны ім разам з Я. Брылём і У. Калеснікам. Нічога не сказана і пра «Блакадную кнігу» таго ж А. Адамовіча і Д. Граніна.**

**Заставалася надзея на раздзел «Сучасная савецкая літаратура». Ды і яна аказалася марнай: у пераліку названа толькі аповесць В. Быкава «Кар'ер». Ды яшчэ ў раздзеле «Асаблівасці савецкай шматнацыянальнай літаратуры» (ужо з чацвёртай, заключнай часткі кнігі) зноў жа ў пераліку ўпамінаюцца В. Быкаў і П. Броўка.**

**Ніхто з беларускіх пісьменнікаў не фігуруе і ў раздзеле «Савецкая літаратура ў кантэксце сусветнай літаратуры». Нават той жа В. Быкаў, творы якога перакладаліся ледзь не ў ста краінах.**

**Я спыніўся толькі на фактах (правільней, на адсутнасці фактаў), якія тычацца беларускай літаратуры. Але ў аналагічным становішчы апынуліся і іншыя нацыянальныя літаратуры — украінская, узбекская, кіргізская...**

**Магчыма, я няправільна разумею паняцце «савецкая літаратура», пашыраючы яго межы да паняцця «савецкая шматнацыянальная літаратура»? Бяру на падмогу «Кароткую літаратурную энцыклапедыю», яе шосты том. Вось адпаведны артыкул: «Савецкая літаратура — мастацкая літаратура народаў Савецкага Саюза, якая ўзнікла пасля Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі» (стар. 996).**

**Як жа ў такім разе растлумачыць тое, што адбываецца на старонках дапаможніка «Савецкая літаратура»? Чаму тут глыбокая, паўнаводная рака шматнацыянальнай савецкай літаратуры губляе ручаіны, якія жывяць яе?**

**Алесь МАРЦІНОВІЧ.**

# МУЖНАСЦЬ РЭВАЛЮЦЫЯНЕРА

(Пачатак на стар. 4).

Дзеянні абласнога цэнтра ў нацыянальным пытанні абвяшчаліся адзіна правільнымі. А ўсё тое, што не адпавядала ім, лічылася буржуазным нацыяналізмам, антысавецтызмам і наогул контррэвалюцыяй.

Неспакойная народная памяць і праз дзесяцігоддзі зноў і зноў будзе звяртацца да пачатковых этапаў будаўніцтва сацыялізму і з вышыні назапашанага вопыту, спасцігаючы заканамернасці грамадскага развіцця, даваць сваю ацэнку падзеям і працэсам, якія адбыліся. Уважлівы, аб'ектыўны аналіз мінулага патрэбны, перш за ўсё, для таго, каб у ходзе рэвалюцыйнага абнаўлення абараніць грамадства ад спаўзання да «сілавога» аўтарытарнага кіравання грамадскімі і дзяржаўнымі справамі, стварыць дзейсны механізм самаачышчэння сацыялізму ад усяго чужога, што тармозіць яго прагрэс.

Першы крок у рэабілітацыі Д. Жылуновіча быў зроблены ў 1955 годзе. Рэспубліканская пракуратура вынесла пастанову аб спыненні крымінальнай справы Д. Жылуновіча «за недаказанасцю саставу злачынства». Рэабілітацыя з аглядкай. Не за адсутнасцю саставу злачынства, а за яго недаказнасцю...

Ішоў час. Набіраў сілу рух за аднаўленне добрага імя Д. Жылуновіча. Літаратары, гісторыкі, журналісты на падставе праўдзівых фактаў аднавілі многія старонкі яго жыцця і шматграннай дзейнасці, выдатнага чалавека, самародка, выхадца з народных нізоў.

Да 100-годдзя з дня нараджэння Цішкі Гартнага добрым словам пра яго адазваліся «Литературная газета», рэспубліканскія перыядычныя выданні. У «Нёмане» (1988, № 2) была апублікавана дакументальная аповесць Э. Ялугіна «Пасля нябыту», якая выклікала шырокую чытацкую цікавасць. Выдавецтва «Мастацкая літаратура» выпускае шматтомны збор твораў Цішкі Гартнага.

Нарэшце, праз 32 гады пасля свайго першага заключэння, Пракуратура БССР, на падставе ўсебаковай і старанная праверкі, прыняла новую юрыдычную формулу спынення крымінальнай справы Д. Жылуновіча — «За адсутнасцю ў яго дзеяннях саставу злачынства.. Існаванне ў Мінску контррэвалюцыйнай фашысцкай арганізацыі, удзельнікам якой быццам бы быў Д. Жылуновіч, не пацвердзілася».

І ўсё-такі 100-годдзе з дня нараджэння Д. Жылуновіча — Цішкі Гартнага ў 1988 годзе было адзначана сціпла, асцярожна і толькі як пісьменніка.

Справа ў тым, што да апошняга часу Д. Жылуновіч не быў рэабілітаваны ў партыйных адносінах. Не адзін раз грамадскасць ставіла пытанне аб разглядзе абгрунтаванасці выключэння яго з радоў КП(б)Б. З рэзкай крытыкай гэтай дзіўнай маруднасці выступіў Васіль Быкаў у артыкуле «Пытанні, якія чакаюць адказу» («Советская Белоруссия», 1988, 3 студзеня). І вось, нарэшце, у кастрычніку 1988 года камісія партыйнага кантролю пры ЦК КПБ паведаміла пра тое, што партыйная рэабілітацыя Д. Жылуновіча адбылася.

Нам усім трэба аддаць належнае памяці віднага грамадска-палітычнага дзеяча Беларусі, выдатнага вучонага, пісьменніка, першага старшыні першага беларускага савецкага ўрада — Дзмітрыя Фёдаравіча Жылуновіча.

## «ЛіМ» паведамляе

# ПЕРШЫ МУЗЫЧНЫ ПЕДСАВЕТ

У Гродне адбыўся першы ў нашай краіне музычны педагагічны савет на тэму «Музычна-эстэтычнае выхаванне дзяцей у агульнаадукацыйнай школе: вопыт, праблемы, шляхі ўдасканалення». У рамках абласнога музычнага педсавета праведзена сумеснае пашыранае пасяджэнне камісій музычна-эстэтычнага выхавання Цэнтральнага праўлення Усесаюзнага музычнага таварыства і Музычнага таварыства БССР. У гэтым форуме дзеячаў музычнага выхавання ўдзельнічалі прадстаўнікі Масквы, Ленінграда, Калугі, Варонежа, Кастрамы, Свярдлоўска, Кіева, Кішынёва, Мінска, рэспублік Сярэдняй Азіі, абласных і раённых цэнтраў Беларусі. Узначальваў работу музычнага педсавета старшыня камісіі па музычна-эстэтычным выхаванні дзяцей і юнацтва Цэнтральнага праўлення Усесаюзнага музычнага таварыства кампазітар А. Фляркоўскі.

Гродзенскі абласны музычны педсавет — гэта першая спроба ўкаранення новай формы арганізацыйна-метадычнай нарады, закліканай на ўзроўні вобласці, рэспублікі, краю, усёй краіны вырашаць актуальныя пытанні музычна-эстэтычнага выхавання. Пытанні, узнятыя на дыскусіі ў Гродне, ахоплівалі праблемы матэрыяльнай базы музычнага выхавання, недастатковай колькасці часу, які адводзіцца цяперашняй праграмай на ўрокі музыкі, сацыяльнага становішча настаўніка музыкі і нізкай прэстыжнасці гэтай прафесіі ў нашым грамадстве і інш. Лейтматывам музычнага педсавета быў тэзіс аб тым, што краіна павінна павярнуцца да школы — школа павінна павярнуцца да мастацтва — мастацтва павінна павярнуцца да выхавання.

Вялікую цікавасць выклікала наведванне школ Гродна і раёна. Так, па аднадушнай думцы ўдзельнікаў педсавета, заслугоўвае ўвагі і распаўсюджання вопыт вёскі Путрышкі, дзе пад адным дахам у тыпавым школьным будынку плённа супрацоўнічаюць агульнаадукацыйная і дзіцячая музычная школы, што дазваляе вырашаць адразу некалькі складаных праблем: база, кадры, аплата настаўнікаў, гадзіны на ўроні музыкі. А галоўнае — тут паспяхова рэалізуюцца задачы комплекснага падыходу ў музычна-эстэтычным выхаванні дзяцей.

Сур'ёзная перашкода ў развіцці музычнага выхавання ў нашай краіне — нездавальняючае інфармацыйнае забеспячэнне сістэмы масавага музычнага выхавання. У сувязі з гэтым прынята рашэнне аб наданні часопісу «Музыка в школе» ўсесаюзнага статуса, выказана таксама думка пра неабходнасць усесаюзнай музычнай газеты. Прынята рашэнне аб арганізацыі ў рамках Музычнага таварыства асацыяцыі музычных педагогаў.

**В. ЯКАНЮК,**
старшыня камісіі па музычна-эстэтычным выхаванні дзяцей і юнацтва рэспубліканскага праўлення Музычнага таварыства БССР.

# «ПОЛЫМЯ» Ў СТУДЭНТАЎ

Адбылася сустрэча супрацоўнікаў рэдакцыі і аўтарскага актыву часопіса «Полымя» са студэнтамі і выкладчыкамі філалагічнага факультэта Мінскага педагагічнага інстытута імя М. Горкага. З уступным словам да прысутных звярнуўся доктар філалагічных навук, прафесар А. Семяновіч. «Вучыцца гаварыць з моладдзю»,—так можна вызначыць тэму выступлення галоўнага рэдактара «Полымя» С. Законнікава. Пра публікацыі, якія рыхтуе «Полымя» ў рубрыцы «Старонкі нашай гісторыі», гаварыў А. Пісьмянкоў. Д. Бугаёў закрануў пытанні, звязаныя з перспектывамі развіцця сучаснай беларускай крытыкі.

У сустрэчы прынялі таксама ўдзел пісьменнікі, супрацоўнікі «Полымя» К. Цвірка, А. Сілянкоў, В. Супрунчук, В. Шырко, якія адказалі на пытанні прысутных.

Выкладчыкі кафедры беларускай літаратуры А. Рагуля і М. Мішчанчук у сваіх выступленнях гаварылі пра больш шырокае і грунтоўнае асвятленне на старонках часопіса пытанняў, звязаных з развіццём крытычнай і філасофскай думкі на Беларусі, з літаратурным працэсам 20—30 гадоў.

**Ю. ГАРБІНСКІ,**
аспірант кафедры беларускай літаратуры МПІ імя М. Горкага.

# ПА ТРАДЫЦЫІ Ў ВІЦЕБСКУ...

Канцэрты традыцыйных Дзён джазавай музыкі прайшлі ў Віцебску. Як ніколі раней, на сцэне гарадскога Дома культуры выступіла шмат зорак савецкага джазу — І. Брыль, Д. Крэмер, А. Фішар, Л. Пташка. Дэбютаваў на фестывалі Віцебскі біг-бэнд пад кіраўніцтвам А. Яскіна. У яго складзе ў асноўным маладыя музыканты, але аркестр, які выканаў творы джазавай класікі, зрабіў добрае ўражанне. Цікавасць віцябчан да джазу прыкметна павысілася, пра што сведчыла значная колькасць слухачоў на канцэртах.

Усяго ў пяці канцэртах удзельнічалі музыканты з Масквы, Ленінграда, Рыгі, Уфы, Казані. Мінск быў прадстаўлены квінтэтам І. Сафонава і маладым піяністам А. Пыталевым. Сюрпрызам для прысутных сталася вялікая выстаўка плакатаў з партрэтамі зорак сусветнага джазу амерыканскага мастака Акікі Рамзеса з асабістай калекцыі Ю. Кірылаўскага з Луцка.

Збор ад канцэртаў фестывалю быў пералічаны ў фонд пацярпеўшых ад землетрасення ў Арменіі.

**П. ЗМІТРОВІЧ.**



Некалькі дзён у рэспубліцы знаходзіўся, па запрашэнню АДН, Хірошы Хасэгава, карэспандэнт японскага грамадска-палітычнага штотыднёвіка «Аэра» (выдаецца буйнейшай японскай газетай «Асахі»). Мэта паездкі — расказаць на старонках «Аэра» аб перабудове, аб актуальных працэсах, якія адбываюцца ў грамадска-палітычным і культурным жыцці нашай краіны. Японскі журналіст наведаў таксама рэдакцыю газеты «Літаратура і мастацтва» і меў гутарку з яе супрацоўнікамі. Яго цікавілі пытанні, звязаныя з тым, як ідзе перабудова ў рэспубліцы, які ўдзел у ёй прымае творчая інтэлігенцыя, якія захады прымаюцца па рэабілітацыі рэпрэсіраваных у гады культу.

На здымку: Хірошы Хасэгава ў рэдакцыі «ЛіМа».

Фота і тэкст Ул. КРУКА.

# У ЦЭНТРЫ ЎВАГІ— УМОВЫ ПРАЦЫ І БЫТУ

Адбылося сумеснае пасяджэнне сакратарыята Саюза пісьменнікаў БССР, партыйнага бюро, мясцкома, праўлення Беларускага аддзялення Літаратурнага фонду СССР, рэвізійнай і жыллёвай камісій. На ім абмяркоўвалася пытанне «Умовы працы і быту беларускіх пісьменнікаў. Шляхі іх паляпшэння». Вёў пасяджэнне Максім Танк.

Удзельнікі яго заслухалі справаздачу дырэктара Беларускага аддзялення Літфонду СССР В. Вільтоўскага. Ён расказаў аб захадах па паляпшэнні жыллёвых умоў пісьменнікаў і супрацоўнікаў устаноў і арганізацый сістэмы СП (з 1981 па 1988 год палепшылі жыллёвыя ўмовы 126 сем'яў), аб тым, што апошнім часам павялічаны выдаткі на творчыя камандзіроўкі, на матэрыяльную дапамогу маладым літаратарам, што пісьменнікі пачалі атрымліваць творчыя стыпендыі, што на 1990 год плануецца пачатак рэканструкцыі пісьменніцкай паліклінікі, спыніўся на іншых пытаннях, якія тычацца паляпшэння ўмоў працы і быту пісьменнікаў.

У абмеркаванні прынялі ўдзел В. Рагойша, Л. Прокша, А. Емяльянаў, галоўны ўрач паліклінікі Літфонду М. Ладуценка, В. Коўтун, Я. Лецка, В. Адамчык, намеснік дырэктара Беларускага аддзялення Літфонду СССР В. Гаршкоў, П. Макаль, К. Шэрман, Я. Брыль, А. Гардзіцкі, А. Жалязоўскі, А. Масарэнка, А. Жук, Т. Бондар, а таксама Н. Гілевіч.

**НАШ КАР.**

## БТ: ПАСЛЯ ПРЭМ'ЕРЫ

# ЁСЦЬ СЭНС ПЕРАЧЫТАЦЬ...

У адрозненне ад многіх маладнякоўцаў, чые імёны толькі згадваюцца ў школьных падручніках, Паўлюк Трус не пакрыўджаны наступнікамі. Творы яго і вывучаюцца ў школе, і шмат разоў перавыдаваліся. Цяпер, калі да нас вяртаюцца паэты незаслужана забытыя і недастаткова ацэненыя, ёсць сэнс перачытаць і Паўлюка Труса, што і зроблена ў лістападзе тэлевізійнай рэдакцыяй перадач для дзяцей. «Жыццё, і муза, і любоў...» — так называецца перадача, створаная А. Браілоўскім (яго апошняя работа) і Л. Тарасавай.

Напачатку аўтары мяне дужа азадачылі, прадставіўшы свайго героя як «беларускага Чурлёніса, мастака, кампазітара, паэта». Няўжо, думаю, выявіліся нейкія новыя звесткі? Аказалася — не, гэта толькі гіпербала, спроба заінтрыгаваць, прыцягнуць увагу гледача.

Паўлюк Трус сапраўды быў рознабакова адораным чалавекам: вядома, што ён цудоўна маляваў. Як паэт ён толькі пачаў складвацца — 25 год было адпушчана яму лёсам (ён памёр у 1929 годзе ў час камандзіроўкі на Палессе). Нам не дадзена ведаць, у якім кірунку развіваўся б талент гэтага пышнавалосага, гожага тварам юнака. У час, калі лічылася нормай «наступаць на горла ўласнай песні», і ён напісаў нямала агітак тыпу «не плач — жыццё перайнач». Звон малатарні ў адным з яго вершаў нечакана перагукваецца з новай аповесцю Васіля Быкава «Аблава» (урывак з яе друкаваўся ў «ЛіМе»). Там селяніна залічылі ў кулакі і саслалі з сям'ёй менавіта з-за малатарні — далучыўся, так сказаць, да прагрэсу...

Нельга сказаць, што перадача адкрывае нам новага П. Труса ці па-новаму асэнсоўвае яго час. Пра тагачасную ломку вясковага жыцця гаворыцца як пра непазбежнасць, а сам паэт прадстае песняром «роднага кута». Нас не закідваюць біяграфічнымі звесткамі, не паказваюць з экрана кніг і фотаздымкаў. Тое, што звычайна завецца відэарадам, мае на мэце данесці да нас нягучны, але чысты голас паэта-лірыка. Вершы гучаць часцей за кадрам, а засяроджаная, нетаропкая камера разам з намі ўглядаецца ў каменьчыкі на дне рачной плыні і ў россып лугавых зёлак, прыкмячае чараду гусей на вясковай вуліцы, прывязанага да воза сабаку, бялізну, якая развешана ля хаты, і многа-многа іншых — звычайных і такіх мілых воку драбніц. І ўжо не толькі паэт вяртаецца ў сваё дзяцінства, што прайшло «ў смутку і ў радасці», але і мы самі.

Сённяшняя вёска зноў-такі дзіўным чынам перагукваецца з той, даўняй, і не скажаш, каб надта яны адрозніваліся. І непатрэбны нікому стары плуг на водмелі, і рэшткі паламанай лодкі на сушы мы ўспрымаем як сімвалы, як знакі — калі не бяды, дык вялікага запусцення, да якога ў рэшце рэшт давяла многія гаспадаркі шматгадовая «ломка».

Перад намі, такім чынам, усе прыкметы літаратурнага тэатра. Звыш дзесяці гадоў працуючы ў гэтым жанры, рэжысёр Людміла Тарасава выпрацавала свой стыль, свой творчы почырк. Для кожнага літаратурнага матэрыялу — проза гэта ці вершы — яна знаходзіць сваю вобразную сістэму. Скразным матывам у перадачы пра творчасць П. Труса праходзіць абрыс акна. Праз гэта невялікае затуманенае акно вядучы (артыст У. Караткевіч) зазірае не проста ў вясковую хату — у наша мінулае. З другога боку шыбы — мілы дзіцячы тварык. Можа, гэта сама будучыня? Можа, за адным з такіх акон вырастае новы паэт?

На жаль, не ўсе метафары рэжысёра прачытваюцца. Што азначаюць, прынамсі, патокі дажджу, якія праз акно ліюцца на пісьмовы стол? У гэтым ёсць пэўная штучнасць, надуманасць.

У чым галоўны сакрэт эмацыянальнага ўздзеяння перадачы? На экране прысутнічае тое, чаго няма ні ў сцэнарыі, ні нават у вершах (артыст А. Падабед чытае іх са звыклай задушэўнасцю, якая стала штампам беларускага эфіру). На экране — глыбіня і праўда пачуцця, свет чалавечай душы, якая вяртаецца да сваіх вытокаў. Здараецца, саманаштоўнасць відэарада паэтычнае слова робіць неабавязковым. Не ў вершы ўслухоўваецца рэжысёр, а ў сябе, у сваё адчуванне, сваё разуменне свету.

Што паэзію не проста перанесці на экран — ясна ўсім. Самы просты і ходкі прыём — пасадзіць перад камерай самога паэта і хай чытае — што хоча і як умее. Лянівая камера ўтаропіцца ў яго і нават зрушыцца не жадае — як быццам аператар адышоўся пакурыць. Куды больш магчымасцей у літаратурнага тэатра. Вось дзе прастор для пошуку, для фантазіі!

Маюць здабыткі ў гэтым жанры рэжысёры літаратурнай рэдакцыі У. Трацьцякоў, Н. Арцімовіч, Г. Краўчанка, Н. Гаркунова. Цікавыя задумы былі, помніцца, у Л. Нямчынавай. Іншая справа, што далёка не заўсёды добрыя задумы ўвасабляюцца ў жыццё. Творчы рост маладых тэлевізійных рэжысёраў (як, дарэчы, і тэатральных) марудны і цяжкі.

Людміла Тарасава, якая звязала свой лёс з дзіцячай рэдакцыяй тэлебачання, прыкметна хінецца да перадач «дарослых», да літаратуры. Паустоўскі і Грын, Брыль і Панчанка, Шамякін і Стральцоў... Творы гэтых і многіх іншых аўтараў набылі з яе дапамогай экраннае жыццё. Перадачу «Жыццё, і муза, і любоў...» сама яна не лічыць сваім дасягненнем. Магчыма, так яно і ёсць. Тым не менш — зроблены яшчэ адзін крок, пераадолена яшчэ адна прыступка — на шляху да ўдасканалення, да высокага мастацтва.

**Г. КАРЖАНЕЎСКАЯ.**

Алег ШАСЦІНСКІ

# Беларуская маці

НАВЕЛА

Было ў бабулі Матруны трое сыноў.

Старэйшы, Іван, пятнаццацігадовым, пайшоў у партызаны. Няўлоўны іх атрад налятаў на нямецкія склады, пасты, чыгуначныя пуці... І знікаў, як прывід. Немцы мясцовых паліцаяў, як наждаком, драілі, пагражалі ў распыл пусціць, калі партызанскую вольніцу не накрыюць. І надта ж радаваліся паліцаі, калі высачылі, схапілі сонных,占начаваўшых у пуні, трох з атрада — Матрунінага сына Івана, Кузьму і яшчэ аднаго, па прозвішчы Паклёўка...

— А ўжо ж сыночак быў! Усё мне зробіць, нават карову падоіць... Быў бы ён, гора б цяпер не ведала. Ён мне на старасці часта з лучынай у кулачку сніцца. На вячоркі перад вайной збіраліся маладыя. Са сваёю лучынаю. Як пачне з палена лучыну шчапаць, я яму: «На сяло, сынок?» А ён: «Пайшоў я, мама...»

Паліцаі злоўленым партызанам скруцілі рукі, кожнаму да нагі па вяроўцы прывязалі, каб яшчэ больш унізіць, і пагналі так на рынак. Здзекаваліся, маўляў, кульгавых пеўняў на вяроўцы вядуць... Тузалі за вяроўкі, звальвалі з ног у пыл: «Смейся, народ! Вылавілі бандытаў!»

Толькі народ на рынку не смяяўся, расступаўся, апускаў долу вочы. Паліцай качан капусты з прылаўка падкінуў і на ляту яго распалавініў. Шмякнуліся качанныя паўшар'і ў рыначную гразь, войкнула гандлярка, зацiскаючы даланёю рот, а паліцай заверашчаў: «Галовы парасквашваем, хто супраць нас!» Але на рынку Івана, Кузьму і Паклёўку яшчэ не мучылі, — толькі вусна зняслаўлялі.

—Хоць бы сынок мой на вайне загінуў, калі на раду напісана... А звяры-мучыцелі... Не магу гаварыць...

Паліцаі пакуражыліся, а пасля допыт учынілі.

«Дзе атрад? Колькі вінтовак?»

Маўчалі героі-пакутнікі. Шалелі каты, — якую ласку будуць мець ад немцаў, калі бязмоўныя палоннікі іхнія? Узмоклі паліцаі, пена на губах, як у жарабкоў, а нічога не выбіць. І ад шаленства, ад бяссілля, ад няведання свайго ўласнага лёсу ўспаролі Івану і ягоным таварышам жываты, патронаў усярэдзіну наклалі, конскіх яблыкаў накідалі, зараўлі, людзей палохаючы: «Глядзіце, якія партызаны!»

І падпалілі трупы, а патроны ў іх вантробах узрывацца пачалі.

— Спачатку не ведала я пра нечуваныя пакуты сыночка майго. Мая стрыечная сястра бачыла і сказала адно мне, што сыночку вока выкалалі... А пасля ўжо ўведала, што спалілі іх. Пастухі яловымі лапкамі абгарэлыя целы прыкрылі, і я, сама не свая, дзён праз дзесяць сабрала чорныя костачкі ў мяшэчак і ў бацькаву магілу пахавала. А пра тое не ведаю, чые костачкі — ці то Вані майго, ці то Кузьмы, ці то Паклёўкі...

Пальцы ў бабулі Матруны не як ува ўсіх людзей. Нагадваюць яны карані, — вузлаватыя, акальцаваныя мазолістымі нарасцямі, быццам скрозь зямлю прараслі, а пасля да далані прыстылі. Як яна імі кубак, лыжку трымае, — дзіўна!

— Ад даення пальцы паскручвала. Ад даення. Я, лічы, усё жыццё даіла. Вымя апрастаць — сіла патрэбна. Цiскаеш, цiскаеш, цягнеш, размінаеш... Я без малачка жыць не змагу. Звыклася. Цяпер ужо на пенсіі, на трыццаці васьмі рублях жыву, а кароўку трымаю, не магу без кароўкі... З сенам цяжка. Старшыню прашу сена даць, кажу, карміць няма чым. А ён: «Іш ты! За так! Сена табе! Ты з поля бяры бурак, лён... Будзе тады і сена!» А дзе ўжо мне бурак браць ды лён? Восемдзесят гадкоў ужо. Было б здароўе — рабіла б і ў калгасе. А няма яго... Каб сынок жыў! Ваня... Меншы ды сярэдні жывыя. Меншы — на шахце, далёка, не ў нашай нацыі... Жонка ягоная надта ж чужых мужыкоў любіць. Старэйшая дачка ў яго — гатовая. Ды яшчэ хлапец і дзеўка. Я яму казала: «Едзь дамоў! Будзеш жыць і песні пець...» Куды там! Не адлепіцца ад сваёй шалахвосткі. А ў мяне за меншага сэрца баліць. Я яго ў год вайны знайшла...

— Як — «знайшла»?

— Значыць, нарадзіла... А сярэдні — у Мінску, юрыст. Ён заняты вельмі. На хвіліну прыскочыць калі, а каб пажыць — заняты. Я яму: «Ты б, сынок, з надбаўкай па пенсіі памог». Ён мне: «Ты сама, сама! Хоць галаву адсячы, — не магу часта прыязджаць!» Я яму масла саб'ю, смятанкі назбіраю... З'ездзіла я тут сама ў райвыканком. Ужо не за пенсію прашу. Хату папраўіць трэба. Як мароз, з-пад падлогі холадам цягне. Прынялі мяне там уважна, паспачувалі, паабяцалі старшыню паўшчуваць. А прыйшла да старшыні, дык ён на мяне зіркнуў, дакумент мой на стол шпурлянуў: «Бяры з поля бурак ды лён! Тады і хату падрамантуем». Я яму: «Была б дужая...» Ён адно чаўпе: «Бяры, бяры...» Хутчэй бы бог смерць даў!

Развітаўся з бабуляй Матрунай. Падслепавата жмурачыся, у валёначках, ссохлая, праводзіла яна ад парога. Прашамкала бяззубым ротам:

— Майго сярэдняга, юрыста, калі ў Мінску напаткаеце, скажыце, што я маселка збіла...

Кранулася машына па слізкай гліністай дарозе, бліскучай ад дажджу, срабрыстай нават.

А пасля быў Мінск, пустыя і бадзёрыя гаворкі, ажыўленыя застоллі з бясконцымі пажаданнямі і падвядзеннем радасных вынікаў. І бляклa ў памяці бабуля Матруна, забывалася. І нікога мы не папракнулі, як меркавалі напачатку: ні старшыні калгаса, ля канторы якога праскочылі, спяшаючыся кудысьці і чагосьці, ні сярэдняга сына, чый нумар тэлефона недзе згубіўся... Саміх сябе таксама не папракнулі. А за што? А ні за што.

І не пабаяліся, што, калі нам раптам стане кепска, нехта сябе таксама ні ў чым не папракне.

Пераклад з рускай.

Старонкі ўспамінаў

Іван КУДРАЎЦАЎ

# З ПАМЯЦІ ЗДАБЫТАЕ

22 ЧЭРВЕНЯ 1941 г. ранічкою я ішоў у Ленінскую бібліятэку. Назаўтра ў нас меўся быць першы экзамен — па гісторыі СССР.

Праходзячы міма суседняга з бібліятэкай будынка, дзе ў той час на вул. Чырвонаармейскай размяшчаўся ЦК КП(б)Б, я міжволі звярнуў увагу на паставых у міліцэйскай форме, што стаялі каля вуглоў будынка і ля ўвахода ў яго. Хто запавольваў тут хаду і цікаўна ўзіраўся ў дзяжурных, тых ветлівенька прасілі не затрымлівацца і праходзіць.

Такога раней не бывала, ды я не надаў убачанаму асаблівага значэння. Сеўшы ў чытальнай зале бібліятэкі за свой звыклы стол, паглыбіўся ў матэрыялы да заўтрашняга экзамена.

Нешта пад дванаццаць гадзін па зале прайшла чутка, што чакаецца перадача па радыё вельмі важнага ўрадавага паведамлення...

І вось ажыў рэпрадуктар у адным з куткоў чыталкі, прагучалі дванаццаць удараў Крамлёўскіх курантаў. Дыктар аб'явіў аб выступленні Народнага камісара замежных спраў СССР В. М. Молатава.

Вайна...

Той яе першы дзень урэзаўся ў памяць і неверагоднай узрушанасцю, тлумам, што панавалі ў горадзе ўсюды, ва ўсім, і жаданнем спазнаць, разабрацца ў тым, што дзеецца навокал...

Экзамен па гісторыі СССР 23 чэрвеня ўсё-такі адбыўся. Мы, некалькі студэнтаў, сядзелі кожны за асобным столікам, рыхтаваліся адказваць на пытанні, што значыліся ў выцягнутых білетах. Экзаменатар Канстанцін Іванавіч Шабуня, загадчык кабінета гісторыі СССР, будучы прафесар, член-карэспандэнт АН БССР (цяпер ужо нябожчык), тупаў па аўдыторыі, слухаў чарговага студэнта — то ўважліва, засяроджана, то, здавалася, неяк адчужана, няўцямна. Падыходзіў да акна і ўзіраўся ў бок вакзала (адсюль, з трэцяга паверха біялагічнага корпуса універсітэта, ён быў, як на далоні).

Надышла мая чарга, і я даволі бадзёра пачаў адказваць на пытанні, пастаўленыя ў білеце, — матэрыял мне быў добра знаёмы. Калі завяршаў гаворку па трэцяму пытанню, у аўдыторыю з расчыненага акна нечакана ўварваўся незразумелы гуд. З кожнай хвілінай ён усё мацнеў і мацнеў і хутка быў заглушаны блізкімі разложыстымі выбухамі...

Мы ўсе кінуліся да акна і ўбачылі вакзал у стаўбунах дыму, пылу, агню. Знямелыя, узіраліся ў тое шаленства смерці, што тварылася так блізенька ад нас, на нашых вачах...

Гэта быў першы налёт на Мінск, першая яго бамбёжка.

Мы неўзабаве пакінулі аўдыторыю і падаліся, хто куды. Вядома, ніхто з нас не ведаў, ці адбудзецца згодна раскладу чарговы экзамен. А хто ўвогуле мог уявіць сабе, што праз чатыры дні ў горад уступяць немцы?..

Яшчэ некалькі налётаў на Мінск было зроблена ў той дзень. Бамбавозы скідвалі свой страшны груз на цэнтр горада, на важныя аб'екты, на жылыя кварталы, і шматлікія пажары бушавалі то тут, то там. На наступны дзень налёты былі больш масіраваныя і больш працяглыя. Горад палаў у моры агню, гмахі шматлікіх камяніц ляжалі ў руінах.

У ноч з 24-га на 25-е чэрвеня група студэнтаў і выкладчыкаў універсітэта сабралася ў падвале хімічнага корпуса. Хаваліся ад бамбёжкі і думалі пераначаваць тут.

Сну, можна сказаць, і не было. Ці ж заснеш, калі творыцца такое, калі нервы напружаны да вышэйшай мяжы, калі ў кожнага з прысутных — знаёмых і незнаёмых — столькі ўражанняў ад перажытага сёння, учора, пазаўчора, і тыя ўражанні з кожнага рваліся вонкі, ператвараліся ў расказы, якія гучалі ва ўсіх кутках таго нашага прыстанішча-сховішча...

Недзе каля поўначы адбыўся налёт — начны, які звычайна страшнейшы за дзённы.

Пад раніцу ў групе выспела задума-рашэнне — пакінуць горад і падацца на ўсход. Сярод нас быў рэктар універсітэта Парфен Пятровіч Савіцкі, ён санкцыяніраваў гэтую задуму і ўзначаліў паход.

Як добра развіднела, выйшлі. Выкіраваўшыся на Магілёўскую шашу, узялі курс на Магілёў.

Запомніўся першы прывал, калі мы, пратопаўшы кіламетраў з пятнаццаць, спыніліся крыху адпачыць. Мясціна, якую мы абралі, уяўляла сабой высакаваты ўзгорак, з даволі густым чубком лесу. Тут, у засені дрэў, мы, трохі стомленыя, і прыхаваліся ад сонца, якое было ўжо досыць высока і добра-такі смаліла. Адсюль адкрываліся шырокія прасцягі. Перш за ўсё кідаўся ў вочы недалёкі Мінск. То ў адным, то ў другім месцы ён цягнуў у бязвоблачнае неба чорныя бухматыя клубы дыму, часам перавітыя вогненнымі стужкамі. Над кварталамі некаторых раёнаў у нярушным паветры звісалі шэрапопельныя хмары не то пылу, не то дыму, — там, мабыць, нядаўна адбушавалі пажары, і курадым ад іх, як і ўзнятыя выбухамі пылавыя аблокі, яшчэ не аселі на зямлю і не развеяліся. Добра былі відаць у многіх месцах груды размаітых руін сярод шматпавярховых будынін, пачарнелыя каробкі згарэлых датла мураванак...

Калі наша група ўжо збіралася рушыць далей, я падышоў да К. І. Шабуні, які аказаўся з намі, і жартам папрасіў:

— Канстанцін Іванавіч, можа, паставілі б мне адзнаку за экзамен — ва ўчарашнім жа тлуме мы пра яе забылі... — і працягнуў студэнцкую заліковую кніжку.

Горка ўсміхнуўшыся, ён узяў кніжку, накрэсліў «выдатна», распісаўся і вывеў страшную дату другога дня вайны...

Здабываючы па дарозе, дзе ўдасца, сякі-такі харч, робячы прывалы і начлежкі, дзе давядзецца, дзень за днём мы клыпалі далей і далей. Група наша пакрысе меншала — сёй-той падаваўся ў бок родных мясцін.

А ісці з кожным днём рабілася ўсё цяжэй. Над Магілёўскай шашой, гэтай магістраллю, па якой у тыя пякельныя дні і ночы, ратуючыся ад фашысцкай навалы, няспынна імкнулі на ўсход людзі, фурманкі, машыны, — над гэтай шашой усё часцей і часцей сталі баражыраваць нямецкія самалёты. Знішчальнікі бязлітасна секлі з кулямётаў, бамбавозы бамбілі. Здаралася, выкідвалі паветраныя дэсанты, сустрэча з якімі нічога добрага не абяцала... Нарэшце самалёты ўзялі дарогу пад такі кантроль, што рух па ёй у светлы дзённы час амаль спыніўся. Мы пераключыліся на начную хаду: удзень для адпачынку забіраліся ў якое-небудзь гумно ў прыдарожнай вёсцы або спыняліся проста ў недалёкім ляску, а ўсю ноч ішлі.

Праз восем сутак наша значна парадзелая група дабрыла да Магілёва.

Было гэта 3 ліпеня. Фронт, пагрозна прасоўваючыся на ўсход, падступаў і да гэтых месц.

Недзе пад вечар мне ўдалося ўбіцца ў эшалон з фабрычным абсталяваннем, што эвакуіраваўся ў бок Масквы, і я пашыбаваў з ім у сваю невядомасць.

Некалькі доўгіх дзён і начэй, незнаёмыя станцыі, мясціны, пра якія толькі чуў, і вось канцавы пункт нашага маршруту —сталіца Мардовіі Саранск.

Уладкаваўшыся на працу ў сельскую школу, я паўгода настаўнічаў. У канцы лютага 1942 года быў выкліканы ў ваенкамат і прызваны ў армію. Трапіў у школу малодшых камандзіраў, якая размяшчалася пад горадам Арзамасам, што ў Горкаўскай вобласці.

Месяцы праз два заняткі ў школе скончыліся. Я выйшаў з яе сяржантам, камандзірам мінамётнага разліку. Мог быць таксама ручным кулямётчыкам, аўтаматчыкам.

Нас прывезлі ў г. Горкі. Там фарміравалася 192-я асобная танкавая брыгада, з якой мне і наканавана было прайсці ўсю вайну.

...Эшалоны нашай брыгады шыбавалі курсам на Маскву, спыняючыся толькі на буйных станцыях. «Зялёнай вуліцай» шыбавалі,— мабыць, была на тое патрэба. Пасля Масквы, калі ўзялі кірунак на Калугу, зразумелі, што едзем на Заходні фронт. Выгрузіўшыся ў Сухінічах, далей падаліся сваім ходам — на танках і аўтамашынах.

Неўзабаве пасля з'яўлення ў вызначаны пункт брыгада была ўведзена ў бой.

Тое 5 мая 1942 г., тое баявое хрышчэнне нашы танкісты, якія прынялі яго і якім пашчасціла застацца жывымі, ніколі не забудуць. На фронце ўсялякае здаралася, але каб вось так ды ў першым жа баі...

Агромністы платан на набярэжнай Ялты, напоўнены птушыным шчабятаннем, заўсёды выклікае ў мяне вобраз нашай планеты. Мне захацелася напісаць верш «Планета птушак» (шкада, што не напісаў). Тады я не ведаў яшчэ пра кнігу Сент-Экзюперы «Планета людзей».

☐

Дарэмна В. Прышвіна стараецца давесці чытачам, што Міхаіл Міхайлавіч Прышвін усёй сваёй творчасцю імкнецца пераканаць чалавека ў неабходнасці радасці «праз успамін сябе». Ніколі і нідзе ён не мірыўся з несправядлівасцю і не адмаўляўся ад асабістай волі. Прышвіна сама пярэчыць, калі апісвае ўсе хваляванні Міх. Міх. пасля адмаўлення часопіса публікаваць яго раман. Супакаення і волі ён шукаў на прыродзе, таму і бег да яе.

☐

Як гэта недарэчна і крыўдна, што многія вялікія таленты становяцца шырока вядомымі толькі пасля сваёй гібелі. Пры жыцці чамусьці іх імёны рэдка гучаць. Яны да нас прыходзяць, як святла пагаслых зорак: Вампілаў, Рубцоў, Шукшын, Прасолаў...

☐

Як гэта агідна гучыць: «Лепшыя людзі вобласці», «Лепшыя людзі горада» і г. д. Можна ўявіць сабе высакамер'е сноба, які прыдумаў гэта. Ён жа, вядома, лічыць сябе лепшым—першасортным, а ўсе астатнія—другі і трэці сорт. Жах!

☐

Божа, як я ачарсцвеў душой. Гэтай зімой нават птушак не карміў.

☐

Першага красавіка пасля дзесяці гадзін вечара ляцелі з-за мора жураўлі. Якое вясёлае ажыўленне было ў іх пераможным крыку над Ялтай. Шчаслівыя! Якую далеч адмахалі! Дзесьці ў гарах будуць начаваць. Перадых неабходны пасля такога пералёту. Над морам і над горадам—туман, жураўлёў ледзь відаць. Пераляцеўшы мора, яны перастройваюцца, ляцяць не клінам, а шарэнгай, у лінію, рыхтуючыся да пасадкі. Яны ляцяць з розных месцаў, нібы згаварыліся раней аб часе пералёту. Ляцяць менавіта ў першы дзень вясны. Колькі загадкавага ў гэтым свеце, які мы яшчэ дрэнна ведаем. У 11 гадзін на караблі білі склянкі, як бы арыентуючы тых жураўлёў, якія яшчэ дзесьці на падлёце. Марская салідарнасць.

☐

Прачытаў К. Чукоўскага аб творчасці Уолта Уітмена. Вельмі своеасаблівая літаратура. Ён, відаць, прабацька сучаснага верлібра. Мяне ён, як паэт, не хвалюе. Ён больш цікавы, як публіцыст. Ці не з «Дэмакратычнай далечы» ўзнікла «За даллю даль»?

**Іосіф ВАСІЛЕЎСКІ**

# «КВЕТКІ ПАСАДЖАНЫ ДЛЯ КРАСЫ...»

## З ЗАПІСНОЙ КНІЖКІ

☐

Глядзеў «Сёння ў свеце». Добрая напачатку перадача стала не вельмі цікавай у заканчэнні. Мала рэпартажаў. Узнік экспромт.

Ах, Фарид, Фарид,
Всё рассказывает,
Очень много говорит,
А не показывает.

☐

Калі быў здаровы, усе навокал здаваліся мне старэйшымі за мяне, а цяпер раптам усе яны здаюцца маладзейшымі. Усё залежыць ад здароўя.

☐

Ступень таленту—гэта ступень праўдзівасці аўтара.

☐

Калі сланы ідуць па зямлі, пра мурашак яны не думаюць.

☐

— Навошта ты яе крыўдзіш? Душы ў цябе няма.

— Я адношуся да яе душэўна.

— А пабіў за што?

— Выходзіць, трэба.

— А раней, калі кахаў, не крыўдзіў?

— Усяк было. На тое і слова ж такое: кахаў.

☐

«Штурхнуць прамову». Гэты выраз нарадзіўся ў наш час. Калі шмат гавораць, часам не тое, што думаюць, прамова не ліецца, яна ўпіраецца, а яе сілай выпіхаюць. Вось нехта дакладна знайшоў гэтаму азначэнне—штурхнуць прамову!

☐

Мастака мала цікавіць роўны і гладкі ствол дрэва, яго ўвагу прываблівае якаянебудзь крывуля.

☐

Лісце дуба моцна трымаецца за голле нават і замаразкамі. Магутны ствол жывіць іх сваімі сокамі. Людзі—як лісце дуба.

— Але першым усё ж ападае лісце, якое бліжэй да ствала, хаця соку атрымлівае больш, чым іншыя.

— Так, не ўсе адразу ападаюць.

— На кончыках галін лісце далей застаецца зялёным.

— А чаму?

— Ды таму, што яно маладое.

☐

Аблажны дождж ішоў тры дні, не перастаючы, і нарэшце выдахся. Неба яшчэ нейкае мутнае, дрэвы страсаюць з сябе ваду. Пара ўжо ім абсохнуць, ды рэдкія кроплі ўсё яшчэ кранаюць лісце. У зялёных шатах таполяў уздрыгваюць то адзін, то другі лісток, не ўсе, не кожны, а выбарна. І кожны лісток уздрыгвае, як уздрыгвае конь вухам, зганяючы мух.

☐

У сваім выступленні на нарадзе драматургаў і рэжысёраў, развіваючы думку аб самым галоўным, я забыў сказаць пра тое, што мастацтва ў рэшце рэшт павінна не толькі жывіць розумы і сэрца,—яно павінна лячыць душы!

## ПАГАВАРЫЛІ...

Дажджлівым і халодным красавіцкім днём я вяртаўся са станцыі Есентукі ў свой санаторый і звярнуў увагу на дзяўчынак, якія старанна рвалі на газоне першыя фіялкі. Дзяўчынкам было гадоў па пяць, адна з ярка-блакітнымі вачамі, другая больш бойкая, чарнавокая, мусіць, каўказскага паходжання, ростам вышэй за сваю сяброўку, бачна па ўсім—завадатар гэтай забавы. У руках яны трымалі вялікія букецікі, аднак яны не задавальняліся сваім поспехам і працягвалі рваць фіялкі.

— Навошта вы гэта робіце!—спытаў я і пачаў гаварыць ім, што кветкі ў горадзе пасаджаны для красы, для ўсіх, што рваць іх не дазваляецца. Імі можна толькі любавацца.

— А калі ў мяне дзень нараджэння?!—сказала бойкая.

— Тады дастаткова сарваць некалькі кветак.

— А калі мне трэба многа!—настойвала чарнавокая.

— Але ж кветкі патрэбны не толькі табе адной, я таксама хачу любавацца імі.

— Ты ўжо вялікі, гэта табе не трэба.

Спрэчка цягнулася доўга. Дзеўчанё не адступалася ад свайго, і я ў рэшце рэшт сказаў настойліва:

—З цябе ў такім выпадку не выйдзе добрага чалавека.

— А навошта?.. Я, можа, хачу быць ведзьмай?

І, састроіўшы мне пагражальныя грымасы, кінулася бегчы.

## ЗЛОЕ ДРЭВА

Ля абочыны гарадской вуліцы добры чалавек пасадзіў вязное дрэва. Тоненькае, з ізумрудным лісцем, яно ласкава шапацела ад кожнага павеву ветру. Каб нікому не перашкаджаць сваімі галінкамі, яно з усіх сіл цягнулася ўгору, штогодна адкладваючы кальцо ў сваёй сарцавіне. Яму цяжка было расці на непрыгодным глебе, дзе каменне перамешана папалам з іржавым жалезам. Ды каб жыць, трэба было ўтрымацца што б там ні было, і дрэва ўсімі сваімі каранямі прабівалася ўглыб, з вялікай цяжкасцю здабываючы сабе сокі.

Доўга ніхто не звяртаў увагі на адзінокае дрэўца—расце сабе і расце. І гэта была самая шчаслівая пара ў жыцці маладой таполі. Толькі сонца і дажджы не забывалі свайго выхаванца і ў цяжкую хвіліну заўсёды прыходзілі на дапамогу.

Ды вось і людзі пачалі звяртаць увагу на прыкметна акрэплую тапольку. Спачатку хлапчукі зрывалі зялёнае лісце і спрабавалі нагнуць гібкі ствол, але дрэва спружыніла і зноў выпрамлялася, з дакорам хістаючы кронай. Суседскі хлопчык, які ў сваім жыцці не пасадзіў ніводнага дрэва, выпальваў штогодна на ствале таполі павелічальным шклом сваё імя, ды час, раўнадушны да дабра і зла і абыякавы да славалюбства, настойліва сціраў гэтыя літары. Яны зацягваліся карой, пакідаючы на ствале шурпатыя сляды. А калі возчык будканторы воссю калёсаў садраў цэлы кавалак драўніны, час зарубцаваў рану толькі па краях, а ўсярэдзіне засталося дупло. Цяпер былыя саюзнікі дрэва—сонца і вецер—зрабіліся яго ворагамі, і зусім несвядома падточвалі сілы дрэва, яно не паддавалася часу і натужна скрыпела, калі вельмі навальваўся на яго вецер. Ды ніхто не прыслухоўваўся да голасу дрэва, і людзі раўнадушна прахадзілі міма.

Аднойчы бура пахіснула дрэва, і яно не магло выпраміцца. Марудна, з шумам яно падала на тратуар; як магло, яно папярэджвала прахожых аб небяспецы. І тут чалавек застаўся верным сабе: не — «Падумаеш, дрэва!» і не паглядзеў угору. Гэта была апошняя памылка чалавека, ды ўжо выправіць яе было немагчыма. Чалавек і дрэва загінулі адначасова. Каля іх тоўпіліся людзі, і нехта сярдзіта сказаў:

— Якое злое дрэва.

Чалавека павезлі на машыне, а дрэва стары возчык і вартаўнік парэзалі на дровы. Неўзабаве і пілавіне разнесла ветрам.

Гісторыя гэтая даўно ўжо забылася, нават пень выкарчавалі людзі. Стары возчык у печы спаліў сухія дровы, успамінаючы злое дрэва. А дрэва зырка гарэла ў печы, саграваючы людзей сваім цяплом. Нават згараючы, яно працягвала заставацца добрым.




**З 26 СНЕЖНЯ ПА 1 СТУДЗЕНЯ**

27 снежня, 21.55

**«ЛІРА»**

Спаўняецца год з дня выхаду у эфір гэтай мастацка-публіцыстычнай праграмы. Пра тое, якімі былі перадачы і водгукі на яе, разважае пісьменніца В. Іпатава.

28 снежня, 19,25

**«ПАЭЗІІ РАДОК ЧАРОЎНЫ...»**

Вершы Г. Містраль у перакладзе Р. Барадуліна чытае Г. Кухальская.

28 снежня, 21.50

В. Вярбоўская. «Я, Іван Дамінікавіч...». Прэм'ера тэлевізійнага спектакля.

31 снежня, 11.45

**«СВЯТА У ВІЛЕЙЦЫ»**

Перадача аб адкрыцці Дома мастацваў імя Н. Сіливановіча ў Вілейцы.

31 снежня, 12.25

**«НА ПРЫНЕМАНСКІХ ПРАСТОРАХ»**

Будзе расказана пра паездку беларускіх пісьменнікаў на радзіму К. Каліноўскага, паказаны кінанарыс пра ветэрана вайны і працы М. Біяліка з Зэльвенскага раёна.
Вядучы — Ю. Голуб.

31 снежня, 14.10

**«ЭКРАН: ПРАБЛЕМЫ, ГЕРОІ»**

Сёлета споўнілася 90 год вядомаму беларускаму пісьменніку, заслужанаму дзеячу мастацтваў БССР Р. Кобецу.
Вы пабываеце на вечары, які адбыўся ў Доме літаратара з гэтай нагоды.

31 снежня, 16.00

**«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ»**

У чарговым выпуску — нататкі з пленума праўлення Саюза пісьменнікаў БССР, прысвечанага праблемам літаратуры маладых.
Аб задачах таварыства «Мартыралог Беларусі» расказваюць С. Грахоўскі і У. Арлоў. Свае новыя вершы чытае А. Сыс. Г. Далідовіч знаёміць з планамі часопіса «Маладосць».

31 снежня, 17.40

**«СТУДЫЯ «ЭФІР» ПАКАЗВАЕ»**

«Яблыневая квецень». Тэлеспектакль паводле апавядання П. Раманава.
Рэжысёр — С. Зубчонак.
Ролі выконваюць: народны артыст БССР П. Кармунін, Е. Кавалёва, М. Смірноў.

31 снежня, 23.05

Прэм'еры Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларускай ССР. У праграме музыка Лучанка, Глебава, Смольскага, Алоўнікава. Мастацкі кіраўнік і дырыжор М. Фінберг.

1 студзеня, 13.40

**«РОДНАЕ СЛОВА»**

Пра гісторыю напісання і абвяшчэння Маніфеста часовага рэвалюцыйнага рабоча-сялянскага савецкага ўрада Беларусі пойдзе гаворка ў першым сюжэце. Затым доктар філасофскіх навук У. Конан раскажа, як вырашалася моўнае пытанне ў нашай рэспубліцы ў першыя гады Савецкай улады.

1 студзеня, 15.25

Прэм'ера песні. І. Лучанок. А. Лягчылаў. «Мая Беларусь».

1 студзеня, 17.10

Канцэрт майстроў мастацтваў БССР. Запіс па трансляцыі з Дзяржаўнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета БССР.

1 студзеня, 19.25

Канцэрт ансамбля народнай музыкі «Жывіца» Дзяржтэлерадыё БССР.
Мастацкі кіраўнік заслужаная артыстка рэспублікі В. Пархоменка.

1 студзеня, 23.05

**«СУСТРЭНЕМСЯ ПАСЛЯ АДЗІНАЦЦАЦІ»**

Інфармацыйна-музычная праграма.

**УДАКЛАДНЕННЕ**

У крытычным матэрыяле А. Падлужнага «Паводле чужой канцэпцыі» («ЛіМ» за 9 снежня г. г.) па віне аўтара дапушчаны фактычныя памылкі. У прыватнасці, прыводзячы прыклады тэкставага супадзення ў кнізе Л. Антанюк, ён не заўважыў спасылку на першакрыніцу.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск. На белорусском языке.

**«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»**

Выходзіць раз на тыдзень, па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856
АТ 01522
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.
ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-19-85, аддзела публіцыстыкі і нарыса — 33-19-65, аддзела пісьмаў — 33-19-65, аддзела крытыкі і бібліяграфіі — 33-22-04, аддзела прозы і паэзіі — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і тэлебачання — 33-21-53, аддзела музыкі — 33-21-53, аддзела выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 33-24-62, аддзела народнай творчасці і культасветработы — 33-24-62, аддзела інфармацыі — 33-24-62, аддзела мастацкага афармлення і фотаілюстрацый — 33-44-04, 33-24-62, карэктарскай — 32-20-64, бухгалтэрыі — 23-73-37.